*Светлай памяці маці –*
*Яніны Канстанцінаўны Трафімчык*

**Рэцэнзенты**
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Г.В. Далідовіч,
кандыдат філалагічных навук А.В. Вальчук

Аўтар сабраў пад адной вокладкай свае даследаванні творчасці і жыцця народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Як вынікае з назвы, чытач не толькі абновіць некаторыя свае веды, але і адкрые для сябе дагэтуль незнаёмыя бакі класіка як мастака слова. Даследуюцца таксама некаторыя біяграфічныя старонкі пісьменніка. Разглядаюцца асобныя моманты захавання памяці пра Песняра.

Аўтар не імкнуўся да сенсацый. Аднак месцамі Якуб Колас прадстаўлены як мінімум нечакана, што выклікае цікавасць да кнігі самага шырокага кола чытачоў.

У афармленні вокладкі выкарыстаны здымкі Руслана Гарбачова: «У страшнай дзічы» (Ласток, дзе захавалася хата Міцкевічаў), «Мой родны кут» (Альбуць), «Крынічкі вузенькае ложа»

## Змест

# Слова ад аўтара

У рэпрэзентуемым выданні аўтар адкрывае сваё вывучэнне жыцця, дзейнасці і творчасці слыннага сына зямлі беларускай, народнага паэта Якуба Коласа, вывучэнне, якое прапушчана праз даследчыцкае асэнсаванне.

З прычыны рознага фармату работы размеркаваны па раздзелах. Першы – найбольш дыхтоўны – склалі літаратуразнаўчыя даследаванні мастацкай творчасці Якуба Коласа – самай вядомай іпастасі чалавека, сапраўднае імя якога Канстанцін Міцкевіч. У прыватнасці аналізуецца, як, з якой такой прычыны сялянскі хлопчык стаў не проста пісьменнікам, а нацыянальным класікам. Яшчэ аўтара зацікавіла грамадзянская пазіцыя паэта адносна адной з самых трагічных старонак беларускай гісторыі – падзелу краіны 1921 г. Таксама разглядаецца адзін з аспектаў уплыву творчасці Якуба Коласа на далейшае развіццё беларускай літаратуры, а менавіта – дзіцячую драматургію.

Другая частка ў форме рознага кшталту нарысаў прыадкрывае некаторыя старонкі біяграфіі паэта, найперш жыццёвай. Але ж куды без аглядкі на творчасць?! У поле зроку патрапілі:

- стасункі паэта з кіраўніком Савецкай Беларусі П. Панамарэнкам;
- пасляваенныя кантакты з жыхарамі Ганцавіцкага раёна, у тым ліку з жыхарамі вёскі Люсіна, дзе малады Канстанцін Міцкевіч пачынаў свой працоўны шлях настаўнікам,
- і старончка з яго ранняй біяграфіі, з якой даведаемся, што ў свой час ён стаў кумам пінкавіцкіх сялян;
- а таксама ўзаемасувязі класіка з Казахстанам, Польшчай і Санкт-Пецярбургам.

Некаторыя неадпаведнасці ў рэцэпцыі Якуба Коласа іншымі людзьмі падштурхнулі аўтара гэтага выдання адазвацца, падыскутаваць. У першую чаргу – як найбольш карэктна адказаць на пытанне, у якім рэгіёне настаўнічаў выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (сёння звычайна кажуць “на Ганцаўшчыне”), а таксама – наколькі адэкватны стаіць помнік Якубу Коласу ў Ганцавічах, перш за ўсё зыходзячы з адносін да скульптуры яе аўтараў і журналістаў. Гэтыя артыкулы маюць хутчэй публіцыстычную падачу.

Завяршаецца кніга аўтарскім мастацкім драматургічным рымейкам па матывах казкі, апрацаванай Якубам Коласам.

Як пазначана, выданне мае навукова-папулярны характар. Аднак раздзел даследаванняў дый некаторыя іншыя работы выкананы згодна з навуковымі падыходамі і патрабаваннямі. Да таго ж ступень навуковасці павышаецца за кошт зробленай на грамадскіх пачатках працы шаноўных рэцэнзентаў – Генрыха Вацлававіча Далідовіча і Алены Валер’еўны Вальчук, якім аўтар адрасуе з гэтай нагоды нізкі паклон.

# Даследаванні творчасці

## 5 крыніц паэтычнага генія
## (да пытання станаўлення Якуба Коласа як беларускага класіка)

*Талент, як бачым, фармуецца доўга,*
*гэта ёсць вынік цэлага жыцця*
*з яго штодзённай самаахвярнай працай.*

Максім Лужанін

### Уступ

З'яўленне ў шматдзетнай сям'і беларускіх беззямельных сялян вялікага Паэта выглядае сапраўдным цудам. Найлепей гэты цуд высвечваецца ў параўнанні. Найперш з зоркамі першай велічыні суседніх літаратур – польскай і расійскай – адпаведна Адамам Міцкевічам і Аляксандрам Пушкіным. Кожны з іх – роўнавялікі для свайго народа. Значнасць Якуба Коласа для беларусаў не саступае нацыянальнай важкасці ні расійца Пушкіна, ні гадаванца польскамоўнай культуры, цёзкі па прозвішчы Адама Міцкевіча. Аднак апошнія адпачаткова знаходзіліся ў прынцыпова лепшых умовах творчага станаўлення. Акрамя пасіянарнасці расійскай і польскай культур, у якія ўліліся выхадцы адпаведна эфіопскага (Пушкін) і ліцвінскага (Міцкевіч) народаў (лепей сказаць этнасаў), дастаткова назваць ці не галоўны фактар культурнага станаўлення і першага, і другога – дваранскае паходжанне, якое абумоўлівала (нават сярод збяднелай шляхты) імкненне да набыцця адукацыі маладым пакаленнем. Гэтага не мелі сяляне. А беларускі Міцкевіч, будучы народны паэт Якуб Колас, менавіта з іх – з той непісьменнай сялянскай масы, якая ў канцы XIX ст. заявіла вуснамі першых сваіх інтэлектуалаў пра роўнасць сваёй мовы з заходнееўрапейскімі (Ф. Багушэвіч), а напачатку XX ст. – пра жаданне "людзьмі звацца" (Янка Купала). Варта падкрэсліць, што і Ф. Багушэвіч, і Янка Купала таксама мелі шляхецкае паходжанне. Таму і ў кантэксце беларускага нацыянальнага адраджэння з'яўленне Якуба Коласа неабходна лічыць фенаменальным, кангеніяльным хіба толькі генезісу слыннага ўкраінскага Кабзара Тараса Шаўчэнкі.

Пра гэты, па-свойму тэасафічны ірацыяналізм узнікнення пісьменніцкай постаці беларускага Песняра ярка, хораша сказала В. Іпатава ў вершы-прысвячэнні Якубу Коласу "Талент":

Ноч ляжала бяззорнаю, цяжкаю кучмай
На вільготных хацінах,
І спала зямля.
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў, як нягучна
У Акінчыцах плача сабе немаўля.

Лесніковая хата. Чадзее газнічка.
Калаўрот. Залацістыя пасмы ільну.
І дзіця.
І над лёсам – зіхоткая знічка,
І матуля прымружыла вочы ад сну.

І не бачыла, хто дакрануўся да сына.
Палыхнула святло.
Адступіла імгла.
І хіснулася хата, нібыта віціна,
І адбіткам на Вечнасці ўдаль паплыла.

Навуковец пасля раскладзе, як па ГОСТу:
Напачатку эпоха, асоба – пасля.
Быў для Генія час…
Адбывалася ж – проста:
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў немаўля…[1]

За наяўнасцю цудадзейнага фактара хацелася б знайсці рацыянальныя чыннікі, якія "стварылі" з сялянскага сына шматдзетнай сям'і Костуся Міцкевіча народнага паэта Якуба Коласа, прасачыць дэтэрмінізм праяўлення яго літаратурна-мастацкага таленту. Знайсці адказ на пытанне, сфармуляванае асабістым сакратаром Песняра Максімам Лужанінам: "Што ж абудзіла яго, што рушыла ў рост і найбольш паспрыяла, што, калі і як паставіла яго на лясную трэль, якую ён зрабіў прасторнай дарогай паэзіі, каб уцілася яна ў неаглядныя чалавечыя шляхі думання і барацьбы?"[2]

Жыццё і творчасць народнага паэта Якуба Коласа вывучалася здаўна. Але звычайна ўвага даследчыкаў факусіравалася на выніках дзейнасці чалавека і пісьменніка. Непасрэдна тэме чыннікаў і вытокаў Коласавага генія даследчыкі яго жыцця і творчасці прысвяцілі ўвагі недастаткова. Мала хто задаваўся мэтай сістэмна *спазнаць* карані творчых поспехаў Песняра, прыадкрыць іх таямніцу. Тым больш што за савецкім часам даследаванні ішлі па калідорах, схемах сацыялістычнага рэалізму і партыйнасці (хаця і тады ў галіне коласазнаўства літаратуразнаўчая навука і крытыка мелі здабыткі, якія не старэюць з грамадскімі пераменамі). На сучасным этапе ўздымаемая намі тэма не станавілася аб'ектам непасрэднай увагі даследчыкаў, прысутнічаючы ў работах некаторых літаратуразнаўцаў толькі фрагментарна.

Менавіта ўжо згаданы М. Лужанін, найбольш набліжаны да Якуба Коласа ў пасляваенны перыяд жыцця класіка, асвятліў многія старонкі акрэсленай намі тэмы, рэпрэзентуючы квінтэсенцыю сваёй аповесці-эсэ яшчэ ў пачатку кнігі пра Песняра, заснаванай на гутарках з ім самім: "…Для таго каб першая песня пастукалася ў сэрца вясковага падлетка, усё, як кажа прымаўка, складалася адно да аднаго: турботы ўласнага таленту, уплыў блізкіх людзей і патрабаванне народа – мець смелыя і праўдзівыя вусны"[3].

З агульнага шэрагу навуковых даследчыкаў неабходна вылучыць лідара ў галіне коласазнаўства прафесара, члена-карэспандэнта НАН Беларусі М. Мушынскага, які ад пачатку сваёй навуковай дзейнасці звяртаўся да вывучэння генезісу стварэння твораў, і ў далейшым паглы-

1 Іпатава В. Задарожжа. Лірычныя, гістарычныя, грамадска-публіцыстычныя вершы апошніх гадоў. Менск, 2004. С. 64
2 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 7.
3 Там жа. С. 10.

бляючы і пашыраючы свой даследчыцкі далягляд[4] . Таму меркаванні шаноўнага навукоўца так ці інакш будуць часта ўжывацца ў дадзеным даследаванні, стануць, вобразна кажучы, не раўнуючы цаглінамі (часам метадалагічна, верыфікацыйна краевугольнымі) для ўзвядзення яшчэ аднаго літаратуразнаўчага (магчыма, лепей сказаць творчазнаўчага) будынка.

Звернем увагу, намі ставіцца на мэце не канструкцыя гісторыі ўзнікнення і фарміравання твораў Якуба Коласа, а выяўленне тых глыбінных, але інтэлегібельных, пазнавальных мысленнем, жыццёвых штуршкоў узнікнення і фарміравання твораў, прычым твораў галоўных – тых, якія прызнаны пярлінамі высокага мастацтва слова, тых, якія іхняга аўтара ўзнеслі да вышынь абсалютнага класіка, а беларускую літаратуру і культуру адкрылі найперш самім беларусам дый усяму свету.

Канешне, для фарміравання велічнай постаці народнага паэта была важнай кожная драбностка жыцця як яго самога, так і ў цэлым беларускага народа. Тым не менш напэўна існуюць галоўныя чыннікі – тыя паваротныя, канцэптуальныя фактары, якія ляглі ў падмурак вядомай на ўвесь свет і кожнаму беларусу Коласавай велічы, ягоных бессмяротных твораў. У многім менавіта праз аналіз анталагічных мастацкіх дасягненняў, дакладней, штуршкоў іх стварэння спасцігаецца і феномен Песняра. А гэта – такія палотны, як “Новая зямля”, “Сымон-музыка”, “У палескай глушы”, а таксама шматлікія вершы, якія сталі ўзорнымі для беларускага прыгожага пісьменства. Як справядліва піша М. Мушынскі, «аўтар “Новай зямлі”, “Сымона-музыкі”, “Казак жыцця”, “палескіх аповесцей”, шэрагу вершаў і апавяданняў узняў беларускую літаратуру на якасна новы эстэтычны ўзровень у параўнанні з папярэднім перыядам: узняў менавіта як мастацтва слова, праяву і адбітак духоўнай дзейнасці народа»[5] . Асобна і асабліва выдзяляецца “энцыклапедыя беларускага сялянства” (Алесь Адамовіч): «“Новая зямля” – твор невычэрпнай вобразна-сэнсавай глыбіні, галоўная кніга не толькі творчасці Коласа, але і ўсяго беларускага прыгожага пісьменства. І колькі будзе існаваць народ, столькі суджана жыць і паэме “Новая зямля”»[6] . «Яе, здаецца, бясконцая класічная глыбіня ў непасрэдным сэнсе вынік тых жыццёвых прадонняў, з якімі сустрэўся тады яшчэ малады аўтар, што з прызваннем інтэлігента ў першым пакаленні выходзіў з самай гушчы народнай паслужыць асмяяным родным словам справе нацыянальнага абуджэння. А ўмовы трохгадовага турэмнага зняволення (1908 – 1910 гг.[7] ), у якіх пісаліся раздзелы паэмы, часткаю канфіскаваныя, паўторна ўзноўленыя і зберажоныя пад кашуляй у час вобыскаў, сведчаць пра разуменне паэтам творчасці на роднай мове больш за звычайны літаратурны занятак. Калі не пры ранняй задуме твора (напачатку гэта былі паасобныя фрагменты, нават самастойныя вершы), дык пра яго завяршэнні ў 1923 г. паэма “Новая зямля” з яе і па сёння неразгаданай ідэяй мыслілася паэтам як вялікі на-

4 Мушынскі М. Ад задумы да здзяйснення. Творчая гісторыя “Новай зямлі” і “Сымона-музыкі”. Мінск: Навука і тэхніка, 1965. 143 с.

5 Мушынскі М. Мае каласавіны: з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск : Беларус. навука, 2010. С. 11.

6 Там жа. С. 21-22

7 Так у А. Яскевіча, насамрэч трэба: 1908 – 1911 гг.

цыянальны эпас, якому па заглыбленым пранікненні ў сялянскае жыццё, магчыма, і аналагаў не было тады ў сусветнай літаратуры», – дапаўняе вядомы літаратуразнавец А. Яскевіч[8] .

Не ставячы на мэце ахапіць неабдымнае, хацелася б усё ж сфармуляваць, вербальна выкрышталізаваць тыя чыннікі, коратка акрэсліўшы іх дэтэрмінізм для творчай эвалюцыі Якуба Коласа.

## 1. "Мой родны кут": "...і з таго часу па сягоння мне сонцам свеціць Наднямонне"

Чатырохрадкоўе Гётэ выкладае простую, але геніяльную ісціну:

Wer das Dichten will verstehen
Muss ins Land der Dichtung gehen;
Wer den Dichter will verstehen
Muss in Dichters Lande gehen[9] .

Беларусь невыпадкова стала краінай паэтаў. Як сказаў народны паэт П. Панчанка, "там песняроў – нібыта маку, / Аж статыстыка дае ў падліках маху" (верш "Край паэтаў")[10] . Кожнае лапіка краіны – сваёй прыгажосцю, хараством прыроды – спрыяе ўсходам паэтычных парасткаў. І родны кут Якуба Коласа – не выключэнне. Наднямонне – сэрца Беларусі, яе сонечнае спляценне. Тут на аснове глыбокай славяншчыны канцэнтрацыя беларушчыны развілася ці не ў найбольшую шчыльнасць. Беларушчыны – па-народнаму натуральнай, усмактанай з матчыным малаком, не ўзятай у палон штучнымі інтэлегібельнымі формамі, якія да нашага часу выцясняць ці як мінімум падсунуць тую натуральнасць. Таму не дзіўна, што на гэтай зямлі восенню 1882 г. убачыў свет парастак *коласа,* якога яшчэ не мела *наша ніва:* у сям'і палясоўшчыка Міхала Міцкевіча нарадзіўся трэці сын, названы Костусем.

Філосафы кажуць: "Культура – заўсёды спалучанасць чалавека і ландшафту; яе цяжка ўявіць па-за звароту да ландшафту. Бачанне культуры мае на ўвазе ландшафт. Бачанне ландшафту мае на ўвазе культуру. Звяртаючыся да ландшафту, можна шмат даведацца пра культуру; ландшафт – яе нечаканая сфера, сведчанне, адваротны бок"[11] , і прыклад творча-культурнай эвалюцыі Міцкевіча-Коласа – яркае таму пацверджанне, якое пачынаецца, натуральна, з нараджэння.

Уражанні дзяцінства кшталтуюць чалавека, суправаджаюць усё яго жыццё. Зразумела, гэта вядома было і да прызнанага тут аўтарытэтам Фройда, сучасніка нашага паэта. Але беларускі творца ў сілу аб'ектыўных абставін грамадскага развіцця наўрад ці мог знаць пра тую тэорыю аўстрыйскага псіхааналітыка. Тым не менш Якуб Колас ўздыхае:

---

8 Яскевіч А. Нашаніўскае адраджэнне: станаўленне класічнага нацыянальнага стылю // Янка Купала і Якуб Колас і дзяржаўна-культурнае будаўніцтва / В.А. Максімовіч [і інш.] ; навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск: Беларус. навука, 2007. С. 202.

9 Хто хоча зразумець Паэзію,
Павінен пабываць у Яе краіне;
Хто хоча зразумець паэта,
Павінен наведаць яго краіну. (Парадкоўны пераклад наш. – А. Т.)

10 Панчанка П. Пры святле маланак. Мінск: "Беларусь", 1966. С. 5

11 Каганский В.Л. Ландшафт и культура // Общественные науки и современность, 1997, № 1. С. 134.



**Інтэр'ер адноўленай для музея хаты ў Акінчыцах, дзе нарадзіўся Канстанцін Міцкевіч.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)



**Ласток, другое месца жыхарства сям'і пасля нараджэння Костуся, дзе захавалася хата Міцкевічаў.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

Эх, досвітак маленства, лета!
Вамі навек душа сагрэта! [Т. 8, с.234][12]

У Коласавым выпадку найвышэйшы ўзровень тых уражанняў прыпаў на ягоны "альбуцкі" перыяд.

Парэчча – слаўная мясціна,
Куток прыгожы і вясёлы:
Як мора – лес, як неба – долы… [Т. 8, с.108]

Такімі глабальна-касмічнымі маштабамі адгукаюцца з дзяцінства "малюнкі родныя і з'явы" перайменаванай у паэме Парэччам вёсачкі Альбуць, якая тым часам была недасягальнай для аўтара, бо пасля заключэння Рыжскага дагавора 1921 г. засталася па заходні бок мяжы падзеленай Беларусі. Пры Коласавых успамінах роднага куточка звяртае на сябе ўвагу менавіта дыяпазон маштабнасці: ад ахопу сусветнага ўзроўню да ўглядання ў мікраскапічныя (як можна палічыць) моманты жыцця, бытавыя, паўсядзённыя, бачачы і ў іх (перадусім у іх!) паэзію – у "вузенькім ложы" крынічкі, у "елцы ў пары з хваіною", "гожай падкове" лесу, "калоссях жыта" і г. д. Таму паэт не саромеецца амаль таўталогіі ў сваім самым геніяльным творы пра тое, наколькі ён жывіцца ўспамінамі:

…Ды я душою ажываю,
Як вокам мыслі азіраю
Цябе, мой луг і бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны… [Т. 8, с.9]
…Я родны край успамінаю,
Я ім жыву, я ў ім душою
І сэрцам кожнаю парою… [Т. 8, с.159]

Паэзію прыроды будучы класік успрыняў і адчуваў з маленства: "Малюнкі навакольнай прыроды былі вельмі простымі і няхітрымі, але тым не менш яны моцна дзейнічалі на мяне і глыбока западалі ў душу"[13] , – прызнаваўся ў аўтабіяграфіі 1913 г. малады і ўжо знакаміты паэт. Свае перажыванні ад судакранання з нёманскімі пейзажамі творца пачаў занатоўваць з самага пачатку творчага шляху, калі напісаліся радкі пра вясну, адораныя бацькам ажно сярэбраным рублём. Але любая пара года была любімай Коласам. Нават зімовыя малюнкі выклікаюць проста вясёлкавыя настроі ў падлетка Костуся, што ён пасля па-мастацку маляўніча выпіша асобным раздзелам "Новай зямлі" – "На рэчцы", пейзажныя радкі якога знітаваны з філасафічнымі асацыяцыямі:

І праўда: рэчачка-крынічка,
Хаця і мелка, невялічка,
Але такую сілу мае,
Што лёд угору падымае
І ломіць глызу, як націну. [Т. 8, с.169]

У кожнага ёсць свой родны кут. І, бадай, кожнаму край свайго маленства непаўторны. Таму і нараджаюцца ўсклікі захаплення:

---

12 Колас Я. Збор твораў : у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007 – 2012. У далейшым спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца па гэтым выданні (за выключэннем асобна ўказаных выпадкаў) у квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі.

13 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 18.

І дзе на свеце ёсць такая,
Як Нёман рэчанька другая? [Т. 8, с.223]

Як адзначае У. Казбярук, «малюнкі прыроды адыгрываюць у "Новай зямлі" асабліва важную ролю – ідэйную і кампазіцыйную. Увесь першы раздзел – "Леснікова пасада" – уяўляе з сябе ўводзіны ў духоўную атмасферу твора. Якуб Колас усхвалявана апявае тое, што з'яўляецца найдаражэйшым яго сэрцу, – родны куток, якому адрасуе прачулыя творы любові і адданасці. Гэта асноўны матыў паэмы, якая стала гімнам роднай зямлі, яе непаўторным краявідам»[14] .

Варта дадаць, што створаны Песняром гімн роднай зямлі экстрапалюецца на ўсю Беларусь, выходзіць за межы "роднага кута", які геаграфічна з'яўляецца якраз сэрцам краіны, у чым бачыцца не выпадковасць, а пэўная зададзенасць нацыятворчага развіцця. Напэўна, так сталася незалежна ад паэта. Аўтар хутчэй сам трапіў у залежнасць ад прыроднага кантэксту (што, аднак, не змяншае Коласавых заслуг як мастака). Шырока працытаваўшы пейзаж, якім адкрываецца "Новая зямля", Я. Лёсік яшчэ да выхаду паэмы цэльнай кнігай зазначыў: «Гэта малюнак таго куточку Беларусі на Меншчыне, дзе рос і гадаваўся поэта, але – ці-ж гэта не агульны малюнак усяе Беларусі, "заўсёды смутнае, як удовы"? Ці-ж ня гэтак-бы абмаляваў сваю мясцовасьць кожны з нас, у якім-бы куточку Беларусі ён не радзіўся?»[15] Неўзабаве развіў і дапоўніў думку прафесар І. Замоцін: "На гэтай невялікай топографічнай плошчы (дзе адбываецца асноўнае дзеянне ў паэме "Новая зямля". – А. Т.) поэт сьціcла і ў той-жа час конкрэтна ўлажыў свае сапраўдныя назіраньні над беларускім жыцьцём. Тут зьмясьціўся ўвесь характэрны беларускі рэльеф і пэйзаж – ад берагового ракітніку да лясной глушы, ад травой заросшай крынічкі да "срэбраводнага Нёмана", ад балота, паросшага старымі бярэзінамі, да шырокіх зялёных лугоў, залітых праменьнямі сонца. На гэтым географічным кусочку Беларусі сабраў аўтар амаль ня ўсе характэрныя для яго радзімы пароды дрэваў, ад лазы і крушыны да тых старых дубоў, што стаяць над вадою "даўнейшых спраў вартаўнікамі", ён сабраў усе адценні беларускага неба, усе зьмены пагоды ад "ветрыка" да "вятругі", зьмясьціў тут усе поры году, увесь гаспадарскі абыходак беларуса, яго будзённы клопат і справы і сьвяточныя звычаі і весялосьці, уключаючы сюды і запраўдныя народныя песьні. Мала таго, аўтар у скромных топографічных асадках свае поэмы, на абшары між Слуцкам і Нясьвіжам, Нясьвіжам і Менскам, зьмясьціў усю вякамі цяжкай гісторыі зложаную душу беларуса з яго жыцьцёваю мудрасьцю працы, працоўнай мораллю і працоўным прадстаўленьнем аб людзкім шчасьці і людзкай праўдзе"[16] .

Як бачна з шырока цытуемых меркаванняў, на фактар роднай прыроды ў станаўленні Якуба Коласа на паэтычнае крыло зважалі многія даследчыкі – як сучаснікі народнага паэта, так і літаратуразнаўцы дня

14 Казбярук У. "А праўда мне ўсяго дарожай…": Перачытваючы "Новую зямлю" // Роднае слова, 1995, № 10. С. 93.

15 Даклад Я. Лёсіка – "Нацыянальны элемент у творчасці Якуба Коласа і Тараса Гушчы" // Адраджэньне, 1922, Сшытак 1. С. 291

16 Замоцін І. Пуціны беларускай літаратуры // Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Да дваццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасьці / Злажыў Ул. Дзяржынскі. Менск: Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, 1926. С. 59-60

сённяшняга. Гэты дэтэрмінізм настолькі відавочны, што не патрабуе дадатковай інтэрпрэтацыі прыведзеных цытат. Асабліва ён “выпірае” ў такім творы, як перасыпаная замалёўкамі паэма “Новая зямля”, у пейзажнай лірыцы. Цікавае ўздзеянне дадзенага фактару прасочваецца і ў многіх іншых і, што важна, найлепшых творах класіка.

Падабенства дэтэрмінізму той жа У. Казбярук выяўляе стасоўна ўзнікнення яшчэ адной славутай паэмы Якуба Коласа: “Дзяцінства Кастуся прайшло ў лесніковых сялібах Ласток… і Альбуць на ўлонні чароўнай беларускай прыроды, якую з тых часоў ён палюбіў на ўсё жыццё. Непаўторная краса наднёманскіх лугоў, лясных палян, таемны і ўрачысты шум лесу зачароўвалі ўражлівага хлапчука. Маломү Кастусю ўяўлялася, што ён разумее, аб чым шуміць лес, пяюць жаваранкі, булькоча ручаёк, галосіць зімовы вецер. І, бясспрэчна, у пачуццях героя паэмы “Сымон-музыка” шмат уражанняў дзіцячых гадоў самога Якуба Коласа”[17] .

Паэт асабіста падкрэсліваў аўтабіяграфічнасць перажыванняў, якімі надзяліў ён хлопчыка Сымонку: «Крытыкі гавораць увесь час: “Новая зямля” – аўтабіяграфічны твор, бо гэта само вачам назаляе. А пра “Сымона-музыку” ніхто ў такім кірунку не абазваўся. <…> Перада мною стаяў уласны лёс. Рупіла расказаць, што вось і мае чалавек нешта за душою, а ніяк не выплыве напаверх у гэтым свеце. <…> З гэтых усіх разваг (пра жыццёвыя – дзіцячыя, семінарскія, настаўніцкія, валацужныя, урэшце турэмныя і паслятурэмныя перажыванні. – А. Т.) і вынікла задума: напісаць твор з пяці частак, адпаведна ліку абведзеных у мыслях наўкруга сябе колаў»[18] . Таму, ідучы следам за папярэднімі даследчыкамі, не памылімся, калі ўбачым тоеснасць паміж успрыманнямі прыроды героя і Костуся ў дзяцінстве:

І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго спявае ўголас
Мушка, конік, авадзень,
Што ўгары над срэбрам жыта
Пяе жаваранак той
Так прыгожа-самавіта,
І зачым у высь блакіту
Ідзе ветрык пехатой… [Т. 9, с.11-12]

Такім чынам, на ўзроўні інтуітыўным прыродны пачатак у творчым патэнцыяле Якуба Коласа быў закладзены ад нараджэння, “ад роднае зямлі, ад гоману бароў, ад казак вечароў, ад песень дудароў...” [Т. 9, с.6] У прыватнасці што датычыцца “Новай зямлі” прафесар А. Яскевіч піша: «Настраёвым камертонам паэмы і яе асноўным эмацыянальна пераўтваральным каталізатарам з’яўляецца паслядоўна праведзенае лірычнымі адступленнымі (раздзелы I, XIV, XVI, XVIII, XXX і інш.)

---

17 Казбярук У.М. Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры. Выд. 2-е, дапрац. Мінск: “Нар. асвета”, 1975. С. 7

18 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск : Маст. літ., 1982. С. 119-120.

узнаўленне падзей праз успаміны маленства, агністымі азарэннямі, першаадкрыццямі якога ў канчатковым выніку вобразна перайначана, бясконца сагрэта, святліста ўзвышана ўся, здаецца, такая прыземлена побытавая матэрыя твора. Бо тады нараджаўся паэт, адчуваў роднае ўлонне як рай зямны, нягледзячы на ўсю шматпакутнасць вясковага ладу жыцця. Такая патаемная "алхімія" мастацкіх пераўтварэнняў жыццёвага матэрыялу!»[19] Ж. Шаладонава прытрымліваецца думкі, што "на мове ландшафтаў з чалавекам размаўляе Бог" і што "ў мастацкую задачу пісьменнікаў уваходзіць патрэба па магчымасці найбольш поўна і дакладна зразумець і перадаць гэту мову ў сваіх творах"[20] . Пагаджаючыся з меркаваннем даследчыцы, дадамо, што названы тэзіс кангеніяльна, шырока спраўдзіўся ў творчасці Якуба Коласа. Прычым незалежна ад яго самога, неспазнанымі сіламі сялянскі хлопчык быў абраны свайго роду перакладчыкам, талмачом з мовы прыродных стыхій на людскую *гаворку* (менавіта гаворку: калі ўлічыць, што беларуская тады многімі за мову і не прымалася, бо яе літаратурны варыянт знаходзіўся толькі ў стадыі актыўнай распрацоўкі). Як адзначыць паэт пазней, пры напісанні "Новай зямлі", "і з таго часу па сягоння мне сонцам свеціць Наднямонне" [Т. 8, с.221].

Рацыянальнае, свядомае асэнсаванне наступіла, па ягоных жа словах, пазней, калі ён быў ужо прызнаным і знакамітым. Гэта адбылося ў 1924 г., падчас творчага адпачынку ў Кіславодску пад уражаннем ад фінскага эпасу "Калевала": «…"Калевала" як пабунтавала мой спакой, так і падказала выхад. І шматлікія стваральнікі яе, і я – усе пілі з адной крыніцы, але фіны знайшлі яе на беразе мора, сярод скал, а мы – у сваіх барах і балотах»[21] . Сучасны даследчык Коласавай спадчыны І. Жук разгарнуў гэту думку аўтара "Сымона-музыкі", пашырыў яе, яшчэ больш "глабалізаваўшы" вытокі беларускага твора[22] .

Акрамя Наднямоння, Якубу Коласу палюбілася сваёй прыродай Палессе. Калі мысліць вобразна, то родны кут паэта можна назваць сэрцам (і яго самога, і ўсёй краіны – балазе, як вышэй адзначалася, Наднямонне размяшчаецца ў самым яе цэнтры), а палескі край – лёгкімі, якія надалі дыханне творчай жыццядзейнасці маладому настаўніку Канстанціну Міцкевічу (па аналогіі з яшчэ адной метафарай Палесся як "лёгкіх Еўропы"). Гэты дадатковы ключ, выток выліўся ў напісанне палескіх аповесцей. *У палескай глушы* мастак слова пранікся яшчэ адным куточкам Беларусі не менш, чым наднямонскімі краявідамі: "Яму (Лабановічу – А. Т.) па душы быў і гэты глухі куток Палесся, аб якім яшчэ дома так многа цікавага наслухаўся ад аднаго старога аб'ездчыка, і гэты народ з яго асабліваю моваю і звычаямі, так не падобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх выйшаў Лабановіч; гэты некрануты край

---

19 Яскевіч А. Нашаніўскае адраджэнне: станаўленне класічнага нацыянальнага стылю // Янка Купала і Якуб Колас і дзяржаўна-культурнае будаўніцтва / В.А. Максімовіч [і інш.] ; навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск: Беларус. навука, 2007. С. 203

20 Шаладонава Ж. Якуб Колас і Максім Рыльскі: тыпалогія творчасці // Каласавіны-2011 (у друку).

21 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 126.

22 Гл. падрабязней: Жук І. "Вечны" сюжэт і "новы" герой: *Сымон-музыка* Якуба Коласа ў кантэксце змены літаратурнай парадыгмы // Studia Białorutenistyczne 2. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2008. S. 192-200.

старажытнасці, якая на кожным кроку кідалася ў вочы і затрымлівала на сабе ўвагу, і гэты выгляд самой мясцовасці, агульнага тону якой не мог яшчэ ўлавіць Лабановіч, але ў якой таксама было многа цікавага і, на яго погляд, павабнага” [Т. 13, с.11].

Дамо слова і самому класіку, які, як мы ведаем, з’яўляецца прататыпам свайго галоўнага героя Андрэя Лабановіча. І каб чытач не сумняваўся ў тоеснасці літаратурнага героя і жывога чалавека, напомнім словы прызнання Якуба Коласа: “Лабановіч – мой двайнік. Выдуманага ў яго паводзінах і характары нічога няма”[23] . Таму захапленні літаратурнага героя тоесныя пачуццям яго аўтара: “А прырода! Колькі вялікага задавалення дае нам яна! Бо прырода – найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы – хіба ж гэта не ёсць шчасце? Адно толькі шкада, што наша жыццё несуразмерна малое для таго, каб начытацца гэтай кнігай” [Т. 13, с.12].

Палескія ўражанні, такім чынам, былі настолькі моцнымі, дзейснымі, пакінулі такі трывалы адбітак на душы, што гэта нават праз два дзясяткі гадоў прывяло пісьменніка да выкладання іх на паперы, у выглядзе мастацкага слова.

Максім Лужанін таксама задумваўся над фактарам прыроды ў Коласавым феномене: “Успамянём, перад усім, багацце ўласнай душы і здольнасць пры дапамозе слова дзяліцца гэтым багаццем з іншымі, адным чынам, тое, што ў звычайным абыходку называюць пісьменніцкім талентам. Але ці ёсць талент тым шчаслівым дарункам, які атрымлівае чалавек ад прыроды пры нараджэнні і нясе яго праз жыццё як нешта раз і назаўсёды дадзенае і таму нязменнае?” [24]

Абмежаваўшы рацыянальны погляд на феномен таленту Якуба Коласа гётэўскім метадам, працытаваным вышэй у вершаванай страфе, усё ж не стварыць паўнавартаснай карціны. Гэта быў праверыў і М. Лужанін:

“Я кінуўся на коласаўскія мясціны, зрабіў пешкі падарожжа па беразе Нёмана, не адзін дзень правёў на абтупаных паэтам лясных сцяжынах у гонкіх шчырых барах, слухаў, як шумяць любыя ягонаму сэрцу дубовыя гаі. Пасля пачаў адчыняць дзверы ў леснічоўкі, дзе жыў ён некалі, распытваўся у аднавяскоўцаў, выхопліваў кожнае цікавае слоўца ў братоў і сясцёр.

Усё як быццам станавілася на месца: людзі, прырода, абставіны, а жывога дыхання ў вобразе так і не з’яўлялася”[25] .

Таму сярод генеральных чыннікаў выяўлення Коласавага генія прырода роднага кута і Пінскага Палесся, натуральна-народны каларыт культурнага кантэксту, усмактаны з мацярынскім малаком, займаюць месца першае, але не выключна першаснае, не адзіна галоўнае (інакш паэтамі станавіліся б усе народжаныя ў падобным прыродным кантэксце). Следам за гэтым, дзякуй Богу, да ўзгадавання, выспельвання літаратурнага *коласа* актыўна спрычыніўся яшчэ шэраг не менш значных фактараў, якія далучаліся да каталізацыі творчага росту будучага класіка потым, па меры яго сталення, выток якога – у крыніцах, якія білі з-пад радзімых парогаў.

---

23 Колас Я. Збор твораў : у 14 т. Том 14 : Пісьмы 1950 – 1956 гг. Дзённікі. Летапіс жыцця і творчасці. Алфавітны даведнік твораў да 1 – 12 тамоў. Паказчык імён да 11 – 14 тамоў. Даведнік па адрасатах да 13 – 14 тамоў. Мінск: Маст. літ., 1978. С. 73.
24 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 7.
25 Там жа. С. 11.

## 2. "А дома з дзецьмі была маці..."

«А што ж было на самым перадзе, што вылучала не паэта, а хлапчука з паэтычнымі задаткамі? Відаць, толькі адно: непасрэднае ўспрыманне, блізкае адчувальнасцю да фатаграфічнай плёнкі, здольнай утрымліваць адбіткі падзей, твараў, родных з'яў і вобразаў, усяго на што б ні пасвяціў сонечны прамень з уласнага дапытлівага вока.

Ці магла адна гэта якасць паставіць хлапчука на дарогу паэта? Хутчэй за ўсё – не. Так і марнавалася б, намнажаючы адбіткі, "плёнка" ўспрымання, каб не "праявіла" яе асяроддзе, людзі. У першую чаргу – блізкія, на чыім малацэ і мазалі ён узгадаваўся, ад каго пачуў першае сугучча роднай песні, першую скаргу на крыўдны лёс»[26] .

Так піша ўсё той жа Максім Лужанін, яшчэ праз колькі старонак на аснове слоў самога Якуба Коласа выдзяляючы матулю будучага паэта, тонкі і мяккі лірызм яе душы: "І другое, што ўражвала больш за ўсё: матчын голас. Нават калі яна сварылася на нас і пачынала ўшчуваць, голас не траціў мяккасці і дабраты. Я вельмі любіў, як яна спявала. <...> Управіўшыся з чарнейшаю работаю па хаце і па гаспадарцы, маці садзілася, як на адпачынак, за верацяно або за шытво. Яна спачатку абзывалася ледзь чутна, тонка-тонка, як шчыгол, прабуючы голас, ці не ахрыпла часам за ноч. Потым матчына песня бралася ў сілу і запаўняла хату. <...> А ўлюбёная матчына песня расказвала пра нешчаслівае каханне, і галоўнаю асобаю, разлучнікам, выступаў Нёман"[27] .

Іншым разам, у артыкуле 1936 г. пад красамоўнай назвай "Як я стаў беларускім пісьменнікам" сам Якуб Колас зноў успомніць: "Дома ад мацеры я чуў сумныя песні аб цяжкай долі, казкі і легенды, расказы аб розных дзівосных здарэннях, аб усялякіх выпадках, якія бываюць з людзьмі. Усё гэта будзіла фантазію, выклікала думкі" [Т. 17, с.391]. Гэтыя словы з'яўляюцца вельмі паказальным сведчаннем, асабістай ацэнкай паэта ў яго творчым станаўленні.

Нават даволі скупыя звесткі пра маці будучага класіка сведчаць, што яна была надзелена глыбокай душэўнасцю, якая, несумненна, перадалася і малому Костусю ў спадчыну. Пазней сам паэт піша: "Маці мая, Ганна Юр'еўна, з Лёсікаў, зусім няграматная, але разумная ад прыроды і добрая жанчына"[28].

Нягледзячы на вялікую колькасць дзяцей у сям'і, кожнаму з іх маці аддавала душу без астатку. Вобраз матулі ў "Новай зямлі" – адзін з самых сардэчных у беларускай літаратуры. Як піша праўнучка Ганны Юр'еўны і ўнучка Якуба Коласа Вера Міцкевіч, «хараство жанчыны-маці, яе народная мудрасць і дабрыня, сялянская праца і пастаянныя турботы аб дзецях раскрываюцца ў творах Якуба Коласа, перш за ўсё ў паэме "Новая зямля", а таксама ў прозе, у вершах»[29] . І ніякага сумнення, што мастацкі вобраз матулі цалкам тоесны прататыпу. Вядомы даследчык літаратуры М. Тычына наконт гэтага заўважае: «Вобраз маці на поўны рост Якуб Колас паказаў у паэме "Новая зямля". Ён займае ў сюжэце такое важнае

26 Там жа. С. 9.
27 Там жа. С. 20.
28 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябіблііягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 24.
29 Міцкевіч В. Маці Якуба Коласа // Роднае слова, 1995, № 6. С. 174-175.

месца, як і вобразы Міхала і Антося… Найбольш складаная задача, якую паставіў перад сабою паэт, заключалася ў тым, каб узвесці ў ранг літаратурнага персанажа, вартага ўвагі дасведчанага чытача, менавіта Ганну – захавальніцу сямейнага агменю, стваральніцу хатняй утульнасці, сялянскага дабрабыту. <…> Не будзе перабольшваннем сказаць, што Якуб Колас упершыню ў сусветнай літаратуры свядома і мэтанакіравана паэтызаваў звычайнае жыццё звычайнага чалавека. Будучы верным “натуры”, ён вокам закаханага ў беларускія краявіды і захопленага харaством душы беларускага люду бачыў тое, што было закрыта для пабочнага назіральніка»[30] .



**Маці за працай. Мастак Лазар Ран.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

Нельга абмінуць і наступны важны штрых. Паводле М. Тычыны, “маміны казкі, песні, мова, як пазней не раз успамінаў Якуб Колас, тады, калі адчуў смак да літаратурнай творчасці, дапамаглі яму зрабіць адказны выбар, на якой мове пісаць… Матчына мова нібы павяла за сабой”[31] .

З маці як чыннікам творчага развіцця Якуба Коласа звязаны і яшчэ адзін – біялагічны – момант.

Старэйшы сын Канстанціна Міцкевіча піша пра сям’ю свайго дзеда Міхала:

“…У 1883 г. нарадзілася дачка Ганна (памерла дзіцем), а ў 1884 г. – хлопчык, якому не паспелі нават даць імя.

…У 1885 г. нарадзілася дачка Віцця, якая хутка памерла. Яшчэ адну дачку, што нарадзілася ў 1886 г., назвалі Віццяй, але і яна таксама памерла немаўлём.

Такім чынам, пасля нараджэння Кастуся аж чацвёра малых дзетак памерлі”[32] .

30 Тычына М. “Маці ўсё ведае і так…”: Вобраз маці ў творчасці Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 11. С. 4.
31 Там жа. С. 3-4
32 Міцкевіч Д. “Дзяцей, як тых снапкоў на току!..” Браты і сёстры Якуба Коласа // Роднае слова, 1995, № 10. С. 169.




**Браты і сёстры Якуба Коласа.**

(Матэрыялы для схемы падрыхтавала Вера Міцкевіч.) Крыніца: Міцкевіч Д. "Дзяцей, як тых снапкоў на току!.." Браты і сёстры Якуба Коласа // Роднае слова, 1995, № 10. С. 164-176.

На такое разгортванне падзей у сям'і Міхала Міцкевіча некалі падчас экскурсій звяртаў увагу супрацоўнік музея Якуба Коласа Іван Курбека, кажучы пры гэтым, што існуе навуковая гіпотэза, паводле якой у нараджэнне генія прыродай укладаецца параўнаўча больш бацькоўскоўскага патэнцыялу і яго можа бракаваць пры з'яўленні ў бліжэйшай будучыні навароджаных. Так і ў выпадку з Якубам Коласам быццам прырода аддала ўсе мацярынскія сілы на нараджэнне папярэдняга дзіцяці – будучага генія, не пакінуўшы іх на бліжэйшых наступнікаў[33]. Толькі пачынаючы з Міхаліны, народжанай праз пяць гадоў пасля Костуся, дзецям было наканавана доўгае жыццё.

У такім святле больш зразумела становіцца, што меў на ўвазе малодшы брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, калі ўспамінаў: "Калі-б вясьці радавод, то, бадай, слушней было-б ісьці па лініі маці. Маці Ганна… была фізычна крэпкай і здаровай, вытрывалай, цярплівай, лагоднай і ласкавай, мела й розум здаровы й прыродную інтэлігенцыю. Хоць вонкава яна ня вельмі выказвала рэлігійнасць, але верыла ў Бога. Ад яе Колас дастаў і крэпасьць фізычную й духоўны склад свае натуры"[34].

Такім чынам, маці не толькі стала жыватворнай крыніцай народнай культуры, з якой Якуб Колас пачынаў свой шлях і ўсё жыццё чэрпаў натхненне, маці не толькі стала тым садоўнікам, які прышчапіў роднае каліва да густога дрэва беларускага фальклору, але і фізіялагічна выклалася ва ўзгадаванні буйнога *коласа* на ніве беларушчыны.

---

33 Паведамляецца са слоў Марыі Нічыпараўны Далідовіч – супрацоўніцы музея ад 1981 г.

34 Паводле: Івашын В. Упоравень з сусветнай класікай: асаблівасці паэмы "Новая зямля" Я. Коласа ў кантэксце жанравых традыцый // Роднае слова, 1999, № 7. С. 10.

## 3. “Ну, словам, дзядзька наш – асоба!”: Антось



**Дзядзька Антось. Мастак Лазар Ран.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

“— Дзядзька Антось? З ім мы рыбу лавілі, хадзілі на паляванне, па сена ездзілі, прысы (шасты для кіравання плытом, чаўном. – А. Т.) секлі. Меў ён да дзяцей ласку і падыход, можа праз тое, што застаўся бабылём. Любіў пасмяяцца, умеў пажартаваць і пакпіць”, – расказваў Якуб Колас Максіму Лужаніну пра Антося – чалавека не толькі працалюбівага, але прыроднага апавядальніка, баечніка, прыводзячы адпаведныя прыклады[35] . У сувязі з такой характарыстыкай І. Жук асэнсоўвае дзядзьку ў алегарычных катэгорыях: «Антось – персанаж пераважна “вечаровы” (у адрозненне ад “ранішняга” бацькі. – А. Т.), персанаж паэзіі, казкі, адвечнай тайны»[36].

Калі маці была для малога Костуся першаадкрывальніцай багатых пластоў народнай культуры, то дзядзька, лёс якога пакінуў адзінцом і прыгняздзіў да сям’і старэйшага брата, пратоптваў сцежку сялянскаму хлапчуку да Яе Вялікасці Кнігі, да прафесійнага мастацка-літаратурнага свету. Антось для свайго часу і асяроддзя быў адукаваным чалавекам: “Дзядзька Антось, малодшы брат бацькі, самы малодшы з маіх дзядзькоў, здаў экзамен за курс пачатковай школы. Ён ведаў многа розных расказаў, казак і ўмеў цікава іх расказваць. Таксама ён ведаў і многа песень, але галоўным чынам з розных песеннікаў”[37] .

Дзядзька любіў чытаць. Быў добрым апавядальнікам: “Не гаварыў, а сек языкам!” [Т. 8, с.17] Канешне, Якуб Колас такой каларытнай фігуры не мог не ўдзяліць самую вялікую ўвагу:

---

35 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 24-28.
36 Жук І. “Новая зямля” Якуба Коласа як анталагічная каштоўнасць // Роднае слова, 2007, № 6. С. 7.
37 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 24

Наш дзядзька, мілы наш Антоні,
Ў дзіцячым часта быў палоне;
Вось так гуртом яго абсядуць
І час работы яго крадуць;
Насі "катла", кажы ім казкі,
Ідзі на поплаў з імі ў краскі,
Давай адказы на пытанні,
Тлумач ты ім усё дазвання:
Адкуль, з чаго дзе што бярэцца,
Вось гэта, тое як завецца
І чаму так, чаму не гэтак?
Прыхілен дзядзька быў да дзетак.
Ён быў настаўнікам, суддзёю,
Калі, бывала, між сабою
Паспорацъ дзеткі ці паб'юцца,
Дык да каго тады звярнуцца,
Як не да дзядзькі, да Антося?
Ох, слаўна з дзядзькам ім жылося!
<...>
Дык і не дзіва, што любілі,
Што на руках яго насілі. [Т. 8, с.55-56, 58]

Вобраз дзядзькі ў памяці Якуба Коласа ажываў нават у аўтабіяграфічных нататках паэта, у якіх яшчэ раз падкрэсліваліся тыя самыя, апісаныя ў паэме рысы: "Любіў дзяцей, умеў з імі ладзіць і добра знаў дзіцячую псіхалогію. Ён жа прышчапіў мне любасць да навукі і вельмі зацікавіў байкамі Крылова, якога я потым амаль што ўсяго знаў напамяць"[38].

Неаднаразова Якуб Колас паўтарае і ўспамін пра першую сваю кніжку. Хто мог зрабіць такі падарунак, як не (сёння б сказалі "прасунуты") дзядзька? Успаміны пра яго пэўна не патрабуюць дадатковых каментарыяў і інтэрпрэтацый:

«— Байкі Крылова падараваў мне дзядзька Антось. Як ён дагадзіў мне! Пабудзіў на досвітку і даў у рукі: "На, цешся!" А купіў ён кнігу ў нядзелю на кірмашы. Быў гэта, помніцца, дадатак да "Нівы", на кепскай паперы, з цьмяным шрыфтам. Але даражэйшага падарунка ў той час я сабе не ўяўляў»[39].

«Самы моцны ўплыў рабіў на мяне мой дзядзька па бацьку. Ён валодаў у высокай ступені здольнасцю прыцягваць да сябе дзіцячыя сэрцы. Ён жа першы прышчапіў мне цікавасць да баек Крылова. Калісьці ён вучыўся ў народнай школе і сам захапляўся імі. Да ўсяго гэтага далучалася яшчэ ўменне цікава расказваць і разуменне дзіцячай псіхалогіі. Некаторыя казкі ён расказваў па некалькі дзён, на манер вядомай Шэхерэзады. Усе мае падзеі дзіцячага жыцця так ці інакш звязаны з імем майго "дзядзькі". Іншы раз, паклаўшыся спаць або начуючы дзе-небудзь у полі каля кастра, ён пачне расказваць пра падзеі свайго жыцця, вельмі

38 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 24
39 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 61.

паэтычна апісваючы малюнкі прыроды, асабліва навальніцы, пра розныя страшныя гісторыі. Пры гэтым ён цудоўна ўмеў спалучаць выбар апавяданняў і сам тон перадачы іх у поўную гармонію з навакольным малюнкам ночы»[40].

Любоў яшчэ да аднаго вялікага рускага паэта – А. Пушкіна, якую Якуб Колас пранёс праз усё жыццё і якая паўплывала на творчасць самога беларускага Песняра, адпачаткова закладалася таксама дзякуючы менавіта дзядзьку Антосю: "Впервые крестьянский мальчик с Наднеманской земли узнал об Александре Сергеевиче от своего дядьки Антона. Долгими зимними вечерами, сидя у печки, где весело потрескивали поленья, в лесной хате в Альбути, слушали его дети. До чего славно звучали в его исполнении стихи Пушкина!"[41] – так распавядае патрыярх музея Якуба Коласа, дырэктар установы З. Камароўская, лаканічна, але змястоўна абмаляваўшы ролю пушкінскага генія ў жыцці і творчасці беларускага класіка, пра значэнне светачы рускай паэзіі для ўзгадавання класіка беларускай літаратуры. Непасрэдным вязьмом і тут паслужыў не хто іншы, як "пан касы і сахі" – дзядзька Антось.

Яго вобраз не выпетрываўся з памяці Якуба Коласа аніколі. Трэба заўважыць, што паэма "Новая зямля" зараджалася турэмнаю вясною 1911 г. менавіта з раздзелаў пра дзядзьку [Т. 8, с.327]. "Перастане пісаць – і нэндза агортвае душу. Таму, яшчэ водзячы Антося з Грышкам Верасам па Вільні, ён задумаў паказаць любімага дзядзьку не толькі ў гарадскіх, непрывычных для яго абставінах, а павесці ў Ласток і Альбуць, каб і самому прайсціся незабыўнымі сцежкамі маленства, – лічыць С. Александровіч, працягваючы: <…> Асабліва шмат іх (замалёвак. – А. Т.) прысвячалася дзядзьку Антосю. Інакш і быць не магло: дзядзька ўмеў ладзіць з пляменнікамі, заўсёды знаходзіў для іх цікавую гульню ці забаўку"[42] .

"Ну, словам, дзядзька наш – асоба!" – заключае характарыстыку аўтар "Новай зямлі" [Т. 8, с.24]. І асоба гэта стала яшчэ адным штуршком для станаўлення самога паэта, творчай індывідуальнасці Песняра.

## 4. Выкладчык рускай славеснасці Фядот Кудрынскі – семінарысту Канстанціну Міцкевічу: "Вот Ваше настоящее призвание"

Нават самаму адоранаму самародку раскрыцца было б не па сілах без адукацыі, а самае галоўнае – без добрых, вартых і годных настаўнікаў, якія б скіравалі, падказалі…

Сялянскаму хлопцу, які меў за спіной народную (пачатковую) школу, была фактычна закрыта дарога ў вышэйшую навучальную ўстанову. Затое стала alma mater Нясвіжская настаўніцкая семінарыя, куды паступіў К. Міцкевіч "на казённы кошт" (атрымліваемая ім стыпендыя з'яўляецца яшчэ адным фактарам таленавітасці і працавітасці юнака). Менавіта ў семінарыі пры ўсіх яе схаластычных рысах будучы Пясняр спаткаў *свайго* настаўніка. Ім стаў, як ні парадаксальна, выкладчык рускай

40 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 19.

41 Комаровская З. «Перед Пушкиным я в большом долгу» // Неман, 2012, № 5. С. 211.

42 Александровіч С. На шырокі прастор: Аповесць пра Якуба Коласа. [Для ст. школ. узросту / Маст. М.М. Купава]. Мінск: Маст. літ., 1979. С. 312-313.

славеснасці – чалавек, якому больш чым каму іншаму са штату педагогаў патрэбна было быць правадніком русіфікацыі, – Фядот Кудрынскі.

Вядомы беларускі пісьменнік С. Александровіч так, па-мастацку, убачыў першае праяўленне зацікаўленасці семінарысцкага выкладчыка да свайго вучня:

«Неўзабаве ўсе настаўнікі ведалі, што Канстанцін Міцкевіч пацяшае семінарыстаў беларускімі казкамі і народнымі анекдотамі. Неяк раз Кастуся затрымаў на калідоры новы настаўнік – выкладчык рускай літаратуры Фядот Андрэевіч Кудрынскі. Малады чарнявы мужчына гадоў трыццаці, з вусікамі і ў пазалочаным пенснэ – толькі нядаўна, вясною 1900 года, прыехаў з Ніжняга Ноўгарада ў семінарыю…

– Ад каго вы чулі, Міцкевіч, казкі, што расказваеце хлопцам? – дапытваўся настаўнік, прывёўшы семінарыста ў бібліятэку.

Кастусь з недавер'ем пазіраў на Кудрынскага. Невядома, з якім намерам ён гэта выпытвае. Можа, яму Бароўскі нагаварыў, што Міцкевіч не раз высмейваў бога і папоў?

– Не бойцеся! – Фядот Андрэевіч па-сяброўску палажыў Кастусю руку на плячо. – У мяне чыста навуковы інтарэс… Я сам крыху пісаў пра народную славеснасць у "Киевской старине" і ў "Русском архиве"… Хочацца бліжэй пазнаёміцца з жыццём беларусаў, іх звычаямі, мовай і вуснай творчасцю…

Кастусь глянуў на Кудрынскага. Ён упершыню бачыў чалавека, які цікавіўся жыццём і мовай тутэйшых людзей.

Фядот Андрэевіч скінуў пенснэ і шчырымі ласкавымі вачыма пазіраў на семінарыста. "Не, такому можна верыць!" – падумаў Кастусь.

– Мой дзядзька Антось умее расказваць… Чуў яшчэ я шмат казак ад леснікоў, ад цесляра Мікодыма Кухарчыка…

– Ёсць у мяне да вас, Міцкевіч, вялікая просьба… Запішыце вы мне, калі ласка, у час летніх канікул найбольш цікавыя прыкметы, прыказкі, казкі, якія расказваюць у вашым сяле…

– Добра, Фядот Андрэевіч, зраблю, – кіўнуў Кастусь галавою. – Але як вам запісваць: па-руску ці так, як у нас гавораць?

– Вядома, толькі так, як у вас гавораць… Пастарайцеся ўсе фанетычныя асаблівасці захаваць… Гэта вельмі важна… Я яшчэ некаторым хлопцам дам такое ж заданне. Цікава будзе параўнаць»[43].

Гэтаму чалавеку Якуб Колас заставаўся ўдзячны ўсё жыццё і на схіле свайго веку добра помніў яго як лёсавызначальнага настаўніка. Прынамсі некалькі адвячоркаў удзяліў успамінам пра яго ў гутарках з М. Лужанінам:

«Кудрынскага ўвесь час цягнула да творчасці народа, цікавіла гісторыя нашага краю. Мае фальклорныя запісы Кудрынскі хваліў шчыра. Вось я і падлажыў у адзін са сшыткаў пару ўласных вершаў.

Ён доўга марудзіў, не гаварыў нічога, потым з вока на вока спытаў, ці напісана яшчэ што-небудзь. Перачытаўшы, сказаў не вельмі катэгарычна, нешта накшталт: "З гэтым вы можаце выйсці на сапраўдную дарогу".

Як я разумею, ён вагаўся, што можа збіць мяне з тропу, баяўся, каб я празмерна не захапіўся пісаннем і не закінуў вучэння»[44].

43 Там жа. С. 137-138.

44 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 116-118.

Яшчэ раней, пры напісанні аўтабіяграфій Якуб Колас не мінаў імя свайго мудрага настаўніка: «Я пісаў і па-беларуску. Адзін такі верш "Вясна", змешчаны ў "Песнях-жальбах", папаў на вочы Кудрынскаму, ён мне сказаў: "Вот Ваше настоящее призвание". Гэта заахвоціла мяне, я стаў пісаць больш»[45].

Што важна, у артыкуле – прамове на вечары сустрэчы з вучнямі мінскіх школ – "Як я стаў беларускім пісьменнікам" аўтар таксама падкрэслівае ролю Ф. Кудрынскага ў сваім лёсе: "Сярод настаўнікаў быў нехта Кудрынскі, выкладчык літаратуры. Ён разумеў літаратуру, любіў яе. Ён быў першы чалавек, які па-чалавечы падышоў да майго імкнення да паэзіі, да маіх першых спроб пісаць па-беларуску. Ён падтрымаў мяне і сказаў, што маё прызванне – быць беларускім паэтам. Гэта мела рашаючае значэнне для таго, каб я цалкам аддаўся беларускай паэзіі. Я стаў пісаць выключна па-беларуску, нягледзячы на тое, што не было ніякай надзеі ўбачыць свае творы надрукаванымі, бо не было ніякага беларускага журнала" [Т. 17, с.391-392].

Прычым Кудрынскі наўпрост спрычыніўся не толькі да выбару жыццёвага шляху, але і да ўзнікнення некаторых старонак лепшых твораў Якуба Коласа:

«Кудрынскі мог цікава размаляваць самую непаглядную рэч, яна набывала асаблівае хараство ў вачах слухачоў.

З гадзіну неяк распісваў нам прыгажосці нясвіжскага замка. Здавалася, роўнага ў свеце няма. І я быў вельмі расчараваны, калі заскочыў аднойчы ў свята за замкавую браму.

Звычайны брудны брук, аблезлыя сцены. Якое там к чорту хараство, хутчэй на астрог падобна. І замак у "Сымоне-музыку" я апісваў, маючы перад вачыма нясвіжскі, так, як ён паўставаў з апавядання Кудрынскага»[46] .

Нават аповесць "У палескай глушы" ўзнікла з улікам непасрэдна гэтага фактара. Яшчэ ля люсінскіх вытокаў свайго настаўніцкага шляху пачаўшы яе пісаць на рускай, Якуб Колас пазней перайшоў на беларускую, а ў гэтым пераходзе канцэптуальную ролю адыграў Ф. Кудрынскі, які парэкамедаваў, як вышэй было сказана, будучаму класіку пісаць на роднай мове, па-беларуску. Аповесць тая, на рускай мове, пад назвай "Один из сотни" не была скончана, а наноў загучала пасля, загучала таленавіта, але на мове роднай для аўтара і галоўнага героя.

Дый у Лабановічы, несумненна, закладзена часцінка душы Кудрынскага, без якой пратаганіст "у палескай глушы" быў бы іншым – і як настаўнік, і як чалавек: "Пра аднаго толькі настаўніка, Фядота Андрэевіча Кудрынскага, настаўніка рускай мовы, я назаўсёды захаваю светлы ўспамін. Гэта быў жывы чалавек, знаўца рускай літаратуры, добры прамоўца, вораг семінарскай руціны. Ён клапаціўся аб развіцці выхаванцаў, наладжваў чытанне, увёў рэфераты, па-майстэрску кіруючы намі. Аднойчы, калі нас распусцілі на канікулы, ён прапанаваў нам запісаць народныя песні, легенды, апавяданні. Я напісаў цэлы сшытак. Калі ён прачытаў запісанае

45 Якуб Колас: Да 100-годдзя з дня нараджэння. Біябібліягр. паказ. / Склад.: Н.Б. Ватацы, М.І. Пратасевіч, Н.А. Адамовіч, А.Б. Дунаеўская; Рэд. В.П. Рагойша. Мінск, 1983. С. 25-26.

46 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 118.

Люд! Праканайся: толькі мы самі –
Долі сваёй кавалі!
Годзі жа, досыць панукаць намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі! [Т. 2, с.104]

Гучным заклікам распачынаецца лірычная кампазіцыя верша, ім жа і заканчваецца, што сведчыць пра ідэйную канцэптуальнасць Коласавага закліка, першачарговае акцэнтаванне менавіта на ім, а не на перажываннях за гаротнае жыццё беларусаў:

Люд! Вызваляйся, рві свае путы,
Новыя песні спявай! [Т. 2, с.104]

Паэт пасля сам прызнаў, што "адна ж страфа, нягледзячы на тое, што вастрыё яе накіроўвалася аўтарам у бок белапольскіх бандытаў, гучыць выразна контррэвалюцыйна" (далей цытуюцца радкі "Нас падзялілі…") [Т. 17, с.159]. З чаго вынікае, што і "спавядаючыся" перад ДПУ, Якуб Колас не хаваў сваёй антысавецкасці пры напісанні гэтага верша, а таксама іншых, пералічаных у заяве твораў. Не хаваў, як думаецца, з прычыны адсутнасці магчымасці іншых інтэрпрэтацый – такіх, якія б дазволілі тую контррэвалюцыйнасць бачыць вынікам сэнсавай полівалентнасці паэтычных радкоў, што ў цэлым характэрна для паэзіі.

Савецкая ўлада доўга яшчэ будзе прыгадваць гэтыя радкі. «В 1922 году в сборнике стихотворений, изданных белорусским нацфашистским товариществом «Адраджэнне», поместил стихотворение «Белорусскому народу» в виде воззвания погромного характера. В этом стихотворении говорит о страданиях Белоруссии под московским гнетом, а в конце прямо призывает к свержению Сов. Власти», – гаворыцца ў некалі зусім сакрэтным дакумеце – своеасаблівай даведцы на беларускіх пісьменнікаў нейкага малодшага лейтэнанта дзяржбяспекі Завадскага (жнівень 1937 г.), што не так даўно знайшоў вядомы беларускі гісторык І. Іофе[85].

Нешта дадаваць да праведзенага Ант. Адамовічам аналізу разглядаемага аспекту Коласаўскага верша, бадай, няма неабходнасці: «Гэтак паэта не прызнае й кліча свой народ не прызнаваць сувэрэнітэту над Беларусяй спраўцаў Рыскага падзелу яе, г. зн. бальшавікоў і Палякоў, ня робячы, як і раней, ніякага вырозьненьня між гэтымі акупантамі, што для яго аднолькава "чужаніцы, цёмных дарог махляры". Мала таго, ён кліча народ у вабедзьвюх частках падзеленага краю да адкрытага паўстаньня супраць акупантаў за вызваленьне бацькаўшчыны, задзіночаньне яе ды ўстанаўленьне поўнае незалежнасьці, "самастойнага гаспадараньня" на роду на сваёй зямлі. "Доля не прыйдзе сама… Люд, праканайся: толькі мы самі долі свае кавалі", – выясьняе паэта ўжо не адным толькі "добрым дзецям" народу, а цэламу "люду", – "люд, вызваляйся, рві свае путы!" – яшчэ раз падчырквае ён асноўны рэвалюцыйны мамэнт свайго заклiку на канчатку. Больш зыркага й адкрытага нацыянальна-рэвалюцыйнага й нацыяналістычна-незалежніцкага, а тым-жа часам і антысавецкага ды антыбальшавіцкага выступу годзе шукаць ува ўсёй нашай літаратуры на ўсім папярэднім адрэзку ейнага разьвіцьця»[86].

85 Іофе І. "Старый и хитрый враг советской власти", альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 12. С. 74.
86 Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005.С. 596.

І. Багдановіч верш “Беларускаму люду” лічыць “коласаўскім тагачасным паэтычным маніфестам, дзе ён даў сваё разуменне Беларускага Шляху. Побач з матывам вызвалення ад сацыяльнага ўціску гучыць там матыў геапалітычнай незалежнасці Беларусі як ад Захаду, так і ад Усходу”[87].

«Вядома, вярнуўшыся на радзіму, Якуб Колас вітаў “прасторы вольныя зямлі” (“У палях Беларусі”), звяртаўся да “чулых сэрцаў” і “душ жывых” з заклікам сказаць народу “горкую праўду”, “чаго ён гаруе”, церпіць пакуту (“Покліч”). Але адначасна пясняр лічыў сваім грамадзянскім абавязкам гаварыць і пра суровую рэальнасць.

Вось гэтую выразнасць грамадзянскай пазіцыі Коласа мы павінны прымаць пад увагу, каб сталі больш зразумелымі вытокі той актыўнасці і крыніцы натхнення, з якімі пісьменнік ажыццяўляў смелыя мастацкія задумы, маштабныя творчыя планы. І ў першую чаргу гэта датычыла завяршэння манументальна-эпічнай “Новай зямлі”, напісання “палескіх аповесцей” і перагляду першай рэдакцыі паэмы пра Сымона-музыку»[88], – заключае М. Мушынскі.

З улікам стварэння ў гэты ж час першай (і лепшай!) аповесці з будучай трылогіі “На ростанях” – “У палескай глушы” (1921 – 1922) можна сабе ўявіць, якім прадуктыўным атрымаўся перыяд адразу па прыездзе Якуба Коласа на Беларусь! Канешне, таму спрыяла афіцыйнае прызнанне творцы (пік якога адбыўся ў 1926 г. з наданнем Якубу Коласу звання народнага паэта) паляпшэнне матэрыяльных умоў, праца па душы, роднасны інтэлектуальны асяродак, а таксама – напачатку – адсутнасць татальнай цэнзуры (друкаванае слова ў Савецкім Саюзе становіцца падцэнзурным пасля лета 1922 г. [Т. 9, с.412]). Аднак, як аказалася, Савецкая Беларусь усё ж была далёкай ад Коласавых ідэалаў сапраўднай беларускай дзяржаўнасці. Пагэтаму яшчэ доўгі час захоўваліся, не згладжваліся нядаўнія перажыванні з часу чужыны і бадзянняў, на што наслаілася горыч ад актуальнага становішча і краіны, і народа, і інтэлігенцыі, і сябе самога. Калейдаскоп жыцця роднай краіны як на ўзроўні сацыяльным, так і індывідуальным відавочна не адпавядаў чаканням і спадзяванням паэта, што, як у люстэрку, адбілася на творах.

У сувязі з вышэй сказаным варта меркаваць, што не менш як эпахальныя паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка» былі ўзгадаваны на глебе расстання аўтара з родным куточкам. Зарадзіліся яны ў астрозе. Турма абудзіла і запачаткавала дзве найвыбітнейшыя паэмы. Менавіта за кратамі і ўзніклі праніклівыя, глыбока лірычныя радкі, з якіх пачынаецца першы з названых твораў. Мелі працяг паэмы на Куршчыне. “Разлука з краем” – ваенныя бадзянні, жыццё “сярод чужаніц” “рыжабародага краю” – развілі, разгарнулі напісанне паэм. Фактычна іх стварэнне адбылося пад знакам настальгіі і было завершана ўжо па вяртанні на

87 Багдановіч І.Э. Паэзія 20-х гадоў // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя: у 4 т. Т. 2 / НАН Беларусі, Аддз-не гуманітар. навук. і мастацтваў, Ін-т літ. імя Я. Купалы ; навук. рэд. У.В. Гніламёдаў, В.А. Каваленка. Мінск: Бел. навука, 1999. С. 17.
88 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 – 1910) / рэд. тома М.І. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т. Р. Строевай; прадм. М.І. Мушынскага; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007. С. 38.

Беларусь, калі пачуццё адарванасці ад роднай зямлі нібыта адхлынула. Але не зусім. Добрая палова пярліны беларускага мастацтва слова – "Новай зямлі" – паўстала ў Савецкай Беларусі, калі гэтак блізкі родны кут – Мікалаеўшчына – працягваў заставацца недасягальным, што вярнула, праявіла ранейшыя перажыванні. Калі ўспомніць рытарычнае пытанне Г. Ахматавай пра смецце, з якога растуць вершы, то для Якуба Коласа такім смеццем стала турэмнае зняволенне, рыхтык валацужны вобраз жыцця на чужыне, настальгія па родным наднямонскім куточку і па той Беларусі, якую ўбачылі ў бліжэйшай перспектыве адраджэнцы.

Пачуцці лірыка ў "разлуцы з краем" абвастраліся, выразна адбіўшыся на яго самых выдатных творах, у тым ліку на вершах з кола публіцыстычнай лірыкі. Найгучнейшым тут стаў заклік да "беларускага люду". Гучанне таго верша доўгі час глушылася магутнай савецкай цэнзурай. Тым не менш яно вярнулася ў літаратурны і сацыяльны дыскурс і не сціхае па сёння, часта здзіўляючы іншым разам нават абазнанага чытача яшчэ адной бліскучай гранню Коласавай творчай велічы – грамадзянскай.

"Рунець, красаваць, наліваццa!" – гэтай народнай формуле, "кадыфікаванай" Р. Барадуліным, адпавядаў талент Песняра ў пару яго жыццёвых выпрабаванняў. Таму невыпадковым тут бачыцца і выбар (які, дарэчы, склаўся якраз за азначаны час) галоўнага з дзясяткаў псеўданімаў К. Міцкевіча на карысць і лагічна, і вобразна карэлізаванага з той формулай КОЛАСА.

## Заключэнне

Кожны геній фарміруецца дзякуючы як агульным чыннікам, так і індывідуальным. Да агульных, бясспрэчна, належыць ірацыянальны. Бо ці здолее чалавецтва разгадаць калі-небудзь, чаму некаторыя чалавечыя індывіды нараджаюцца надзвычай адоранымі. Таму што "Бог ля Нёмна ішоў…" – прамовіла В. Іпатава пра Якуба Коласа – і мела рацыю.

Аднак у выпадку кожнага з геніяў можна казаць і пра тыя крыніцы, якія наталілі патэнцыял таленту сваёй жыватворнай сілаю – і стварылі ўмовы для раскрыцця трансцэндэнтнай творчай эвентуальнасці. І крыніцы гэтыя ў сваім комплексе не будуць паўтарацца, максімум – па асобку пераклікацца, сінанімізавацца.

Хіба да самых распаўсюджаных адносіцца родны кут. Ён падпітвае ці не кожнага творцу. Аднак у кожнага ён свой, нават калі гэта будзе той самы кавалак зямлі. Для беларускага Песняра "сонцам свяціла Наднямонне".

Якасці маці – чалавека, з якога пачынаецца адкрыццё сусвету, – таксама прыпадабняюць прычыннасць фарміравання любога індывіда, і не толькі па-боску адоранага. Геній Якуба Коласа ўвабраў па-максімуму мудрасць і дабрыню сваёй маці, непісьменнай сялянкі.

Сустракаюцца фактары і зусім выключныя, супадзенне якіх у лёсах творцаў з'яўляецца малаверагодным. Да такіх у выпадку з Якубам Коласам залічым:

- унёсак у выхаванне малога Костуся дзядзькі Антося – кнігалюба і цудоўнага апавядальніка; рысы дзядзькі перадаліся нябогу – пляменніку;

- перасячэнне лёсу семінарыста К. Міцкевіча з педагагічным талентам Фядота Кудрынскага, які падштурхнуў свайго вучня да беларускамоўнай стыхіі;
- урэшце – апошні, завяршальны чыннік, складаны, шматслойны, у многім выгадаваны на глебе папярэдніх чатырох, без якіх патэнцыял гэтага чынніку быў бы слабейшы, але і без яго чатыры папярэднія крыніцы станаўлення Якуба Коласа як беларускага класіка маглі пакінуць яго адной з красак, верагодна, даволі яркай, нашаніўскага суквецця, а не манументальным літаратурным *калосам*; і гэты чыннік – турэмнае зняволенне настаўніка і бунтаўшчыка (1908 – 1911 гг.), шматгадовая (1915 – 1921 гг.) адарванасць ад Беларусі, што ў сукупнасці (разлука з воляй і роднай зямлёй) абвастрыла любоў да радзімы, каталізавала натхненне і выяўленне творчага патэнцыялу, акрэсліла нават найбольш плённы перыяд у творчасці Якуба Коласа, у выніку чаго нарадзіліся такія гранічна высокамастацкія паэмы, як "Новая зямля" і "Сымон-музыка"; моцна паўплывала на творчасць Песняра таксама драматычнае становішча Бацькаўшчыны, якую рвалі на часткі розныя палітычныя сілы і ў выніку падзялілі, прычым такім чынам, што "родны кут" паэта (разам з маці) заставаўся два з паловай дзясяткі гадоў (1915 – 1939 гг.) для яго недаступны, дый на той частцы краіны, на якую вярнуўся пісьменнік пасля ваеннага ліхалецця, – у Савецкай Беларусі выглядала ўсё не так, як гэта ўяўлялася, жадалася генію.

Сума, комплекс азначаных крыніц сфарміравалі галоўныя вяршыні творчасці Якуба Коласа, а значыць далі літаратуры класіка. Часава гэты працэс, "падсумаванне", сінтэз фактараў завяршаецца на пачатак 1920-х гг. – якраз тады, калі і склалася асноўнае кола твораў Якуба Коласа, якія ўжо пры першапублікацыях разглядаліся як шэдэўры – ацэнка, якая з цягам часу толькі ўмацавалася. Сам творца таксама адзначае пералом у сваёй літаратурнай дзейнасці, пазначаючы яго 1925 г. (але робіць гэта ў 1930 г. ва ўмовах шчыльнай увагі з боку стражаў існага рэжыму): "Першы перыяд мае літаратурнае дзейнасці быў закончаны к 1925 г. З 1911 па 1921 г. у маёй літаратурнай рабоце былі вялікія перарывы, і толькі 1921 г., год майго звароту ў Савецкую Беларусь, і наступныя гады далі мне магчымасць поўнасцю аддацца літаратурнай рабоце і закончыць свае творы першага перыяду, пачатыя яшчэ ў астрозе ў 1910 – 1911 гг." [Т. 17, с.145]

Творца адбыўся – і з гэтай прычыны ў далейшым не быў падвержаны ўплывам жыццёвых калізій да такой ступені, як раней, да такой ступені, пры якой можна было б казаць пра ўзнікненне яшчэ аднаго канцэптуальнага фактару творчасці, якая б стала класічнай упоравень з разгледжанымі тут у першую чаргу творамі.

Складаныя часы сталінскага рэжыму, сусветная вайна, асабістыя страты, несумненна, не маглі не сказацца на натхненні Песняра і ўрэшце на саміх творах. Так, жорсткія сацыяльныя ўмовы існавання 1930-х гг.[89] перайначылі гучанне ліры паэта – са шчырага на рэгламен-

89 Пра пастаянны нагляд савецкай улады над Якубам Коласам і афіцыёзную, але адкрытую толькі для ўнутранага карыстання органаў дзяржбяспекі ацэнку яго дзейнасці больш падрабязна гл.: Іофе І. "Старый и хитрый враг советской власти", альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 11. С. 71-73; № 12. С. 74-77.

таванае ў значнай ступені ідэалагемамі, хаця і тады Якуб Колас змог праявіць сябе творча[90]: у філасофскай і пейзажнай лірыцы, перакладчыцкай дзейнасці, творах для дзяцей. Больш таго, яго паэтычны геній прарваўся і заявіў пра надыходзячыя змены – вершам “Пахаваная муза” (1925), у якім сказаў праз прыём перададзенай трыбуны свайму лірычнаму герою – таксама паэту, што муза, з якою “даволі блукалі… па свеце”, “заснула”, “змоўкла” – “і згаслі агні”, а сам паэт “спявае з другою”, знаходзячы дэтэрмінізм і апраўданне ў тым, што “такі ўжо наш свет” [Т. 2, с.116]. Былі і пазнейшыя рэзка кантрастуючыя з “генеральнай лініяй партыі” творы. Аднак у цэлым творца фактычна падаўся ў тую метафізічную прастору духоўнага і грамадска-палітычнага жыцця, якую прынята называць унутранай эміграцыяй. Яму, як і Янку Купалу, заставаліся толькі “сны аб Беларусі”. Такім чынам, узрушанні рэпрэсіўных 1930-х гг. сталіся хутчэй антыфактарам для творцы. Нават “у стол” пісаць было немагчыма з-за пагрозы вобыскаў (па меншай меры адзін меў месца ў Коласавым доме).

Важкім аказаўся здабытак Коласавай творчасці ваеннага перыяду, за што яму была справядліва прысуджана Дзяржаўная прэмія першай ступені (тады яна назывался Сталінскай). Ды такіх звышмагутных, гучных твораў, як, прыкладам, верш “Шалёнага пса – на ланцуг!”, напісаны ў першы дзень фашысцкай навалы і апублікаваны на мове арыгіналу адразу ў цэнтральных беларускіх (“Звязда” і “Советская Белоруссия”) і саюзнай (“Правда”!) газетах, было зусім няшмат (прынамсі, акрамя названага верша, яшчэ які-небудзь твор назваць класічным не выпадае). З цягам часу творчасць Якуба Коласа ваеннага перыяду адышла ў цень. Адна з прычын недастатковага для выключна высокіх ацэнак узроўню мастацкасці створаных падчас вайны Коласавых твораў – брак асабістага досведу, убачанага і перажытага. Няма падстаў не давяраць М. Лужаніну, які, імаверна, абапіраючыся на аповед самога народнага паэта, пісаў у прыватнасці пра стварэнне паэмы “Адплата”: “Пасля ўступу хацелася паказаць баявое жыццё партызанаў і пагарэльцаў у лясах. Колас ведаў гэта толькі па газетах, а тут патрэбна было калі не сваё вока, дык хай бы і трохі менш вострае, але такое, што аглядала там усё само, кабператварыць убачанае ў жывы і цікавы расказ”[91]. «Пісьменнік эпічнага таленту быў пазбаўлены магчымасці непасрэдна назіраць за тым, як у сапраўднасці адбывалася партызанская вайна, на ўласныя вочы бачыць жывыя постаці “лясных салдатаў” і іх сем’і, знаёміцца з паўсядзённым жыццём, побытавымі цяжкасцямі народных мсціўцаў», – дадае М. Мушынскі[92].

Незагойнымі ранамі адбіліся на сэрцы асабістыя страты 1941 – 1945 гг.: на фронце прапаў без звестак сярэдні сын, Юрка (1941), пры цьмяных абставінах загінуў сябра Янка Купала (1942), ад цяжкай хваробы памерла жонка, Марыя Дзмітрыеўна (1945). Такое вялікае гора таксама выплеснулася ў паэтычныя радкі (асабліва ў жальбе з прычы-

90 Гл. падрабязней: Ляшук В. “У тон адзін з зямлёю я пяю…”: Паэзія Якуба Коласа 1930-х гадоў // Роднае слова, 2002, № 11. С. 43-45.
91 Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 158.
92 Мушынскі М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск: Беларус. навука, 2010. С. 237.

ны смерці жонкі). Аднак яго глыбіня была настолькі вялікай, што раскрыццё яе пасродкам тых ці іншых формаў прыгожага пісьменства для інтравертнай натуры Якуба Коласа з’яўлялася, бадай, вельмі інтымным – такім, што ў поўнай меры не выносіцца на людзі, нават не давяраецца паперы, да таго ж іншы раз, як у выпадку Якуба Коласа, і выразіць той пантрагічны смутак немагчыма (хаця б з прычын псіхафізіялагічных). (У дадзеным выпадку ступень інтымнасці можна параўнаць з каханнем паэта да будучай жонкі, падчас якога быў спісаны цэлы нататнік любоўнай лірыкай, але аўтар палічыў недалікатным адносна сябе самога і свайго кахання публікаваць тыя вершы[93].) Гора ж было *невымоўным*. Доказам – радкі:

І дзе знайсці мне тыя словы,
Каб выказаць жальбу маю!
Мне не стае душы паловы,
*Свой боль я ў сэрцы затаю.* (Курсіў наш. – А. Т.) [Т. 3, с.161]

“1945 год для мяне асабіста быў цяжкім годам – я асірацеў і глыбока адчуў боль сваёй утраты, утраты майго лепшага друга. Гэты боль не мог не адбіцца і на маёй рабоце. Напісаў я толькі рад дробных лірычных вершаў – часткай для сябе. Можа з часам іх прачытаюць і людзі” [94].

Невымоўнасць у суме з сардэчнай інтымнасцю спарадзіла адсутнасць шэдэўраў пра непапраўнае гора, – паэту яны былі непатрэбны, як непатрэбна было само гора.

Па мастацкасці і гістарычнай значнасці творы 1930-х гг., ваеннага і пасляваеннага часу, па вялікім рахунку, не сталі ўпоравень са славутымі паэмамі “Новая зямля” і “Сымон-музыка”, аповесцю “У палескай глушы”, асобнымі вершамі (хаця і заніжаць іх значэнне нельга!). Думаецца, галоўнай прычынай з’яўляецца менавіта збольшага завершаная і на той жыццёвы момант рэалізаваная сфарміраванасць творчай натуры Якуба Коласа, на якую кардынальна не ўплывалі іншыя, магчыма, нават не менш, а больш (у параўнанні з ранейшымі) значныя з’явы і падзеі. Таму ўзаемасувязь, узаемазалежнасць паміж прааналізаванымі жыццёвымі ўплывамі і вехамі біяграфічных шляхоў вялікага пісьменніка з аднаго боку і яго падставовымі творамі з другога пры звароце даследчыцкай увагі відавочная.

Канешне, звядзенне абгрунтаванасці фарміравання Коласавага генія да названых 5 фактараў выглядае занадта матэматычным, схематычным і не вытлумачвае ва ўсёй дыялектычнай і экзістэнцыяльнай паўнаце дэтэрмінізму пакручастага развіцця творчай натуры. Аднак прыменены намі падыход прынамсі хоць збольшага дазваляе асэнсаваць “загадку” яшчэ аднаго беларускага класіка мастацкай літаратуры.

93 Гл. падрабязней: Лужанін М. Колас расказвае пра сябе: Аповесць-эсэ. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 180-181.

94 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 64-65.

# Хто чужаніцы?
# Якуб Колас пра падзел Беларусі 1921 г.

Радкі, якія сталі першай часткай назвы гэтага артыкула, напісаў Якуб Колас у сувязі з чарговай дзяльбой беларускіх зямель, якія з часы Першай сусветнай і затым савецка-польскай войнаў некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі: 18 сакавіка 1921 г., паводле Рыжскага мірнага дагавора, заходняя частка Беларусі адышла адроджанай Польшчы, усходнія землі апынуліся пад уладай бальшавікоў, якія пад сваім пратэктаратам арганізавалі для Беларусі невялікую рэспубліку, пакінуўшы ў складзе Расіі ўсходнебеларускія тэрыторыі з гарадамі Віцебск, Смаленск, Магілёў, Гомель. Нацыянальныя паэты не засталіся ў баку ад гэтай драматычнай падзеі. Яе адназначна асудзіў шматгалосны хор беларускіх лірыкаў. Лідарам, запявалам тут быў Янка Купала. Пра яго паэтычную рэакцыю аўтар гэтых радкоў выказаўся раней[95]. Не адстаў ад свайго калегі і сябра другі атлант айчыннага мастацкага слова – Якуб Колас, які тым не менш мае адметную ад Купалаўскай эвалюцыю ва ўспрыманні падзелу Беларусі.

Генезіс пазіцыі паэта па гэтым пытанні прасочваецца ад часоў сацыяльных катаклізмаў, калі праз Беларусь перакатваліся раз за разам ваенныя навалы, змяняліся ўлады. Больш таго, сацыяльны кантэкст, а менавіта – пражыванне ў Курскай губерні, бурхлівыя ваенныя падзеі на Беларусі і іх вынікі – нярэдка былі вызначальнымі ў станаўленні асобы творцы ўвогуле. Таму некаторыя меркаванні гэтай работы будуць супадаць з думкамі, выкладзенымі ў папярэднім артыкуле. Каб іх не дубляваць, у такіх выпадках будзем звяртацца да тэзіснага выкладання матэрыялу з адсылкай да больш падрабязнага яго разгляду.




**Карыкатура падзелу Беларусі.**
Крыніца: [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/9/9f/Caricature_for_Riga_Peace_1921.png. Дата доступу: 13.01.2012.

Ваенна-палітычныя перыпетыі і калізіі інтэнсіфікавалі праяўленне і развіццё як творчых, так і грамадзянскіх аспектаў жыцця Якуба Коласа. Чаго варта набытае на "Маскоўшчыне" адчуванне адчужанасці да расійскага

95 Трафімчык А. "Раз абсеклі Беларуса Маскалі ды Ляхі…" Падзел Беларусі 1921 года ў паэтычным асэнсаванні Янкі Купалы // Дзеяслоў, 2012, № 2. С. 275-294; ."Калісь мы ў Рыгу збожжа везлі, цяпер зямлі завезлі часць…": Польска-савецкі падзел Беларусі 1921 г. у вершах Янкі Купалы // Роднае слова, 2012, №6. С. 7-12; Трафімчык А. Прарочы голас Паэта // ЛіМ, 2012, 6 ліпеня. С. 6.




народа да такой ступені, што паэт назваў яго татарскім. Але найбольш Якуба Коласа ўжо тады турбавала пагроза падзелу роднага краю. Гэта адбіваецца і на галоўных творах, у тым ліку на паэмах “Новая зямля” і “Сымон-музыка”, а таксама на вершах. Іх аўтар паўстае выразным патрыётам, калі часам не сказаць нацыяналістам, які не прымае на сваёй зямлі прыхадняў, чыжынцаў, з якога б боку свету яны не прыйшлі (гл. п. 5.2 “5 крыніц....”).

**Савецка–польская мяжа па Беларусі паводле Рыжскага дагавора.**

Крыніца: Атлас гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён: Дадат. да 6-томнай “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” / Аўтар тэкста Л.І. Языковіч; Склад.: Г.Р. Шыкунова, Л.У. Языковіч. Мінск: БелЭн, 2004. С. 105.

* * *

Гістарычная рэчаіснасць не ішла насустрач жаданням Якуба Коласа. Нягледзячы на тое, што беларускі народ на той час (адбылося абвяшчэнне БНР, пасля БССР) заявіў пра сваё існаванне, акрэсліў этнічныя межы, у 1921 г. краіна была падзелена. Між тым палітычныя падзеі вакол і на Беларусі (Савецкай) адбываліся такія, што давалі падставу для аптымістычных заглядванняў у будучыню. У першай палове 1920-х гг. савецкая ўлада бярэ курс на беларусізацыю. Дзякуючы нэпу імкліва аднаўляецца эканоміка. Беларускае сялянства, дагэтуль рабаванае з розных бакоў прыхаднямі, урэшце адчула значную палёгку. І калі яшчэ адразу пасля падзелу беларускія паэты выказваліся вельмі востра супраць брутальнага стасоўна Беларусі акта, то паціху тая вастрыня патухае. Паказальным прыкладам з'яўляецца Коласава творчасць. У адрозненне ад Янкі Купалы, паэта метафізічных і правідэнцыялісцкіх тэндэнцый, Якуб Колас творчасцю ў асноўным адлюстроўваў хранатоп "тут і цяпер", не ставячы свайго лірычнага героя "перад будучыняй", адлюстроўваў – зазначым – з беларусацэнтрычных пазіцый. У сувязі з гэтым мусім часткова не пагадзіцца з вядомым коласазнаўцам прафесарам М. Мушынскім, які лічыць, што датычна падзей новага часу "Якуб Колас устрымліваецца ад аператыўнага водгуку", прызнаўшы слушнай другую частку тэзіса названага літаратуразнаўцы, што паэт "не падзяляе пазіцыю тых пісьменнікаў, хто пачынаў бяздумна ўслаўляць новую ўладу"[96].

Адразу пасля падзелу Беларусі першая скрыпка ў "сімфоніі гневу" (назва антытаталітарысцкай п'есы В. Шашалевіча) нечакана перайшла да Якуба Коласа, які раней не прэтэндаваў на ролю трыбуна (ва ўсялякім выпадку купалаўскага маштабу). Тэму Коласавай антысавецкасці, у тым ліку ў сувязі з падзелам Беларусі, грунтоўна прааналізаваў Ант. Адамовіч, таму да яго даследаванняў будзем нярэдка звяртацца.

Канстанцін Міцкевіч, вымучаны вайной і напаўгалодным існаваннем на чужацкай Куршчыне, неўзабаве пасля падзелу вяртаецца ў Беларусь – у Менск. Жыццё паэта наладжваецца. Але не быў бы ён народным Песняром, калі б не жыў інтарэсамі краіны. А яе тады брутальна распалавінілі, навязваючы на абедзвюх частках каланізацыйныя парадкі. І калі датуль антысаветызм Якуба Коласа быў яшчэ дастаткова аморфным (у нечым змешаным з антырасейскасцю, антымаскальскасцю), то ў 1921 г. ён канкрэтызуецца, "выкрышталізоўваецца", дзейсным каталізатарам чаго становіцца менавіта дзяльба Беларусі. Доказам таму – вершы "Дубы", "Родныя малюнкі" і – хіба найбольш вядомы з твораў 1921 г. – "Беларускаму люду" са знакамітымі радкамі:

Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!..
Нашы тут гоні, бары! [Т. 2, с.104]

(Падрабязная аналітыка тых вершаў размешчана ў п. 5.3 "5 крыніц…".)

96 Мушынскі М.І. Якуб Колас і рэвалюцыя (сацыяльна-палітычны, нацыянальны і гуманістычны аспекты праблемы) // Каласавіны. Тэзісы дакладаў і паведамленняў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Мінск: Літаратурны музей Якуба Коласа, 1992. С. 8-9.

Антысавецкія матывы, іншы раз з акцэнтам на тэме падзелу Беларусі ворагамі-чужаніцамі, не абмінаў Якуб Колас і пры дапісванні самага славутага свайго (дый усёй беларускай літаратуры) твора – паэмы "Новая зямля" (гл. п. 5.3 "5 крыніц...."). Як бачна з таго, што аналітыка артыкулаў на розныя тэмы – станаўлення Якуба Коласа як класіка і адносін паэта да падзелу Беларусі паводле Рыжскага дагавора – цесна пераплятаецца, супадае, наколькі вызначальным, канцэптуальным у фарміраванні творчага партрэта мастака слова стала на той гістарычны момант гаротнае становішча яго роднай краіны.

У сувязі з гэтым абазначаны аспект даследавання (адлюстраванне ў паэтычнай творчасці падзелу Беларусі 1921 г.) варты таксама зазначэння, што на гэту тэму ў паэме "Новая зямля" можна глянуць і пад іншым кутом, як ужо прапануюць сучасныя літаратуразнаўцы. А менавіта – прапусціць твор праз сімвалісцкае прачытанне. "Унутраным планам, глыбокім падтэкстам праз аўтарскі аповед праходзіць думка аб трагічным становішчы беларускага народа, які ва ўласным краі не з'яўляецца гаспадаром. Ён тут хутчэй часовы жыхар. Як бы вечны перасяленец, выгнаннік, уцякач, бежанец. Чалавек, у якога няма сталага месца жыхарства, уласнага Дома" – "матэрыяльна-духоўнага ўвасаблення Бацькаўшчыны", – чытаем у М. Мушынскага[97]. Адштурхоўваючыся ад тэзіса шаноўнага прафесара, думаецца, што аўтар паэмы і такім чынам, у іншай плоскасці выражэння мастацкай думкі даводзіў пастулат, імператыў пра неабходнасць цэласнасці Беларусі. Практычна да гэтай жа тэзы, але іншым шляхам, прыходзіць і гарадзенскі літаратуразнаўца І. Жук, кажучы: "Колас марыў пра Айчыну"[98].

Аналіз паказвае, што паэма «Новая зямля» працярэблівала шлях на глебе тугі і настальгіі аўтара: прабілася на свет ў астрозе, прадоўжылася на чужой і паўгалоднай Куршчыне, а не меней паловы твора паўстала ў Савецкай Беларусі, далёкай ад Коласавых ідэалаў перадусім з-за падзеленасці краіны, дый улады, якую паэт не ўспрыняў роднай. Як бачым, "Новая зямля" стваралася на працягу добрага тузіна гадоў – ад турмы да вяртання на Беларусь праз вайну і бадзянні па Расіі. Тым не менш паэма гучыць маналітна. Яе інтанацыі не паддаюцца кан'юнктуры, якая правакавала аўтара на згодніцтва, да якога ён усё-такі фармальна прыйшоў трохі пазней. Зрэшты, паэт і не хаваў (прынамсі перад органамі ДПУ), што нацыянал-дэмакратычны этап яго творчасці закончыўся толькі ў 1925 г. (гл. ніжэй).

У далейшым – у страшныя 1930-я – з мэтай перавыдаць паэму аўтар сам пераацэньвае свой твор, кажучы пра разыходжанне лейтматыву твора з ідэйнымі дамінантамі наступіўшай эпохі [Т. 8, с.332]. Народны паэт відавочна "дыпламатнічаў" дзеля ўлагоджвання літаратуразнаўцаў ад кан'юнктуры, у душы не змяняючы адносін да свайго найлепшага твора. Хаця з іншага боку, аўтар і не лгаў: каштоўнасці мастацкага

97 Мушынскі М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / М. Мушынскі ; навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск : Беларус. навука, 2010. С. 20-21.

98 Гл. падрабязней: Жук І. Два падарожжы ў *чужую зямлю*: аб адным механізме этнічнай самаідэнтыфікацыі ў паэме Якуба Коласа *Новая зямля* // Studia Białorutenistyczne 4. Lublin: Wydawnictwo Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej, 2010. S. 212-213.

твора і бальшавіцкай аксіялогіі кардынальна разыходзіліся. Але да перапісвання «Новай зямлі» справа не дайшла.

Пацвярджае верагоднасць гіпотэзы лёс паэмы «Сымон-музыка», апошняя, трэцяя рэдакцыя якой – 1925 г. – была канцэптуальна перайначана ў параўнанні з пачатковай. Найперш Якуб Колас прыбірае рэлігійныя матывы і выпады супраць расіян (знікае онім «маскаль»), перарабляе развязку на аптымістычны лад. Адзін з момантаў перапісвання твора, які меў і прамежкавы варыянт – згубленую ці скрадзеную так званую другую рэдакцыю – і сёння застаецца дарэшты нявысветленым. І гэты момант звязаны наўпрост з вяртаннем паэта да тэмы падзелу Беларусі ў 1921 г.

Ужо ў першай рэдакцыі, як падрабязней абгаворана вышэй, Якуб Колас зрабіў экскурс у гісторыю, кажучы пра «споркі сілаю» на беларускай зямлі і прыпісваючы ролю галоўнага гвалтаўніка «маскалям». У моцна змякчонай трэцяй рэдакцыі тым не менш засталіся радкі аб тым, што

З двух бакоў "айцы" дубінай
Заганялі нас у рай!
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрцы кінута была.
<u>І цяпер над вамі, брацце,</u>
<u>Яшчэ ў сіле той раздор –</u>
І папоўскае закляцце
І ксяндзоўскі нагавор. [Т. 9, с.81]

У новым сацыяльна-палітычным кантэксце з улікам адносін аўтара да савецка-польскага падзелу яго радзімы і адносін да савецкай улады на той час у цэлым гэты ўрывак атрымлівае інтэрпрэтацыю, скіраваную супраць абодвух бакоў падзелу. Прынамсі да такога прачытання схіляюць падкрэсленыя намі радкі, у якіх аўтар прызнаецца, што ранейшае становішча застаецца "ў сіле".

Непасрэдна тэма падзелу ўсплывае таксама ў наступных радках паэмы:

Родны край! ты разарваны,
І на захад ад мяжы
Пан пыхлівы, надзіманы
Моцна сцягвае гужы… [Т. 9, с.82]

Гэта страфа некаторымі даследчыкамі літаратуры, а таксама малодшым сынам Песняра М. Міцкевічам, бачыцца зменена праз прыбіранне з кантэксту дзяльбы расійскага боку. М. Міцкевіч часта падкрэслівае нязгодніцкую пазіцыю Якуба Коласа стасоўна падзелу, адстойваючы бацькава аўтарства страфы[99], якая ўпершыню была надрукавана ў мюнхенскім выданні паэмы "Сымон-музыка". У прадмове да яго Ант. Адамовіч паведамляе, што ў другой рэдакцыі (1924 г.) Якуб Колас пісаў і пра "ляхаў", і пра "маскалёў", кажучы, што "мясьціна гэтая сваім часам сталася ведамай у некаторых менскіх навучальных установах, дзе тады выкладаў сам Колас"[100].

---

99 Гл., напрыклад: Міцкевіч М.К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 70.

100 Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005.С. 542.

Родны край! Ты разарваны,
Паабапал ад мяжы
Лях ліхі, Маскаль паганы
Моцна сьцягваюць гужы...[101]

Беларуская тэксталагічная навука пакуль не пагаджаецца з меркаваннем М. Міцкевіча. Гэта версія застаецца дакументальна не пацверджай і з гэтай прычыны не ўводзіцца акадэмічнымі тэкстолагамі ў навуковы ўжытак[102], што пакідае яшчэ адну таямніцу гісторыкам літаратуры. Хоць аб тым, што другая рэдакцыя мела хутчэй за ўсё яўны антысавецкі (ці як мінімум непажаданы для бальшавікоў) змест і, такім чынам, не задавольвала бальшавіцкіх цэнзараў, ускосна сведчыць адсутнасць чарнавікоў і малалікасць Коласавых каментарыяў (калі не браць пад увагу агульныя словы, сказаныя аўтарам нібы для адчэпнага: маўляў, перарабіў ды скралі ці да т. п). З іх шэрагу звяртае на сябе ўвагу паметка Якуба Коласа ад 10 чэрвеня 1927 г. на лісце жа жонкі амаль трохгадовай даўніны (8-9 ліпеня 1924 г., з Кіславодска), у якой падкрэсліваецца, што рукапіс паэмы “Сымон-музыка” ўкрадзены [Т. 18, с.68]. Навошта спатрэбілася тая паметка? І самае галоўнае – для каго яна прызначалася??? Сумнеўна, што самому сабе. Хіба з памяці аўтара змагла б сцерціся такая творчая страта? А значыць, зусім не сабе, а тым, хто задумаецца над лёсам паэмы. Але ўсё стала б на свае месцы, калі б мы даведался, што дзеянні паэта, словы і паметкі вакол другой рэдакцыі “Сымона-музыкі” адбываліся па “рэкамендацыі” цэнзуры ці іншых, больш сур’ёзных органаў дзяржаўнага парадку.

Дзіўна таксама, што аўтар пакінуў толькі даволі абстрактнае, прасторавае тлумачэнне, чаму ён перарабіў канцоўку – з песімістычнай на аптымістычную [Т. 9, с.410-411]. Хаця гэтай і іншым зменам у паэме можна было з лёгкасцю даць лагічную прасавецкую інтэрпрэтацыю.

Выбітны коласазнавец У. Конан не абвяргае інфармацыі пра скраданне другой рэдакцыі, але і дадае: “Вядомы нам сучасны твор — гэта ўжо другі варыянт савецкай рэдакцыі. Першы варыянт гэтай рэдакцыі (1924) цэнзура вярнула аўтару на дапрацоўку — абавязковую тады самацэнзуру”[103]. Дый сам Якуб Колас у лісце да жонкі пісаў, што «занёс Шукевічу ў цэнзуру апошні раздзел “Сымона-музыкі”» [Т. 18, с.70]. Значыць, рукапіс быў не толькі скончаны, але і аддадзены на разгляд цэнзарам. І толькі потым другая рэдакцыя паэмы нібыта знікла! Супадзенне ці лагічнае развіццё падзей?

І яшчэ адна дэталь. Бытавая. Вага “чамаданчыка”, узятага ў дарогу пісьменнікам. Пачытаем, што ён піша ў лісце да жонкі: “Дарма я валок гэтыя чамаданы. <...> Калі я пачну ставіць сваю абэрыну, то ў мяне аж пуза трашчыць. Ну, але ж у дарозе не кідаць іх. Буду пакутаваць да канца і верна трымацца чамадана” [Т. 18, с.42]. І гэта словы чалавека, сіла рук якога стала напаўлегендарнай. Дзеля прыкладу даверымся старэйшаму сыну класіка Данілу Міцкевічу, які да таго ж быў і адным з най-

101 Колас Я. Сымон-музыка. Мюнхен: Выдавецтва “Бацькаўшчыны”, 1955. С. 80.
102 Мушынскі, М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / М. Мушынскі ; навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск : Беларус. навука, 2010. 326.
103 Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы “Сымон Музыка”: параўнальны аналіз // Тэрмапілы, 2008, № 12. С. 334.

лепшых даследчыкаў жыцця свайго слыннага бацькі: “Быў сярэдняга росту. Даволі моцнага складу цела. Вочы цёмныя. Меў шмат сілы. Мог дужацца з двума-трыма семінарыстамі і ўсіх перамагчы. Любіў цягацца на пальцах і рэдка каго не перамагаў (гаворачы гэта, Даніла Міцкевіч схваціў сваім сярэднім пальцам мой сярэдні палец і я пачуў, як цягне не толькі маю руку, але і ўсяго мяне). Вось бачыце, – цягнуў расказ Даніла Міцкевіч, – а мне ж семдзесят чатыры гады. Ведайце, што бацька мяне без цяжкасці перацягваў тады, калі я быў намнога мацнейшы, чым сёння”, – такою згадкаю падзяліўся сын Якуба Коласа з Алесем Барскім[104]. Наколькі можна было неўпрыкмет скрасці Коласаў чамадан, калі яго вельмі дужы гаспадар сам ледзь з ім спраўляўся, сказаць немагчыма. Тым не менш супастаўленне абедзвюх звестак дае глебу для ўзнікнення яшчэ аднаго пытання пра крадзёж, а адсюль – яшчэ аднаго сумнення адносна афіцыйнай, агульнапрынятай версіі пра другую рэдакцыю паэмы “Сымон-музыка”.

Нягледзячы на вобразнасць крылатага выслоўя, варта нагадаць, што рукапісы не гараць і нейкія сляды павінны былі застацца, – за выключэннем таго выпадку, калі матэрыялы метадычна і татальна зачышчаюцца з мэтай не пакінуць аніякіх слядоў (бальшавікі часта практыкавалі такі падыход і нярэдка дасягалі мэты). Ці не тымі слядамі з’яўляюцца не так даўно выяўленыя слынным гісторыкам В. Скалабанам дакументы пра цэнзараванне Галоўлітам недзе напрыканцы 1924 г. разглядаемай паэмы, пададзенай аўтарам на разгляд ужо ў перапрацаваным выглядзе? Арыгінал тэксту, які згадваецца ў дакуменце і які даў бы адказ на пастаўленае пытанне, пакуль не адшуканы. І хаця аўтары каментарыяў схіляюцца да таго, што пастанова Галоўліта па паэме “тычыцца трэцяй рэдакцыі, тэкст якой быў аддадзены Коласам, каб атрымаць дазвол на выданне твора”, узнікае пытанне, як паэт мог аддаць на разгляд у снежні 1924 г. твор, закончаны толькі ў маі ці чэрвені 1925 г., пра што ў каментарыях таксама гаворыцца [Т. 9, с.414-415, 402]. У святле гэтай інфармацыі выкрышталізоўваецца гіпотэза, што другая рэдакцыя паэмы “Сымон-музыка” бракавалася як мінімум два разы цэнзурай (летам 1924 г. і наступнай зімой) і ўрэшце была скончана летам 1925 г., але афіцыйна за ёй замацавалася найменне трэцяй рэдакцыі – канчатковага варыянта твора, дапушчанага да чытачоў.

Як бачна, падчас сацыяльна-палітычных навальніц на Беларусі, пачынаючы ад заканчэння Першай сусветнай вайны, калі краіну рвалі на кавалкі з розных бакоў імперыялісты, Якуб Колас ператвараецца з патрыёта (ад пачатку нават даволі лакальнага “роднага кута”) у грамадзяніна з пазіцыямі, якія можна назваць нацыяналістычнымі (бальшавікі так і ўспрынялі іх), у выніку чаго падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй, міралюбіва замацаваны імі ў Рызе 18 сакавіка 1921 г. выклікаў у паэта буру эмоцый, скіраваных супраць абодвух распарадчыкаў доляй беларускага народа і самога Канстанціна Міцкевіча. Тым не менш яшчэ да сярэдзіны 1920-х гг. у вершах Якуба Коласа заўважным становіцца працэс змены поглядаў аўтара ў бок лаяльнасці да савецкай улады, прымірэння з сацыяльна-палітычнай рэчаіснасцю. Тэма падзелу Беларусі такса-

104 Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 133.

ма патрохі трансфармуецца ў тым жа рэчышчы. Каталізуе знікненне антысавецкіх нотак у паэзіі Песняра падазрэнне яго ў “лістападаўскай справе” (якраз у 1925 г.). Пад прэсінгам ён быў вымушаны апраўдвацца і нават – трохі пазней – пакаяцца[105].

* * *

Якуб Колас, ужо будучы народным паэтам, разумеў, кажучы словамі Купалы, “які павеяў вецер на загоны”, – і “асадзіў назад”. Нельга сказаць, што потым ён зусім не вытыркаўся (усё ж заступаўся за многіх, над кім завіс дамоклаў меч сталінскіх рэпрэсій [106]). Але ліра Песняра загучала ўжо на іншы – на савецкі – лад. Вернасць рэжыму Якуб Колас у адным з некалькіх пакаяльных лістоў 1930 г. абяцае давесці на справе [107]. Штопраўда, даводзіць паэт пачаў яшчэ раней, проста ўладзе было ўсё мала ды мала паэтычнай даніны. Яе патрэбна было столькі, каб зацьміць грунтоўны пласт “нацдэмаўскіх” твораў. Канкрэтны час ідэйнага пераломy ў творчасці Якуба Коласа адносіцца да 1925 г. Дый сам паэт не хаваў гэтага: чытачам даводзіў больш ці менш празрыстай алегорыяй, эзопавай мовай (гл. ніжэй), а стражам рэжыму – казаў адкрыта: “Першы перыяд мае літаратурнае дзейнасці быў закончаны к 1925 г. З 1911 па 1921 г. у маёй літаратурнай рабоце былі вялікія перарывы, і толькі 1921 г., год майго звароту ў Савецкую Беларусь, і наступныя гады далі мне магчымасць поўнасцю аддацца літаратурнай рабоце і закончыць свае творы першага перыяду, пачатыя яшчэ ў астрозе ў 1910 – 1911 гг. Гэты факт, факт заканчэння нацыянал-дэмакратычных (падкрэслена намі. – А. Т.) твораў у Савецкай Беларусі і выданне іх савецкім выдавецтвам, а таксама і адсутнасць здаровай марксісцкай крытыкі яшчэ больш замацоўвалі погляд на мяне як на ідэолага нацыянал-дэмакратызму” [Т. 17, с. 145-146] (як бачым, аўтар не адмаўляецца ад нацыянал-дэмакратычнасці сваіх твораў).

Тэма падзелу Беларусі з 1925 г. (калі былі адкінуты савецкія планы аб’яднання Беларусі шляхам нацыянальнага паўстання[108]) патрабавала адназначна прабальшавіцкіх інтэрпрэтацый. Пэўны час на іх Якуб Колас не мог рашыцца (як і ўвогуле не мог адразу прыняць – хаця б на словах – савецкую дактрыну). Заўважны перыяд ваганняў, роздумаў, калі “*павесіў* паэт сваю музу на плоце” [Т. 2, с.115] (курсіў наш. – А. Т., варта звярнуць увагу на лексічную амбівалентнасць выдзеленага слова, якое можа абазначаць павешанне), перыяд двухсэнсоўнасцей і расчараванняў, звароту да перакладаў і твораў для дзяцей. То паэт, якому “свет жорстак і глух”, хавае музу, а сам “спявае з другою” (“Пахаваная муза”, 1925) [Т. 2, с.115-116]. То яго “трывожыць” “цьма”, і ён задаецца пытаннем:

105 Гл. падрабязней: Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4. С. 220-222; Стужынская Н. І. Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я гг. ХХ стагоддзя. Мінск: А.М. Вараксін, 2012. С. 122; Т. 17, С. 134-161.

106 Гл. падрабязней: Трафімчык А. “На ростанях лёсу паэта і палітыка…”. Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка // Дзеяслоў, 2011, № 5. С. 256-257.

107 Гл. падрабязней: Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4. С. 221-223

108 Гл. падрабязней: Трафімчык А. Да праблемы дзяржаўнасці распалавіненай Беларусі ў міжваенны перыяд: палітыка Крамля // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2008, № 29. С. 115-129.

“Калі ж ёй канец?” (“Шорхае варожа”, 1925) [Т. 2, с.116]. То нібыта жартам ўспыхвае надзея,

Што нават цэнзару-зладзею
Я мыслі людскасці навею,
І ён прапусціць мне паэму. (“Малітва беларускага пісьменніка”, 1925) [Т. 2, с.129]

А то і выдасць, паводле асабістага азначэння, “трохі пад Крылова” байку “Свінні пад дубамі” (1926) з гучным нацыянальным лейтматывам [Т. 2, с.125-126] (у кантэксце беларусізацыі, праўда, ён гучаў не так рэзка, як сёння можа падацца, аднак дысананснасць верша выявілася ўжо праз пару-тройку гадоў, калі наступілі кардынальныя змены ў савецкай унутрыпалітычнай дактрыне, названыя карэнным пераломам).

Нават у верш, прынагоджаны да пятай гадавіны часопіса “Полымя” (1926), паэт укладае свае перажыванні і жаданні адносна “загонаў, што засталіся за кардонам”, заклікаючы агонь (ачышчальны сімвал) шугаць і разгарацца:

Шугні, агонь,
І цемрадзь-сон
Развей, згані ад краю ў край,
Іскрыся іскрамі, палай!
Нясі святло і тым загонам,
Што засталіся за кардонам,
Дзе брат мой стогне пад прыгонам,
І шлях яму ты асвятляй! (“Полымя”, 1926) [Т. 2, с.118]

Знешне, як можа падацца, верш цалкам упісваецца ў савецкае ідэалагічнае клішэ, распрацаванае для мастацтва, названае потым сацрэалізмам. Аналізуючы датаваны 1937 г. ліст М. Ісакоўскага старшыні Саюза пісьменнікаў СССР У. Стаўскаму з выкрываннем Якуба Коласа як аўтара контррэвалюцыйнага верша “Полымя”, журналісты газеты “Камсамольская праўда” Л. Сяліцкая і Д. Васілеўскі прыходзяць да высновы, што расійскі паэт трапіў у аблуду і “содержание стихов – очень даже идеологически верное: поэт ждет, когда революционное «полымя» осветит путь объединения двум разлученным половинам белорусского народа”[109]. Мусім пагадзіцца толькі часткова. М. Ісакоўскі падвёў памылковыя абгрунтаванні контррэвалюцыйнасці твора. Іх з лёгкасцю і разбілі журналісты. (Зрэшты, яшчэ тады данос, перасланы спачатку кіраўніку Кампартыі Беларусі В. Шаранговічу і ім аддадзены старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў М. Лынькову не быў пушчаны ў ход: пэўна, прытрымаў ліст новапрызначаны (з чэрвеня 1938 г. – недзе праз год пасля даносу) кіраўнік рэспублікі П. Панамарэнка, – пра што мяркуюць самі журналісты.) А вось шматзначнага злучніка “і” ў чацвёртым радку з канца раней не заўважалі даследчыкі – ні сучаснікі Якуба Коласа, ні цяперашнія (пра інцыдэнт вакол верша згадвае М. Мушынскі, але таксама не ідзе ў глыб аналізу[110]). Злучнік жа гэты з’яўляецца якраз

109 Селицкая Л., Василевский Д. Поэт Исаковский писал доносы на Якуба Коласа // Комсомольская правда [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://kp.by/daily/24501.3/653647. Дата доступу: 13.01.2012.
110 Мушынскі М. Мае каласавіны : з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа / навук. рэд. М.А. Тычына. Мінск: Беларус. навука, 2010. С. 32.

ключом для прачытання верша. У кантэксце сінтаксічнай канструкцыі разглядаемага твора "і" становіцца сінонімам "таксама" – слова, якое мае на ўвазе яшчэ адзін аднародны член сказа, які не абавязкова называецца, агучваецца ў тым сказе, аднак менавіта яно першаснае, бо на яго арыентуецца той аднародны член сказа, да якога дастасаваны злучнік "і". У выпадку з вершам Якуба Коласа "Полымя" безумоўна тым першасным аднародным членам сказа з'яўляецца Савецкая Беларусь. Такім чынам, аўтар свой заклік (тоесны Купалаўскаму "з цемры да святла") распаўсюджвае не толькі на "загоны, што засталіся за кардонам", але і на тую частку Беларусі, дзе пануе бальшавіцкая ўлада. Дакладней наадварот: менавіта Савецкая Беларусь шляхам эліпсісу ўказваецца першай, на якой трэба развеяць "цемрадзь-сон… ад краю ў край". А гэта – ужо несумненна антысавецкія, контррэвалюцыйныя матывы. (Не выключана, што разгледжаны злучнік быў не спецыяльна, міжвольна выкарыстаны аўтарам, стаўшы агаворкай – прыкладам фройдаўскай тэорыі бессвядомага, а гэта тым больш і яшчэ раз пацвярджае сапраўдную пазіцыю грамадзяніна і паэта.)

Працягам тэмы разгледжаных вершаў сталі казкі жыцця "Ноч, калі папараць цвіце" (1925) і "Хвароба" (1927). Іх алегорыі даволі празрыстыя і не патрабуюць крытычнай дэшыфроўкі.

«…Людзі тут розныя былі. Адны жылі тут спрадвеку, тут нарадзіліся і тут паміралі. Так і называліся яны "тутэйшыя людзі". А другія часта няпрошаныя заходзілі. Але яны казалі, што прыйшлі, каб прынесці дабро тутэйшым людзям. Аднак, як вядома, казаць можна адно, а рабіць зусім іншае.

Усё гора тутэйшых людзей было ў тым, што пра іх вельмі многа клапаціліся суседзі. Адны суседзі казалі: "Вы – гэта не вы, а тое самае, што і мы. Дык наце ж вам нашы парадкі, нашы школы, нашу мову, бо ваша мова такая ж, як і наша, толькі вы яе сапсавалі". Тое самае казалі суседзі з другога боку, але толькі на свой лад» [Т. 7, с.66-67] і г. д. Так распавядаецца ў прысвечанай Янку Купалу казцы "Ноч, калі папараць цвіце". У святле гэтага прысвячэння зразумелай робіцца алюзійнасць частага ўжывання азначэння людзей тутэйшымі: маецца на ўвазе нашумелая і неўзабаве забароненая п'еса "Тутэйшыя".

Паводле другой казкі, жылі-былі браты – Усход і Захад (дзве паловы беларускага народа). Да іх убілася Хвароба, "мізэрная, згаладалая, бакі ўпалыя, рэбры тырчаць ды вочы блішчаць" [Т. 7, с.86] (чым не слоўная карыкатура бальшавіка?!). Аднак Усход усё ж здолеў пазбавіцца Хваробы – праз аперацыю: "Аперацыя трохі балючая, але выганяе Хваробу. І самы верны струмант пры аперацыі – доўбня і агонь. Стукнуць хваробу па галаве і прыпаліць тое месца, дзе яна сядзела" [Т. 7, с.87] (агнём і мячом – вось як, на думку аўтара, "аздаравілі" ўсходнюю частку Беларусі). Больш таго, Якуб Колас зрабіў намёк, што брат Усход не можа ўсяго распавесці Захаду: "Вельмі шкода, што не магу ўсё гэта расказаць табе *з вока на вока,* бо паміж намі завязаная новая Хвароба – Граніца" [Т. 7, с.88] (курсіў наш. – А. Т.).

* * *

Да тэмы падзеленай радзімы Якуб Колас звяртаецца на пачатку 1927 г. у вершы "Братам Заходняй Беларусі". Яго ўвага, выкліканая разгромам Беларускай сялянска-работніцкай грамады, абрушваецца гневам на санацыйны рэжым Рэчы Паспалітай Польшчы. Напрыканцы паэт прадракае:

Браты! Мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панах. [Т. 2, с.129]

Такім чынам, паэт бачыць паратунак для "заходнікаў" у дыктатуры пралетарыяту, сімвалам якой з'яўляецца ўжыты ў вершы молат.

У далейшым Якуб Колас працягваў граміць паэтычным словам польскія ўлады, якія прыгнятаюць беларусаў, усё больш пры гэтым апяваючы ўлады савецкія: гэта вершы "Панам" (1927), "А. Луцкевічу" (1927), "Грамадаўцам" (1928), "Беларусі пад Польшчай" (1928), "Панская ласка" (1928), "Краіне Саветаў" (1930), "Да тыдня беларускай культуры" (1931), "Польскім катам" (1931), "Заходняй Беларусі" (1932), "З дарогі" (1936). Інтанацыі твораў самыя розныя: гэта і абвінавачванні, і праклянцці, і пагрозы, і прароцтвы, і ўслаўленні, і заклікі…

Аднак штучная настройка Коласавай ліры часам яшчэ давала збоі (у савецка-сацыялагізатарскім разуменні). Напрыклад, верш "А. Луцкевічу" ў хуткім часе пасля напісання становіцца непраходным у друк: аб'ект прысвячэння не паддаўся савецкай прапагандзе і заставаўся праціўнікам бальшавікоў (дарэчы, не пазней, чым праз тры гады, і сам Якуб Колас кан'юнктурна павесіць цэтлік "прадажніка". апартуніста і "нацыянал-фашыста" на асобу яшчэ нядаўна аднадумца [Т. 17, с.147, 152; Т. 16, с.89, 96]). Не дапамаглі і ідэйна "правільныя" радкі:

Налучылі край наш іншыя два лёсы:
Запалілі ўсход наш залатыя косы,

Дзе ратаі вольна падымаюць ролі,
А на захад збегла панская сваволя. [Т. 2, с.133]

Цікава, што ў 1928 г. (калі «пачаў мацней адчувацца ціск ГПУ ў галіне літаратуры»[111]) народны паэт яшчэ змог размясціць у двухтомным зборы твораў некаторыя свае антысавецкія вершы, у тым ліку пра падзел радзімы (у першую чаргу трэба назваць "Беларускаму люду"), што варта лічыць таксама свайго роду ідэалагічнай дыверсіяй для тагачаснага кантэксту.

Былі ў Якуба Коласа і больш сур'ёзныя разыходжанні з "генеральнай лініяй партыі". Так, непадцэнзурны верш "З мінулага", напісаны 2 чэрвеня 1933 г., апублікаваны ўпершыню толькі ў Зборы твораў 2007 – 2012 гг. Прынцыповыя разыходжанні з метадам сацыялістычнага рэалізму ў савецкі час пакідалі твор па-за бальшавіцкім друкам.

Лірычны герой верша аддаецца ўспамінам пра лета і родныя краявіды. Знаёмая па колішніх творах Песняра алегарычнасць падказвае, наколькі цяжка і смутна лірычнаму герою.

---

111 Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005.С. 898.

Ды мінула лета, патускнелі блескі,
Пагубляў стары дуб залатыя фрэскі
І прайшоўся вецер па лугох з касою,
Засталося поле з выцвеўшай красою.

У вачох-зарніцах свеціцца журбота,
Знаць і ёй на сэрцы залягла сумота.
Адлятае птушка ды ў нямілы вырай,
Залягае ў сэрцы жальба мая шырай.

Ці я страту чую роднага чагосьці,
Што так сэрца ные, ные ў горкай млосці.
Тая ж постаць, вочы, а сама не тая.
Чаму гэтак стала? чаму? я пытаю.

Эх, ды не дачуўся водгулля ні разу.
Знаць і не пачую я таго адказу!
Так і застанецца песня недапета…
Ды каго абходзіць смутак, сум паэта? [Т. 2, с.177-178]

Знешне пейзажна-філасофская замалёўка ўсё ж мае, як і некаторыя ранейшыя творы Якуба Коласа, палітычны падтэкст. І той факт, што верш не публікаваўся за савецкім часам, з'яўляецца сведчаннем наяўнасці антысавецкіх настрояў аўтара, які пяе аб роднай старонцы. Менавіта яе "страту" "чуе" лірычны герой: "родны кут" знаходзіцца па заходні бок мяжы, пад Польшчай, а ўсходняя частка Беларусі ў рамках савецкай рэспублікі не апраўдала спадзеўнага боку амбівалентных перажыванняў і чаканняў паэта. Ён задаецца пытаннем аб прычыне. Аднак няма адказу – "водгулля", якое алюзійна адсылае чытача да аднайменнага зборніка 1922 г. з антысавецкімі выпадамі на тэму падзелу Беларусі, а таксама да аднайменнага верша (20.11.1921) гэтага зборніка. У тым творы аўтар сам сабе кажа адгукацца на падзеі – ці то радасныя, ці наадварот [Т. 2, с.100]. Галоўным матывам для паэта выступае шчырасць. Таму, кажучы ў вершы 1933 г. пра адсутнасць водгулля, Якуб Колас падказвае, што ён перастаў быць шчырым.

Пясняр змяніў гучанне сваёй ліры. Змяніў даўно. Прычым усведамляў гэты крок – крок да няшчырасці. Таму напярэдадні змены даў знаць пра гэта: яшчэ ў 1925 г. – згаданым ужо вершам "Пахаваная муза", у якім сказаў праз прыём перададзенай трыбуны свайму лірычнаму герою – таксама паэту, што муза, з якою "даволі блукалі… па свеце", "заснула", "змоўкла" – "і згаслі агні", а сам паэт "спявае з другою", знаходзячы дэтэрмінізм і апраўданне ў тым, што "такі ўжо наш свет" [Т. 2, с.116]. Фактычна творца падаўся ў тую прастору духоўнага і грамадска-палітычнага жыцця, якую прынята называць унутранай эміграцыяй. Яму, як і Янку Купалу, заставаліся толькі "сны аб Беларусі". Вершам "З мінулага", які быў напісаны "ў стол" і праляжаў да нашых часоў, Якуб Колас проста не стрымаўся. А магчыма, і пастараўся перадаць яшчэ адзін ключ сваім сучаснікам (калі б да іх дайшоў твор) і нашчадкам (пэўна найперш ім спадзяваўся адрасаваць аўтар свой верш) для расшыфроўкі яго сапраўдных паэтычных памкненняў і перажыванняў.

Да тэмы падзеленай радзімы Якуб Колас вярнуўся 21 верасня

1939 г., зрэагаваўшы на савецкае “ўз’яднанне” Беларусі вершам “Свайму народу”. Гэты і шэраг іншых, трохі пазнейшых вершаў (“Гудзе зямля, дрыжаць лясы…”, “Радасная сустрэча”, “Наперад”, “Вольнаму народу” – як бачна, колькасна менш, чым напісаў Янка Купала), а таксама паэма “Рыбакова хата”, якая дапісвалася пасля вайны, не падвяргаюць сумненням высокую вартасць падзей, у выніку якіх савецкая ўлада прыйшла на Заходнюю Беларусь. Паэт падае розныя тэматычныя аспекты – і ўсюды бачыць змены да лепшага. Галоўнае:

Няма граніц, няма паноў –
Сышло іх панаванне… (“Гудзе зямля, дрыжаць лясы…”) [Т. 3, с.26]

(На самай справе старую мяжу саветы захавалі пад пільнай вайсковай аховай, не жадаючы, каб беларусы бачылі, як жывуць па іншы бок гэтай амаль дваццацігадовай мяжы, бо расчараваліся б людзі з абедзвюх частак нядаўна рознадзяржаўнай Беларусі.)

М. Мушынскі піша: «Наўрад ці можна аднесці да творчых дасягненняў Якуба Коласа і вершы, прысвечаныя вострай, балючай тэме Заходняй Беларусі і тэме, паводле тагачаснай тэрміналогіі, вераснёўскага вызваленчага паходу Чырвонай Арміі… Гэтым творам уласціва заклінальна-агітацыйная інтанацыя. Драматызму сітуацыі, звязанай з далучэннем беларускіх зямель да савецкай Беларусі, вершы не перадаюць. Увага паэта засяроджана зноў на ўслаўленні героікі, на паэтызацыі “чырвонай слаўнай раці”, якая несла свабоду і мір. У гіпербалізаванай форме падаецца ваеннае сутыкненне савецкай і польскай армій… Спрошчана намаляваны сцэны ўцёкаў польскіх правячых колаў, “вяльможнага панства”»[112].

Нічога, тым не менш, не дае падставы сумнявацца ў шчырай радасці Якуба Коласа з прычыны аб’яднання Беларусі. Але, як і ў выпадку з Янкам Купалам, прысвечаныя гэтай падзеі вершы цалкам кан’юнктурныя, зададзеныя і рэгламентаваныя савецкай дактрынай.

Гэтаксама варта характарызаваць колькістаронкавы публіцыстычны артыкул Якуба Коласа 1943 г. “Дружба и взаимное уважение – залог свободы и процветания белорусского и польского народов” з наступнымі радкамі: “Обращаясь в недалекое прошлое, мы должны признать, что черной страницей в истории польского государства остается насильственный захват польскими империалистами западной части Белоруссии в 1920 – 21 гг. Ни один народ мира, в том числе и польский, не оправдывал этот захват и считал его актом насилия. Живое тело белорусского народа польские империалисты раскроили пополам” і да т. п. [113]

* * *

У заключэнне варта звярнуць увагу, што непасрэдна на тэму падзелу Беларусі ў 1921 г. паводле Рыжскага дагавора Якуб Колас з 1925 г.

112 Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908 – 1910) / рэд. тома М.І. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. К.А. Казыра, Т.Р. Строевай; прадм. М.І. Мушынскага; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007. С. 92.
113 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад.: В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 173-179.

выказваўся толькі аказіянальна. Паэт асуджаў польскіх прыгнятальнікаў, услаўляючы жыццё той часткі Беларусі, на якой была створана БССР. Ён ужо ніколі не вярнуўся да вершаванага асэнсавання непасрэдна самой падзеі падзелу, хаця быў змушаны адгукацца на яе пазнейшыя вынікі. Прыкладна гэтаксама павёў сябе Янка Купала. Выглядае на тое, што абодва тагачасныя народныя паэты Беларусі не зракліся сваіх ацэнак першай паловы 1920-х гг., не зракліся сваіх колішніх маркіраванняў суб'ектаў падзелу.

"Адчуваючы сябе на гістарычным раскрыжаванні паміж Захадам і Усходам, Купала і Колас, у самым пачатку не толькі інтуітыўна, але і цалкам свядома, абапіраючыся на глыбокае народнае адчуванне ісціны, абралі суверэнітэт. Голас крыві, пачуццё гістарызму дапамаглі абодвум зрабіць выбар. Надзвычайная цікавасць да літаратуры суседзяў з'яўляецца часткай агульнаеўрапейскага літаратурна-мастацкага дыялога Захаду і Усходу, які працягваецца да нашых дзён. Беларуская літаратура заўсёды адчувала сябе на шумным перакрыжаванні сустрэчных мастацкіх ідэй, напрамкаў, рухаў, плыняў, востра рэагавала на водгукі і ацэнкі суседзяў і спавядала маральны імператыў", – прыходзіць да высновы вядомы беларускі літаратуразнавец М. Тычына[114] .

Увогуле тэма падзелу Беларусі ў творчасці Якуба Коласа з'яўляецца дастатковай, каб прасачыць эвалюцыю нацыянальнай пазіцыі паэта. Яго палітычныя погляды, настроі выглядаюць больш празрыстымі і прадказальнымі, чым у Янкі Купалы. З патрыёта свайго краю, духам "тутэйшага", Якуб Колас вырастае ў "дзяржаўніка" з цэласнай нацыянальнай свядомасцю. Спрычыніліся да такіх перамен, як бачыцца, папершае, перыпетыі ў лёсе самога творцы – яны стварылі эмацыйна-нервовую глебу, а па-другое, трагедыя падзелу роднай краіны (да таго ж малая радзіма, маці, многія сваякі засталіся па заходні бок мяжы) – яна выклікала хвалю абурэння і без таго неспакойнай душы паэта, стала якраз тым пераломным момантам усведамлення Беларусі як эвентуальнай дзяржавы, а не проста краіны, у выніку родны кут для Якуба Коласа пашырыў свае межы, ахапіўшы ўсю Беларусь. Больш таго, да сацыяльнай паэтычнай іпастасі дадаецца сацыяльна-палітычная грань, што ў ранейшых вершах паэта назіралася даволі замглёна, толькі намацвалася.

114 Тычына М.А. Купалаўска-коласаўская праграма сацыякультурнай адбудовы Беларусі і яе рэалізацыя ў сучасных умовах // Каласавіны. Творчая спадчына Якуба Коласа ў парадыгме грамадска-інтэлектуальнага асяроддзя пісьменніка: матэрыялы навуковай канферэнцы, прысвечанай 125-годдзю з дня нараджэння паэта Беларусі Якуба Коласа, 30 кастрычніка 2007 г., Мінск / складальнікі: З.М. Камароўская, Г.І. Зайцава. Мінск: Лазурак, 2008. С. 25.

# Творчасць класіка – крыніца натхнення. Драматургія для дзяцей па матывах твораў Якуба Коласа

Празаічныя і вершаваныя творы Якуба Коласа здаўна з’яўляюцца аб’ектам перакладаў на мову драматургіі і далейшага сцэнічнага ўвасаблення. Пэўна, найбольш вядомымі тут сталі п’еса А. Звонака “Навальніца будзе”, напісаная па матывах трылогіі “На ростанях” у 1958 г., і зусім нядаўні спектакль М. Пінігіна “Сымон-музыка”. За апошні час з’явілася таксама некалькі п’ес для дзяцей паводле Коласавых твораў.

На сучасным этапе развіццё драматургічнай казкі стала як ніколі інтэнсіўным, а творчы метад стварэння п’ес на матэрыялах фальклору і аўтарскіх твораў аказаўся вельмі пашыраным і эфектыўным. У некаторых выпадках складана адрозніць п’есы, напісаныя па матывах, ад інсцэніровак, створаных таксама на аснове вядомых твораў. Здавалася б, у дадзеным выпадку паказчыкам павінна выступаць ступень крэатыўнасці ў канструяванні сюжэта і вобразаў. Аднак, як паказвае досвед, нават у інсцэніроўках таксама можа адбыцца прыкметная трансфармацыя характараў, тым больш пры рэалізацыі іх на сцэне (як гэта і прадугледжваецца жанрам), не кажучы ўжо пра эвентуальныя змены ў партрэтах герояў, якія першапачатковую літаратурную прапіску мелі ў празаічным родзе. Таму часам даводзіцца кіравацца фармальным жанравым маркіраваннем аўтараў.

Згодна з агульнай тэндэнцыяй, вобразы ў інсцэніроўках, як правіла, вядомых фальклорных ці аўтарскіх твораў маюць большую схільнасць да падабенства са сваімі аўтэнтыкамі. Сцэнічны абразок Г. Каржанеўскай “Дарункі добрых духаў” (2007) напісаны па Коласавай “казцы жыцця” “Ноч, калі папараць цвіце”. Перастварэннем на драматургічную мову фальклорныя вобразы атрымалі яшчэ адно літаратурнае жыццё. Духі паўстаюць сфарміраванымі персанажамі. Яны з’яўляюцца прадстаўнікамі добрых сілаў і ўзнагароджваюць народжанага ў гэтую ноч (маецца на ўвазе Янка Купала) дарункамі, пад якімі няхітра зашыфраваны знакавыя творы класіка.

Смешную гісторыю “Як птушкі дуб ратавалі” (2004) на аснове яшчэ аднаго твора Якуба Коласа з цыклу “Казкі жыцця” сканструявала гэта ж аўтарка. Невялікі па памеры абразок тым не менш адлюстраваў разумовую палярнасць птушак. За зіму яны ледзь не звялі са свету дуб сваім лячэннем. Але вясной буслы яго выратавалі. Як тлумачыцца ў творы, гэта казка “вучыць нас рабіць дабро, захоўваючы пачуццё меры. Бо і добрую справу, як вядома, можна загубіць, калі брацца за яе без розуму і здаровага сэнсу”[115] . У п’есе характары атрымалі большы драматызм і рэльефнасць. Так, Дзяцел з нейтральнай птушкі Коласавай казкі ў Г. Каржанеўскай робіцца хабарнікам. Такім чынам, драматург канкрэтызуе несімпатычнасць вобразаў птушак, якія лячылі дуб.

Інсцэніроўкі хоць і захоўваюць канву твораў, па якіх яны створаны, але ў той жа час не заўсёды капіруюць іх. Больш таго, досвед паказвае, што крэатыўны падыход ідзе толькі на карысць такому драматургічнаму асэнсаванню прозы, вобразы якой у выпадку прасталінейнага капіравання мо-

115 Каржанеўская Г. Як птушкі дуб ратавалі // Не можа быць: міні-п’есы. Мінск: Ковчег, 2010. С. 62.

гуць пацярпець у эстэтычным плане. Драматургія патрабуе акрэслівання характараў іншымі сродкамі, без якіх не абысціся і ў інсцэніроўцы, інакш не адбудзецца паўнавартаснай перадачы канфлікту.

У сцэнічным абразку для батлейкі “Збан” (2010) Г. Каржанеўская да спадчыны Якуба Коласа падышла яшчэ больш творча. Найперш варта заўважыць, што гэтым разам у аснову леглі адразу дзве казкі – “Што лепей?” і “Сірата Юрка” (праўда, апошняя не належыць да “казак жыцця”, як гэта дэкларуе драматург). Рэалістычнае апавяданне класіка пры інсцэнізацыі Г. Каржанеўскай змяняе акцэнты, набываючы болей казачнасці. Дзеля гэтага, захоўваючы характары тоеснымі Коласавым, аўтарка ўводзіць анёлаў, а трагічную развязку робіць эўфеміністычнай.

Прыклады разгледжаных п’ес Г. Каржанеўскай дэманструюць, што пераклад мастацкай прозы на мову драматургіі патрабуе індывідуальнага падыходу да кожнага твора, які патрэбна не толькі шліфаваць да драматургічнай формы, але і часам дапісваць, узбагачаючы дыялогі, рэмаркі, ствараючы неабходную для п’есы сістэму вобразаў.

І. Сідарук п’есу-казку “Юнак і Вядзьмар” (2004) напісаў таксама паводле твораў Якуба Коласа. Вобразы яе галоўных герояў Сымона і Ганны намінальна нам вядомы па паэме класіка “Сымон-музыка”. Аднак іх характары ў нашага сучасніка атрымалі аўтэнтычны змест. Дый перыпетыі твораў істотна розняцца. Сымон атрымаў у спадчыну ад пастуха чароўную скрыпку, якая павінна яго самога і Ганну выратаваць ад беднасці. На цудадзейны інструмент палюе і Вядзьмар, пускаючыся на розныя хітрыкі. У працэсе пераадольвання перашкод да Сымона прыходзіць разуменне сапраўдных жыццёвых вартасцей. Аднак перад гэтым Вядзьмар напускае на яго мёртвы сон. Аўтар у дадзеным выпадку выкарыстоўвае метад недагаворанасці. Мы не бачым традыцыйнай экспліцытнай перамогі добрых сіл над злымі. І ўсё ж сумная развязка не абыходзіцца без аптымістычнай ноты чароўнай скрыпкі:

Ды ўстане ён, прачнецца:
Круг не скончыў свой Сымон,
На шырокі шлях праб’ецца,
Хоць мо й доўгі будзе сон.[116] [2, с.103]

Значыць, будучыню аўтар пакідае за станоўчымі героямі.

Лялечны аматарскі тэатр Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа мае ў сваім рэпертуары некалькі пастановак п’ес, напісаных самімі артыстычнымі супрацоўнікамі паводле твораў Песняра. Для тэматычных мерапрыемстваў практыкуюцца рымейкі фальклорных твораў. Так, з нагоды Дня здароўя за аснову была ўзята казка “Воўк-дурань”, што ў свой час запісаў і па-мастацку апрацаваў Якуб Колас, які вельмі любіў фальклор. Гэта казка падкрэслівае вартасць жыцця вясковага, блізкага да прыроды, якую, бывае, забываемся ашчаджаць і шанаваць[117] . У адпаведнасці з задачай, абумоўленай тэмай, адбылася трансфармацыя характараў Коласавай казкі: станоўчыя героі (Баран, Гусак, Свіння і інш.) асабістым прыкладам прапагандуюць зда-

116 Сідарук І. Юнак і Вядзьмар // Віртуальнае зубраня : зб. п’ес для аматар. драм. і лялеч. тэатраў. Мінск: БелДІПК, 2004. С. 103.
117 Трафімчык А. Як Воўк вегетарыянцам стаў // Культура, 2010, 30 кастрычніка – 5 лістапада. С. 16-17.

ровы лад жыцця, іх не ўдаецца з'есці Ваўку; апошні ж выглядае яўным недарэкам:

**Жабка.** Ква-ква-ква! Ква-а-а! Гляньце! Ото ж воўк дурань! Задумаў са сваім слабым здароўем спартыўных бараноў цалкам глытаць!

А для актуалізацыі і надання большай камічнасці ў дыялогі паміж словамі Коласавай казкі шчыльна ўплятаецца ўплыў сённяшніх рэалій:

**Воўк.** …Людцы мае даражэнькія, не паверыце: хутка зайца без дабаўкі Е 628 будзе не злавіць! Я ўжо страшныя сны пачаў сніць: маўляў, лаўлю шэрага, а на ім цэтлік: "Заяц са смакам зайчаціны і (не паверыце) кетчупу!"

Трапіўшы ў сітуацыю экзістэнцыйнай нявыкруткі, зразумеўшы сапраўдныя жыццёвыя вартасці, Воўк змяняе сваю псіхалогію:

**Аўтар**. Ад той пары, не ведаю, як іншыя ваўкі, а гэты завязаў з мінулым і цяпер бегае па лесе: лёгкай атлетыкай займаецца. Людзі кажуць, і ваўчыца ў яго з'явілася[118].

Такім чынам, у драматургічных пераробках празаічных твораў назіраецца захаванне сутнасці канфлікту (што і зразумела: у выпадку з казкамі маем звычайна антаганізм паміж сіламі Зла і Дабра). А вось характары, перавандраваўшы ў іншы род літаратуры, паводзяць сябе кожны па-рознаму: некаторыя захоўваюць тоеснасць са сваім празаічным прататыпам, некаторыя ж паўстаюць зусім у іншым абліччы. Канешне, перанос у кантэкст драматургіі будзе суправаджацца мадыфікацыяй вобразаў. А ў святле рампы яны будуць глядзецца яшчэ больш адметна.

Увогуле можна адзначыць узбагачэнне беларускай драматургіі для дзяцей шматлікімі новымі творамі, з героямі якіх зараз ёсць магчымасць пазнаёміцца некалькімі шляхамі. Досвед паказвае, што вобразы празаічнай літаратуры з'яўляюцца крэатыўнай крыніцай стварэння цікавых драматургічных характараў, якім пры ўмелым падыходзе не шкодзіць прышчапленне да новага роду літаратуры.

Як бачна, апошнім часам спадчына Якуба Коласа прыцянула ўвагу не толькі даследчыкаў, але і пісьменнікаў, для якіх творы класіка сталі крыніцай натхнення. Падобных прыкладаў стварэння дзіцячых п'ес па матывах твораў, аднак, няшмат. Найчасцей драматургі звяртаюцца да народных казак, а на сучасным этапе – яшчэ і да біблейскіх матываў. Творы нямногіх аўтараў аказаліся спрыяльным матэрыялам для напісання п'ес для дзяцей. Адзначым У. Караткевіча і М. Багдановіча, а самую большую ўвагу атрымала творчасць народнага песняра Якуба Коласа.

118 Там жа. С. 17.

# Даследаванні стасункаў паэта

## Паэт і палітык: на ростанях біяграфій Якуба Коласа і Панцеляймона Панамарэнкі



**Якуб Колас і П. Панамарэнка (1946?).**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.).

Стасункі знакамітасцей заўсёды прыцягвалі ўвагу і даследчыкаў, і люду паспалітага. А ўзаемадачыненні мастакоў і вышэйшых дзяржаўных кіраўнікоў увогуле адносяцца, так бы мовіць, да класікі жанру. Якія б яны не былі, часцей за ўсё тыя зносіны не будуць адназначнымі, хаваць-муць у сабе прыцягальныя таямніцы і праз шматлікія гады прыцягваць-муць нашу ўвагу. Такімі фігурамі ў беларускай гісторыі з'ўяляюцца Якуб Колас (1882 – 1956) і Панцеляймон Панамарэнка (1902 – 1984). І калі імя першага вядомае ці не кожнаму беларусу, то пра другога пачынаюць забываць (што й казаць, маладое пакаленне пра больш рэльефных Леніна ды Сталіна не заўсёды зможа ўспомніць, а тут "усяго толькі" кіраўнік рэспублікі). Некаторыя старонкі іх стасункаў, найбольш драматычныя, ужо прыадкрыты гісторыкамі. Але цэласнай карціны пакуль не было сканструявана. І гэты нарыс са спробай аналізу зносінаў першага паэта і першага палітыка асобна ўзятай рэспублікі з'яўляецца крокам да ліквідацыі яшчэ адной белай плямы ў гісторыі і культуры Беларусі.

Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка нарадзіўся на хутары

Шалкоўскім Беларэчанскага раёна Краснадарскага краю. Скончыў Маскоўскі інстытут інжынернага чыгуначнага транспарту (1932). З 1922 г. быў на камсамольскай і партыйнай рабоце. Лёсам было яму наканавана з дзясятак гадоў не проста звязаць з беларускай зямлёй, а і быць галоўным у створанай бальшавікамі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы: у перыяд 1938 – 1947 гг. ён з'яўляўся Першым сакратаром ЦК КП(б)Б.

У якасці фактычнага кіраўніка рэспублікі П. Панамарэнка, зразумела, ішоў у фарватэры агульнасавецкай палітыкі, якая ў той час характарызавалася жорсткімі рэпрэсіямі. Кожны наступны кіраўнік імкнуўся пераўзысці свайго папярэдніка. Так і П. Панамарэнка, толькі прыступіўшы да кіравання рэспублікай (19 чэрвеня 1938 г.), пачаў вырашаць лёсы тысяч яе грамадзян: не прайшло месяца, як у Маскву пайшла зусім сакрэтная шыфроўка, пазначаная яго прозвішчам. Паводле яе, аўтар літаральна дабіваўся рэпрэсавання пяці тысяч чалавек, з іх дзвюх па расстрэльнай катэгорыі[119] . В. Скалабан таксама адзначае, што новы кіраўнік БССР не быў чалавекам іншага часу, прыводзячы ў якасці доказу зробленае ў 1958 г. М. Хрушчову паведамленне старшыні Камітэта партыйнага кантролю пры ЦК КПСС М. Шверніка: "Вызначана, што масавыя неабгрунтаваныя арышты і вынішчэнне партыйна-савецкіх работнікаў у БССР з прыходам Панамарэнкі не паменшыліся. Як бачна з даведкі КДБ пры СМ БССР ад 20 сакавіка 1958 г., пры актыўным удзеле Панамарэнкі асуджаныя тройкай НКУС БССР 6770 чал., з якіх 4650 расстраляныя"[120].

Трохі пазней, 21 лістапада 1938 г., П. Панамарэнка, вывучыўшы сацыяльна-палітычную і культурную сітуацыю на Савецкай Беларусі, накіроўвае ў Цэнтральны Камітэт УКП(б) і асабіста І. Сталіну сёння шырока вядомы ліст "О белорусском языке, литературе и писателях". У ім зафіксаваны першыя ўражанні і меркаванні новага кіраўніка БССР пра культурную сітуацыю ў рэспубліцы, у тым ліку стасоўна ўжо тады класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Менавіта ў гэты час адбываецца знаёмства П. Панамарэнкі і Якуба Коласа. Палітык сапраўды "маніторыў" як сітуацыю ў цэлым, так і асоб у прыватнасці.

Дарэчы, часткова на меркаванні П. Панамарэнкі пра паэта, відавочна, паўплываў сфабрыкаваны кампрамат ад Народнага камісара ўнутраных спраў БССР А. Наседкіна, у якім апошні хлусліва зганіў класіка і яго творчасць, абвінаваціўшы ў самых страшных для тагачасся палітычных грахах[121]. Аднак трэба мець на ўвазе, што А. Наседкін прыехаў кіраваць Беларуссю разам з першым сакратаром, а гэта значыць быў у камандзе, з'яўляўся паплечнікам кіраўніка.

Член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар філалагічных навук С. Лаўшук у прыватнай гутарцы выказаў думку, што П. Панамарэнка, па ўсёй верагоднасці, не з'яўляецца аўтарам таго дакумента. Тым не менш ліст узнік пры П. Панамарэнку ўжо як новым кіраўніку рэспублікі і – што важна – для яго і пад яго. А самае галоўнае – з дакумента зыходзіла

---

119 Платонаў Р. "Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках" // Роднае слова, 1993, № 7. С. 74.
120 Скалабан В. Спадчына Панцеляймона Панамарэнкі // ЛіМ, 2011, 30 верасня. С. 7.
121 Гл. падрабязней: Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4. С. 218.

рэальная небяспека беларускім пісьменнікам (дакладней, тым, хто заставаўся яшчэ некранутым рэпрэсіямі) і ўсёй беларускай культуры.

Некаторыя ўрыўкі ліста варта працытаваць досыць шырока, каб грунтоўна адлюстраваць адносіны П. Панамарэнкі да вядучых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх Якуб Колас быў адным з галоўных фігурантаў:

«Наиболее крупную контр-революционную националистическую работу провел союз «советских» писателей Белоруссии, идейно возглавляемый всегда десятком профашистских писателей (в том числе известные Янка Купала и Якуб Колас), и всегда для прикрытия (в том числе и сейчас) имевший у руководства коммунистов. В этом союзе несправедливой критикой, клеветой, издевательством, пренебрежением затравили не одного честного коммуниста и беспартийного писателя. Здесь разлагали литературное движение, здесь боролись с советской властью под видом борьбы за эту власть. Здесь ненависть ко всему русскому доходила до болезненной истеричности.

<...>

В отношении Янки Купалы, Якуба Коласа, Бровко, Глебки, Крапивы, Бядули, Вольского, Аксельрода и др. членов этой «могучей кучки», узурпировавшей представительство от Белорусской литературы всюду, в том числе и за рубежом, людей, творческая авторитетность которых непомерно раздута, проводивших лично всю описанную выше вражескую работу, имеются многочисленные показания разоблаченных и арестованных врагов, изобличающие их вплоть до связей с польской дефензивой.

В отношении Янки Купалы имеется 41 показание, в большинстве прямые; Якуба Коласа... 31 показание; Крапивы... 12 показаний и так далее. По количеству и качеству изобличающего материала, а также по известным нам фактам их работы, они, безусловно, подлежат аресту и суду, как враги народа. В частности, Наркомвнудел Белоруссии запросил из центра санкцию на арест Купалы и Коласа уже давно, но санкция пока не дана.

Положение в отношении к ним сложное. Они, главным образом, Янка Купала и Якуб Колас, пользуются известностью, прославили их достаточно сильно, их включают во всякие комиссии по учебникам и словарям, переводам, литературным юбилеям. Не допустить этого, значит сразу определить свое отношение к ним, а его по моему мнению определять нужно не так. Их нужно или арестовать, или, учитывая обстановку, принять, поговорить открыто, показать, что нам известны все их «ошибки», если это допустимо так называть, сказать, что они могут искупить свою вину перед Советской властью, призвать их к честной работе, посмотреть, как они будут реагировать и если в какой-либо мере пойдут на это, то использовать это в целях разложения группы, отрыва наиболее честного и ликвидации остатков нацдемовщины. При разговоре, конечно, не смягчать действительной оценки их роли, но делать это с соответствующим такому щепетильному разговору тактом.

Потом надо будет созвать совещание белорусских писателей, на котором выступить с совершенно ясными установками о дальнейшей работе Союза писателей, с критикой ошибок, постановкой задач и т.д. А там уже дальше, обстановка подскажет наиболее целесообразные шаги.

По двум вопросам:

а) о предлагаемых мероприятиях в отношении белорусского языка – грамматики и литературы;

б) об отношении к писателям Янке Купале и Якубу Коласу, – я прошу Вас дать мне совет»[122].

Дадаткова каменціраваць, якая пагроза навісла над Якубам Коласам і Янкам Купалам, было б лішнім. Варта толькі адзначыць, што нягледзячы на як мінімум пасквільны стыль дакумента, ён завяршаецца даволі дыпламатычна асцярожнай просьбай даць параду па двух галоўных пытаннях, у тым ліку аб адносінах да народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. У гэтым бачыцца, па-першае, няўпэўненасць самога П. Панамарэнкі ў змесце ліста (што можа сведчыць якраз пра аўтарства кагосьці іншага), а па-другое, такім чынам палітык адводзіў ад сябе віну за магчымае ў недалёкай будучыні злачынства і пакідаў поле для самаапраўдальнага манеўру (ён жа асабіста не настойваў на нейкім катэгарычным, тым больш непапраўным, рашэнні!). Мажліва, Панцеляймон Кандратавіч сапраўды не меў намераў, жаданняў прычыняць нешта кепскае Песняру. Журналісты газеты “Камсамольская праўда” Л. Сяліцкая і Д. Васілеўскі схіляюцца да таго, што менавіта П. Панамарэнка, будучы ўжо на пасадзе кіраўніка БССР, атрымаўшы ад М. Лынькова данос М. Ісакоўскага на Якуба Коласа з выкрываннем контррэвалюцыйнасці ў адным вершы народнага паэта Беларусі, прытрымаў ліст, не даў яму ходу[123]. П. Панамарэнка пасля адпраўкі шырока працытаванай запіскі І. Сталіну працягваў атрымліваць ад органаў НКУС кампрамат на беларускіх пісьменнікаў. 11 снежня 1938 г. аператыўны ўпаўнаважаны 4-га аддзела НКУС БССР М. Вольфтруб пісаў, што летам таго ж года яго аддзелам была часткова ліквідавана “национал-фашистская” арганізацыя ў Акадэміі навук БССР і Наркамаце асветы. “В то же время руководители этой нацдемовской организации по сей день находятся на свободе (Купала, Колас, Вольфсон, Дудков и ряд других). Для меня это совершенно непонятно”[124], – такія, бадай, адкрыта патрабавальныя інтанацыі гучалі ў дакуменце. Але пра рэакцыю на іх самога П. Панамарэнкі невядома. Думаецца, ён вычэкваў маскоўскага рашэння.

Пасля П. Панамарэнка любіў распавядаць, як дзякуючы менавіта яму абодва народныя паэты пазбеглі малоху сталінскай рэпрэсіўнай машыны, якая тым часам працавала на поўную магутнасць. Напэўна, кіраўнік рэспублікі спадзяваўся яшчэ і на тое, што змест гэтага дакумента не выйдзе за межы сакрэтных спецсховаў. Але калі і выйдзе (што ўрэшце здарылася), то заключная фармулёўка была свайго роду выйсцем: змест зместам – часы былі такія, але ж заключэнне не гучала як патрабаванне рэпрэсіўнага прысуду.

Сутнасць таго расказу зводзілася да таго, што яму, кіраўніку рэспублікі, на стол былі пакладзены сфабрыкаваныя НКУС БССР справы па анты-

122 Пономаренко П. О белорусском языке, литературе и писателях [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.clow.ru/a-history/64.htm. Дата доступу: 13.01.2012.
123 Селицкая Л., Василевский Д. Поэт Исаковский писал доносы на Якуба Коласа // Комсомольская правда [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://kp.by/daily/24501.3/653647. Дата доступу: 13.01.2012.
124 Іофе І. “Старый и хитрый враг советской власти”, альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 12. С. 75

савецкай дзейнасці народных паэтаў (што сапраўды адбывалася неаднаразова). Але нібыта добры П. Панамарэнка не даў веры прадстаўленай інфармацыі, а тэрмінова паехаў да І. Сталіна і пераканаў яго замяніць “ордэры на ордэны”.

Такі пасаж відавочна выбіваецца з агульнага кантэксту – і часавага, і кантэксту дзеянняў самога першага сакратара. Даказана, што ён мае непасрэднае дачыненне да масавых рэпрэсій на Беларусі і што ён гатоў быў ліквідаваць Якуба Коласа, таксама, як многіх і многіх іншых беларускіх дзеячаў літаратуры, мастацтва, навукі (толькі за першыя пару месяцаў беларускага перыяду яго біяграфіі лік арыштаваных у невялікай рэспубліцы перавысіў пяць тысяч чалавек)[125]. Таму самаапраўдальныя словы П. Панамарэнкі гучаць па меншай меры не адпаведна – і часу, і яго асабістым дзеянням.

Вышэйшае кіраўніцтва і ў прыватнасці І. Сталін, які ўмела практыкаваў змену бізуна на пернік, не дало санкцыі П. Панамарэнку на рэпрэсіўныя меры стасоўна буйных асоб Якуба Коласа і Янкі Купалы. Дзякуючы непераўзыдзенай значнасці іх жа можна было выкарыстаць у прапагандыскіх і ідэалагічных мэтах. Тым больш што адбывалася эскалацыя напружанасці ў свеце, і ў палітыцы савецкай дзяржавы назіраўся паварот да патрыятычных настрояў, якія асабліва неабходны былі для распалавіненай Беларусі, бо яе заходнюю частку, што знаходзілася пад Польшчай, планавалася рана ці позна далучыць.

Адсутнасць дазволу І. Сталіна, сацыяльна-палітычныя працэсы спрычыніліся да таго, што пазіцыя П. Панамарэнкі ў дачыненні да народных паэтаў таксама кардынальна змяняецца. І ўжо 26 снежня 1938 г., у сувязі з 20-годдзем БССР, у Крэмль накіроўваецца (за подпісам Панамарэнкі) хадайніцтва аб узнагароджанні 40 чалавек «за заслугі перад радзімай». У іх ліку Купала і Колас, дзейнасць якіх П. Панамарэнка ацэньвае надзвычай высока. Але тады хадайніцтва не задаволілі, ордэнаў паэтам не далі. Затое ўзнагародзілі трохі пазней – у гонар адкрыцця XVIII з’езда ВКП(б) на пачатку лютага 1939 г. [126]

Змяняецца пазіцыя новага кіраўніка БССР і стасоўна беларускай культуры ў цэлым, перадусім мовы. Калі ў вышэйцытаваным лісце ён па ўсіх аспектах вырожа паставіўся да беларускай мовы, якая нібыта раз’ядноўвае два брацкія ўсходнеславянскія народы, то ўжо праз год у лісце І. Сталіну пра становішча ў Заходняй Беларусі П. Панамарэнка піша зусім адваротнае: «Крестьяне говорят на настоящем белорусском языке, причем употребляют много слов, о которых нас здесь уверяли, что они нацдемовские, выдуманные. Нацдемы могли выдумать в литературе, а народу привить не могли, тем более западным белорусам»[127].

---

125 Платонаў Р. Улада і творцы // Беларусь, 1998, № 7. С. 36-38; Платонаў Р. Як Купала і Колас сталі “ворагамі народа” // Беларуская мінуўшчына, 1998, № 1. С. 18-23; Лепешаў І. Калі верыць міфам сталінскага стаўленіка Панамарэнкі, то месца для праўды не застанецца [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.nv-online.info/index.php?c=ar&i=12934. Дата доступу: 13.01.2012.

126 Лепешаў І. Калі верыць міфам сталінскага стаўленіка Панамарэнкі, то месца для праўды не застанецца [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://old.nv-online.info/index.php?c=ar&i=12934. Дата доступу: 13.01.2012.

127 Письмо секретаря ЦК КП(б)Б П. К. Пономаренко И. В. Сталину о положении в Западной Белоруссии // «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі…». Верасень 1939 г. – 1956 г.: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 1. Верасень 1939 г. – 1941 г. / склад.: У.

Як гэта разыходзілася з яшчэ нядаўнімі пасажамі: «Существующее белорусское правописание искажено в националистическом духе, оно преднамеренно построено так, чтобы отличалось от русского даже там, где в живом произношении нет разницы. <...> Слово «подъем», заменено каким-то диким словом «уздым». Образование – адукацыя. Краски – фарбы. Борец – змагар. Отечественный – ойчынны (от польского ойчизна). Правительство – урад??? Годовщина – гадавіна (Белорусы говорят так в смысле гад – гадюка). Баня – лазня. Беспредельный, безбрежный, безграничный – бязмежны (пример сознательного обеднения языка). Безопасность – бяспечнасть (отсюда органы государственной безопасности – органы государственной беспечности). Слово товарищ заменено словом сябр. Друг – тоже сябр. Дружба – сяброуства. Благожелатель – зычлівец... Женщина, ухаживающая за овцами – овчарка. Крупны – буйны (отсюда крупный деятель – буйны дзеяч)... В лозунге «Пролетарии всех стран, соединяйтесь», слово «соединяйтесь» заменено словом «злучайцеся», а в народе «злучайцеся – злучка», все равно, что и по-русски «случайтесь – случка». Лозунг «Да здравствует годовщина Октябрьской революции» на белорусском языке «Няхай жыве гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі» испохаблен от начала до конца. Белорусы говорят здравствуй, а «няхай» означает «пусть» в смысле пренебрежительного «так и быть». Гадавіна означает гада большого размера. Так и говорят «Ух, якая гадавіна». Кастрычник – октябрь. Но кастрыца – это не лен, а отбросы от льна[128]...»

Такое палітычнае дзейства разгарнулася на ніве беларушчыны… Ці здагадваўся, ці разумеў Якуб Колас, якая небяспечная для яго адбывалася гульня з прыходам новага кіраўніка Савецкай Беларусі, невядома. Магчыма, проста ўжо звыкся з такім хісткім становішчам, таму што, пачынаючы з 1925 г., меў шчыльны кантакт з органамі дзяржбяспекі, нярэдка выступаючы сведкам па справах іншых падазраваемых. Якуб Колас, аднак, сведкам быў кепскім: з яго важнай інфармацыі так і не выцягнулі[129]. А вось на яго нагаворвалі. І ён, "старый и хитрый враг Советской власти и Коммунистической партии" (з паказанняў на паэта 1937 г.)[130], бачачы, як імкліва радзеюць пісьменніцкія шэрагі, мог толькі спадзявацца, што дамоклаў меч бальшавіцкай улады на яго апусціцца пазней. Таму і доўгі час народны паэт спаў не распранаючыся, трымаючы клуначак самых неабходных рэчаў пад рукою. Мудры і аналітычна глыбокі Пясняр наўрад ці ідэалізаваў кіраўніцтва рэспублікі, уключна з П. Панамарэнкам.

Толькі дзякуючы родным (Л. Рублеўская называе Міхася Міцкевіча, малодшага Коласава сына[131]) да нас дайшла эпіграма Коласа, датаваная 1938 г.:

Калі на з'ездзе ці на сходзе
К табе фатограф не ідзе,

І. Адамушка [і інш.]. Мінск: Беларус. навука, 2009. С. 19.

128 Пономаренко П. О белорусском языке, литературе и писателях [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.clow.ru/a-history/64.htm. Дата доступу: 13.01.2012.

129 Скаруліс С. "Лістападаўская справа" і Якуб Колас // Полымя, 1992, № 11. С. 217-233.

130 Платонаў Р. Як Купала і Колас сталі "ворагамі народа" // Беларуская мінуўшчына, 1998, № 1. С. 23.

131 Рублевская Л. О цензуре, спиритизме и любви // Беларусь сегодня, 2010, 7 мая. С. 9.

Дык так і ведай: ты не ў модзе
І не патрэбен ты нідзе.
І думай, браце, аб бядзе. [Т. 2, с.282]

Але і П. Панамарэнка не быў бы паспяховым палітыкам, каб не прадпрымаў прэвентыўныя захады. Напярэдадні лёсавызначальнага для Якуба Коласа ліста кіраўнік рэспублікі стварыў у вачах паэта свой пазітыўны імідж, імкнучыся адвесці ад сябе эвентуальныя (пры трагічным для Песняра паваропе) падазрэнні. Пра іх першую сустрэчу знаходзім звесткі ва ўспамінах М. Міцкевіча.

"Азнаёміўшыся са становішчам з кадрамі ў Беларусі, Панамарэнка паклікаў Коласа на размову. На здзіўленне, новы сакратар стаў расказваць пісьменніку пра гістарычнае мінулае Беларусі, закрануў шэраг падрабязнасцей гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гаварыў з энтузіязмам. Бацька быў зачараваны новым сакратаром. Якія глыбокія веды! Але, калі прааналізаваць наступныя крокі Панамарэнкі, то можна прыйсці да высновы, што гэта была зандзіроўка, як адносіцца народны паэт да праблем самастойнасці Беларусі, яе будучыні і інш"[132].

Відаць, сустрэча пераканала П. Панамарэнку ў нядобранадзейнасці народнага паэта і кіраўнік вырашыў лагічна завяршыць шматгадовую "распрацоўку" адной з ключавых фігур уяўнага нацыянальна-дэмакратычнага руху на Беларусі. Аднак, па ўсім відаць, санкцыі не атрымаў. І надалей з Коласам, шанаванне якога працягвалася, кіраўнік БССР захаваў цёплыя ўзаемадачыненні, якія можна нават назваць сяброўскімі, і падобных "падкопаў" ужо не дапускаў (прынамсі іх не выяўлена). Вось толькі той ліст 1938 г. П. Панамарэнку да канца жыцця не даваў спакою. Таму ён і імкнуўся потым, пасля смерці І. Сталіна, распаўсюдзіць легенду пра выратаванне беларускіх класікаў, расказваючы яе розным пісьменнікам, асабліва беларусам. Найбольш вядомая інтэрпрэтацыя, якая і стала асновай для ўсталявання міфа, належыць М. Лынькову. Але не менш цікавы аповед знаходзіцца і ў І. Шамякіна, які, акром наратыўнасці, утрымлівае і пэўную ступень аналітычнасці. Іван Пятровіч, які адразу па вайне гучна заявіў пра сябе як мастак слова, улетку 1953 г. быў адарваны ад паездкі, проста выдзернуты з палескай глыбінкі ў Маскву П. Панамарэнкам, які тым часам працаваў ужо міністрам культуры. Будучы народны пісьменнік прызнаецца, які высокі аўтарытэт меў П. Панамарэнка ў беларускага народа і яго інтэлігенцыі:

«Помню, якое ўражанне зрабіў ён на першым пасляваенным пленуме Саюза пісьменнікаў у снежні 1945, куды мяне, аўтара "Помсты", запрасілі. Сустрэча з вядомымі пісьменнікамі заваражыла, узяло творчае натхненне: вунь куды ўчарашні камсорг дывізіёна скочыў! Дух займала. А тут яшчэ Панамарэнка. Генерал! Начальнік партызанскага штаба! Для нас, беларусаў, бадай жа, другая асоба пасля Сталіна. Ён цэлы дзень слухаў прамовы пісьменнікаў-франтавікоў. Узарваўся адзін раз, калі Міхась Клімковіч назваў оперны тэатр перавернутым унітазам. Чаму так узлаваўся Панамарэнка, для мяне засталося загадкай. Клімковіч сядзеў збялелы. Як вытрымала сэрца немаладога ўжо чалавека, якога па загаду Панамарэнкі вывезлі з нямецкага тыла ў Маскву. Ратавалі. Панцеляймон Кандратавіч нагадаў яму гэта з не вельмі затоенай пагрозай

132 Міцкевіч М.К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 70.

праверыць, чым ён займаўся ў акупацыі. На другі дзень першы сакратар выступіў перад пісьменнікамі з двухгадзіннай прамовай. І заваражыў ён не толькі мяне, галыша, але і патрыярха Якуба Коласа, самотнага Міхася Лынькова, бадзёрага Пятруся Броўку, на якіх я ледзьве не маліўся, як на багоў»[133].

Вось з такім піетэтам ехаў у Маскву тады І. Шамякін і шмат гадоў пазней не крывіў душою, каб яго прыхаваць. Фармальнай падставай для размовы стала прапанова маладому, але ўжо ўшанаванаму Сталінскай прэміяй пісьменніку напісаць сцэнар для мастацкага фільма. Аўтару пры гэтым ствараліся ўсе ўмовы. Адмовіцца было немагчыма. Ды раптам адбыўся рэзкі паварот у гаворцы:

«Усё? Хацеў падняцца. Не, не ўсё!

– Ну, як там жывуць Колас, Крапіва, Глебка?

– Канстанцін Міхайлавіч у бальніцы...

– Хто гэта?

– Колас.

– А, так. Я забыўся. Недаравальна. Я з ім меў самыя цесныя кантакты. Сяброўскія, можна сказаць, адносіны. Мудрэйшы чалавек!

– Я ведаю...

– А ведаеце, як я іх у трыццаць восьмым ратаваў... Купалу, Коласа і групу маладзейшых?

– Не, не ведаю.

– О, гэта тэма для рамана.

І пачаў расказваць. Каля двух гадзін расказваў. Я слухаў заварожана. Гісторыя з першых вуснаў! Дзе яшчэ пачуеш такое? Шкадую, што тады, на семінары тым, не запісаў яго падрабязны расказ, які разгортваў, маляваў карціну трагічных перадваенных гадоў. Але галоўнае помню і зараз.

<…>

Далей пра тое, што асабліва ўсхвалявала мяне, – пра маіх настаўнікаў. Ён, Панамарэнка, рашэннем бюро ЦК вызваліў з турмы скатаванага Кузьму Чорнага, іншых арыштаваных (не пісьменнікаў, таму прозвішчы іх выпалі з маёй памяці). Але неўзабаве яму на стол паклалі спіс "мацёрых нацдэмаў", якіх трэба неадкладна арыштаваць. У спісе тым – Купала, Колас, Крапіва, Броўка, Лынькоў, Глебка, Самуйлёнак...

"Глянуў я і за галаву схапіўся. З кім застануся? З кім працаваць?!" – яго, Панамарэнкі, словы. – "Трэба ратаваць! Але як? Ратаваць можа толькі Сталін. Ды як да яго дабрацца, калі за ім, Панамарэнкам, дзень і ноч сочаць чакісты? І пазваніць нельга – слухаюць. Разумеў, што рызыкую галавой. Але вырашыў ехаць у Маскву, дамагчыся прыёму ў Сталіна і сказаць: арышт такой групы ліквідуе нацыянальную літаратуру, навуку. З кім працаваць?"

Думаў, думаў Панцеляймон і прыдумаў, пазваніў наркому, што на другі дзень едзе ў Слуцк. А выехаў уначы з адным памочнікам. У Барысаў. Узялі білет у агульны вагон цягніка, які ішоў на Маскву. Так ашукалі агентаў Бермана. (Дэтэктыўны сюжэт! Я яго слухаў заварожана). У Маскве спыніліся на прыватнай кватэры. Тры дні дажыдаўся пры-

133 Шамякін І. Панцеляймонава кіно [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.kamunikat.org/download.php?item=4245-46.pdf. Дата доступу: 13.01.2012.

ёму ў Сталіна. Добра, што меў добрыя адносіны з Паскробышавым. Дамогся: прыняў Панцеляймона Сталін. І першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі сказаў правадыру: "Не будзе з кім працаваць, таварыш Сталін".

Сталін пахадзіў па кабінеце, папыхкаў люлькай і выклікаў загадчыка аддзела Жданава. Яму сказаў: "Таварищ Пономаренко справедливо говорит: давно мы не награждали наших писателей. Подготовте списочек. Из всех республик. Человек на сто".

"Так замест ордэраў завяліся ордэны. Я ратаваў Купалу, Коласа, іншых. Ды, скажу шчыра, і сабе памог: слежку за мной спынілі", – расказваў мне Панамарэнка.

Хіба мог я ўсумніцца ў праўдзівасці расповяда такога чалавека? Папярэджання, каб не разглашаў яго расказ, не было. І я, як толькі вярнуўся ў Мінск, перадаў пачутае Броўку, нават расказаў на нейкім пасяджэнні. Мне паверылі. Не мне – Панцеляймону Кандратавічу, аўтарытэт якога трымаўся высока і пасля яго ад'езда. Нават такі крытык сталіншчыны, як Андрэй Макаёнак, паверыў. На сустрэчах з чытачамі расказвалі: во які ён, наш Панамарэнка!»[134].

Як бачым, П. Панамарэнка лёгка ўжывіў у неабыякога псіхолага І. Шамякіна (і не толькі) ледзь не святую веру ў выратаванне беларускай літаратуры. Яна доўга заставалася непарушнай, трывалай. Яе не пахіснуў момант здзіўлення ад рэакцыі Якуба Коласа на пераказ сустрэчы з П. Панамарэнкам:

"Пры наведванні Якуба Коласа за партузносамі я расказаў і яму. Канстанцін Міхайлавіч здзівіў: без захаплення сказаў:

– Я, братачка, чуў гэта з яго вуснаў.

Здзівіла, што чуў і нікому не расказаў, нават лепшаму сябру свайму Пятру Глебку, якога любіў больш чым каго"[135].

Калі гэты аповед І. Шамякіна дакладны і скрупулёзны, то адсутнасць Коласава захаплення і нераспаўсюджанне гісторыі пра свайго выратавальніка наўрад ці можна вытлумачыць толькі традыцыйнай маўклівасцю паэта. Такім чынам, існуе верагоднасць, што апошні (прынамсі напрыканцы свайго жыцця) разумеў вартасць гэтых слоў колішняга кіраўніка БССР.

Самому І. Шамякіну спатрэбілася, як ён прызнаецца, яшчэ чвэрць стагоддзя, каб пахіснулася перакананне. Недзе ў канцы 1970-х (прычым П. Панамарэнка яшчэ быў жывы) «я прыгадаў подзвіг Панамарэнкі, пра які ўжо пачалі забываць. І мяне ашаламіў тэатразнаўца Георгі Колас... Упершыню я пачуў:

– Хлусня ўсё гэта! У партархіве, у спецфондзе, захоўваецца другі экземпляр пісьма Панамарэнкі Сталіну, у якім ён пісаў аб неабходнасці арышту нацдэмаў – Купалы, Коласа і ўсіх, каго ён "ратаваў", як вы кажыце.

Я ажно падскочыў, як падпечаны. Такая легенда рушыцца!

– Ты чытаў гэтае пісьмо?

– Мне не далі. Але архівісты пераказалі яго змест»[136].

Веры І. Шамякін не даў, але "з вожыкам у галаве" вырашыў праве-

134 Там жа.
135 Там жа.
136 Там жа.

рыць сам. Ды ў Партыйны архіў яго не дапусцілі: тагачасны дырэктар Р. Платонаў, параіўшыся з сакратаром ЦК па прапагандзе, не дазволіў (затое потым сам і апублікаваў тыя матэрыялы, каб развянчаць міф).

"Глыбока расчараваны, мацюкнуў я і Панамарэнку, і Платонава, і ўсіх палітыканаў. Я здаўся. Хэндэ хох! Праз сорак гадоў дапяў. Да лямпачкі было Панцеляймону тое кіно, тым больш мой раман; ён шукаў магчымасці, як адмыцца. Знайшоў: выклікаць маладога беларускага пісьменніка, аўтарытэтнага (лаўрэат!), расказаць яму, які добры ён быў, безумоўна ж, пісьменнік раскажа яго легенду калегам, старым і маладым, нехта запіша яе... Але не лепшы ён быў сцэнарыст, забыўся пра адну істотную дэталь – пра архіў, які папоўніў сваімі пісьмамі..."[137] – скончыў свой расказ І. Шамякін, ужо будучы народным пісьменнікам. Вось толькі цікава, ці П. Панамарэнка (памёр у 1984 г.) дазнаўся пра тое, што яго міф пачаў бурыцца, ці пайшоў з жыцця, думаючы, што застаецца непахісным аўтарытэтам для беларускага народа. У пакінутых па сабе ўспамінах[138], аднак, колішні кіраўнік БССР пра сябе як выратавальніка беларускай пісьменніцкай эліты ўжо чамусьці не згадвае, тым не менш расказваючы пра многія свае дзеянні (сёння сапраўды неаспрэчныя) на карысць Беларусі.

А ці верыў, ці не верыў у шчырасць палітыка сам Колас – праніклівы "інжынер чалавечых душ", усё ж сказаць цяжка. Але асцярожны, маўклівы недаверлівага выгляду не падаваў. А калі і не верыў, то ўсё адно яго шырокая чалавечнасць і даравальнасць пераважалі. Дый прыязныя стасункі з палітычным кіраўніцтвам мець лепей, чым халодныя ці тым больш варожыя. Да таго ж іх можна выкарыстоўваць: ці то па асабістай патрэбе, ці то – як найчасцей рабіў Якуб Колас – з карысцю для іншых, каму дапамога была асабліва неабходна.

Адной з такіх спраў Якуба Коласа сталі ягоныя турботы пра сваіх землякоў-мікалаўцаў, якім неўзабаве пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР моцна не пашчасціла. Аднаго дня там нечыя дзеці пяклі яечню. Не ўпільнавалі, як агонь перакінуўся на сялянскія гасподы, што стаялі адна пры адной. Дарослыя ж былі ў полі. За хвілін сорак полымем злізала больш за дзвесце хат. У сувязі з такім няшчасцем Якуб Колас звярнуўся ў Саўнарком і асабіста да П. Панамарэнкі з просьбай адбудаваць вёску з новаю планіроўкай, школай і бальніцай. Відаць, просьба была цяжкавыканальнай для ўлады, таму Колас не абмежаваўся дакладной запіскай, а, як вынікае з ліста С. Гарадзецкаму, удзяляў праблеме самую пільную ўвагу, ахвяруючы сваімі асабістымі і пісьменніцкімі справамі[139]. Свой родны кут пясняр заўсёды трымаў у полі зроку. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў погляды паэта ізноў звяртаюцца да праблем мікалаўцаў, якія мелі ўсё тыя ж праблемы са школай (намі не ўстаноўлена, ці пабудавалі па яго ранейшай просьбе школу да нападу Германіі). Ізноў

137 Там жа.

138 Пономаренко П.К. События моей жизни // Неман, 2010, № 3, С. 150-177; № 4. С. 132-158.

139 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 203; Міцкевіч М.К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 77; Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 312.

дзеля вырашэння гэтага пытання Колас ідзе да Панамарэнкі[140] .

Больш складана было дапамагаць тым, над кім навісла смяротная пагроза рэпрэсій. Мала таго, што такая дапамога далёка не заўсёды мела жаданы вынік (як са сваякамі, напрыклад, шваграм А. Каменскім ці акадэмікам І. Замоціным), дык і несла непасрэдную пагрозу жыццю Якуба Коласа. Ратаваў Якуб Колас і людзей, якія не ўваходзілі ў блізкае кола сяброў і родных ці калег па пяру. Адным з такіх быў І. Касяк – настаўнік з Павільні. У фондах музея знаходзяцца чатыры лісты паэта да І. Касяка. У адным з іх гаворыцца, што 7 верасня 1940 г. Якуб Колас займаўся справай знаёмага і рэкамендаваў яму "возбудить ходатайство перед органами НКВД". Паэт не толькі не баяўся агалоскі пра тое, што ён дапамагае патэнцыйным, а то і ўжо нібыта выяўленым "ворагам народа", але і сам складаў пратэкцыю ім і даваў згоду, каб яны спасылаліся ў хадайніцтвах на яго: "В своем заявлении можете сослаться на меня, как знающего Вас и могущего поддержать Ваше ходатайство…"[141] Колькі такіх выпадкаў, сёння, бадай, не ўстанавіць. Затое можна прывесці канкрэтныя прыклады.

Ці не першым стаў ліст да старшыні Саўнаркаму БССР Мікалая Галадзеда ў абарону арыштаванага Ф. Аляхновіча, падпісаны разам з Янкам Купалам ды іншымі ў 1928 г. У 1930 г. Якуб Колас заступаецца за сясцёр і маці самога Янкі Купалы, якіх раскулачылі і падрыхтавалі да высылкі[142] . Кожны падобны крок браўся на ўлік. «Все время поддерживал письменную связь с высланными в 1930 году нацфашистами и отдельным из них оказывал материальную помощь», – гэтак спамінаў у кампрамаце на Якуба Коласа нейкі малодшы лейтэнант дзяржбяспекі Завадскі ў жніўні 1937 г.[143] . А канец 1930-х падобных перажыванняў за рэпрэсаваных людзей падкінуў нашмат болей. І тут ужо просьбы (напісаныя, дарэчы, у адрозненне ад беларускамоўнага вышэйзгаданага заступніцтва за Ф. Аляхновіча пісаліся па-руску) накіроўваліся сакратару ЦК КПБ П. Панамарэнку.

Ізноў разам з сябруком Янкам (а таксама са Змітраком Бядулем) пішацца прашэнне ў абарону арыштаванага Аляксандра Уласава (канец 1939 г.)[144]. І хоць П. Панамарэнка узяў справу пад асабісты кантроль, як сведчыць нядаўназнойдзеная ў архіве запіска[145], тут станоўчага выніку пісьменнікі не дабіліся. А вось перад гэтым Кузьма Чорны быў выпушчаны, і пасадзейнічала вызваленню ў тым ліку заступніцтва за яго Якуба Коласа, з якім П. Панамарэнка ўжо нават раіўся. Паэт запэўніў у высокай

140 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 385.
141 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-7886.
142 Някляеў У. Праз лес, праз лёс. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 4. С. 224-225.
143 Паводле: Іофе І. "Старый и хитрый враг советской власти", альбо Як палявалі на Якуба Коласа // Роднае слова, 2007, № 12. С. 75
144 Скобла М. "Купала і Колас глядзелі ў корань" [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/article/757696.html. Дата доступу: 13.01.2012. Дакумент гл.: Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 9. Кн. 1. Пераклады; Эпісталярная спадчына; Дарчыя надпісы; "Расейска-беларускі слоўнік"; Калектыўнае; Службовыя і асабістыя дакументы; Дадатак. Мінск: Маст. літ., 2003. С. 488.
145 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 319.

якасці творчасці Кузьмы Чорнага і яго палітычнай добранадзейнасці[146] (на жаль, здароўе апошняга было падарвана катаваннямі і жыць яму заставалася нядоўга).

Славуты дзеяч музычнага мастацтва Р. Шырма пасля далучэння Заходняй Беларусі інтэнсіфікуе сваю дзейнасць на ніве беларушчыны і стварае прафесійны калектыў – Беларускі ансамбль песні і танцу (з 1955 г. – Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР). "Аднак ужо ў 1941 годзе выбітны дзеяч апынаецца за мурамі Лубянкі. Свайму вызваленню ён мусіў быць удзячны Якубу Коласу, які асабіста хадайнічаў перад галоўным камуністам рэспублікі Панцеляймонам Панамарэнкам"[147]. У далейшым паэт таксама сачыў за лёсам гэтага ансамбля, хадайнічаў за яго перад рэспубліканскім кіраўніцтвам: "Ансамблю трэба аказаць маральную, матэрыяльную і іншую дапамогу. <...> Пагутарыце з Панцеляймонам Кандратавічам. На мой погляд, ансамбль заслугоўвае таго, каб яму давесці болей увагі і клопату"[148], – піша Колас у лісце да Ц. Гарбунова (17 чэрвеня 1942 г.).

Не пабаяўся Колас скласці пратэкцыю і апальнаму геолагу Г. Гарэцкаму, пра перавод якога на Беларусь народны паэт гутарыў з П. Панамарэнкам летам 1944 г. , выказваючы ўпэўненасць, "цвёрдую перакананасць" у непасрэдным лісце вучонаму ад 11 ліпеня 1944 г.[149], "што мы з Вамі будзем працаваць у Беларусі"[150].

За час вайны ўвогуле стасункі прыжыццёвага класіка і кіраўніка БССР развіліся ў такія блізкія, што можна было б назваць сяброўскімі. П. Панамарэнку трэба аддаць належнае ў яго празорлівасці: ён ведаў напэўна, што палітык яго рангу гісторыяй ставіцца на паліцы, ніжэйшыя за "пачэсны пасад" літаратурных класікаў. І хаця на паверхні не так шмат інфармацыі, якая раскрывае сутнасць узаемадачыненняў гэтых гістарычных асобаў, тым не менш можна гаварыць пра шырокі дыяпазон іх кантактаў, якія падтрымліваліся ўсюды, куды б іх ні закідвала доля.

Пра гэта сведчыць тое, што знаходзячыся ўжо ў Ташкенце, Якуб Колас выкарыстоўвае, як здаецца, любы выпадак, каб перадаць прывітанне кіраўніку сваёй рэспублікі. 27 кастрычніка 1941 г. народны паэт піша да сакратара ЦК КП(б)Б Р. Эйдзінава: "Горячий, душевный привет тов. Пантелеймону Кондратьевичу. С какой радостью встретился бы я со всеми вами! И как мне хочется, чтобы эта встреча состоялась как можно скорее на нашей родной земле! В Белоруссии!"[151]. У лісце П. Броўку ад 3 снежня 1941 г. выражае палкае жаданне сустрэцца з Панцеляймонам Кандратавічам: "Як многа найшлося б аб чым пагаманіць! Калі

---

146 Міцкевіч М.К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 74.

147 Успаміны пра Рыгора Шырму [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.belarus.kz/aktueller/aktueller_articles/4/189. Дата доступу: 13.01.2012.

148 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 287-288.

149 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 376; Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 414.

150 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 412.

151 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад.: В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан ; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 89.

давядзецца пабачыцца з ім, перадайце яму ад мяне мой гарачы прывет, сардэчны, прыязны, як нашы беларускія ўзлескі”[152] . Аналагічнае жаданне выказваецца і ў лістах членам урада БССР І. Крупеню (29 ліпеня 1942 г.), а таксама – больш фармальнае – трохі пазней, 23 верасня 1942 г.[153] , і Ц. Гарбунову (20 і 22 снежня 1942 г., 8 жніўня 1943 г.)[154] . Праз першага з названых палітыкаў у лісце за 9 жніўня 1942 г. Якуб Колас перадае таварышу Панамарэнку просьбу арганізаваць прыезд у Ташкент і адпачынак М. Лынькову (прычым падкрэсліваў, што робіць гэта асабіста, без ведама свайго прыяцеля-калегі)[155] , праз якога ў сваю чаргу таксама перадаваў, калі “будзе зручны выпадак”, “сяброўскае прывітанне тав. П[анцеляймону] К[андратавічу]”[156]. Колькасць і частата прывітанняў з мінімальнай нагоды гавораць пра сапраўды цесныя кантакты палітыка і літаратурнага класіка.

Нярэдка на сувязь неабходна было выходзіць з-за нейкай пільнай справы. У такіх выпадках прыбягалі да дапамогі тэлеграфа. Знаходзіцца шмат згадак пра тэлеграмы. Некаторыя тэлеграмы захваліся. Але не заўсёды можна ўстанавіць, якія менавіта пытанні вырашаліся. Як, напрыклад, у наступным выпадку. Неяк Якуб Колас ехаў у Маскву і, як вынікае з ліста да жонкі (7-8 лютага 1942 г.), трывожыўся, ці знойдзе каго з кіраўніцтва. Таму меркаваў з Пензы даць тэлеграму П. Панамарэнку, што, аднак, не змог зрабіць з прычын, ад яго не залежных[157] .

29 верасня 1942 г. Якуб Колас даў П. Панамарэнку тэрміновую телеграму, што выступленне для мітынга выслаў тэлеграфам ТАСС[158] . Тут маецца на ўвазе Другі мітынг прадстаўнікоў беларускага народа, што адбыўся 27 верасня, на які народны паэт атрымаў запрашэнне ад П. Панамарэнкі 17 ці 18 верасня 1942 г.[159] Але цяжка захварэла жонка народнага паэта Марыя Дзмітрыеўна, таму мітынг адбыўся без яго удзелу[160] . Па ўсёй верагоднасці, тэкст прамовы, з якой Якуб Колас збіраўся выступіць на мітынгу і які быў перакладзены ім для гэтага на рускую мову, быў дасланы паэтам для зачытвання на мерапрыемстве (М. Мушынскі паведамляе, што гэта было зроблена 25 верасня на імя І. Крупені[161] ), аднак недзе па дарозе згубіўся і ў выніку спазніўся, таму не прагучаў на форуме. Паколькі П. Панамарэнка яшчэ раз рабіў запыт непасрэдна ў паэта і пасля адказу тэрміновай тэлеграмай ад 29 верасня ці не адразу, праз два дні – 1 кастрычніка – наклаў рэзалюцыю адшукаць прамову Якуба Коласа[162],

152 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 250.
153 Там жа. С. 299, 321.
154 Там жа. С. 340, 341, 380.
155 Там жа. С. 302.
156 Там жа. С. 393.
157 Там жа. С. 262-263.
158 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 94.
159 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 343.
160 Там жа. С. 343.
161 Там жа. С. 343.
162 Купала і Колас, вы нас гадавалі : дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 94.

можна казаць пра яе значнасць для таго моманту. У выніку прамова народнага паэта мела прагучаць на радыё, а таксама была апублікавана ў газеце “Савецкая Беларусь” ад 17 кастрычніка[163] .

Некалькі тэлеграм захавалася ад П. Панамарэнкі Якубу Коласу. Бадай, усе яны датычацца афіцыйнай дзейнасці. Напрыклад, згаданае толькі што запрашэнне на Другі мітынг прадстаўнікоў беларускага народа. Дзве тэлеграмы захаваліся без указання часу іх перасылкі. У адной з іх – амаль загадная фармулёўка “прибыть [Якубу Коласу] по важным делам в Москву”[164] . У другой – просьба прыехаць у Маскву, дзе збіраюцца прадстаўнікі Беларусі «для большого дела», прычым, як сказана, прыехаць патрэбна было назусім[165] . Раней намі меркавалася, што гэта быў першы званок заканчэння ташкенцкага перыяду ў жыцці сям’і паэта[166] . Аднак нядаўна ўпершыню апублікаваны ліст Якуба Коласа да Янкі Маўра ад 15 студзеня 1942 г. схіляе прывязаць тыя тэлеграмы да самага пачатку 1942 г., таму што змест тэлеграмаў блізкі да Коласавага пераказу: “...Надо собираться на большое дело: меня вызывают в Москву. Получил телеграмму, даже две одного и того же содержания: прошу Вас приезжать в Москву... Смысл такой – в Москве собираются белорусы для большой работы. В телеграмме сказано переезжать насовсем. Телеграмму посылает тов. Пономаренко. 18 января еду” [Т. 18, с.347-348]. Намёк на вяртанне з Сярэдняй Азіі для таго часу верагодны: пасля перамогі Чырвонай Арміі пад Масквой у канцы 1941 г. і пераходу ў контрнаступленне савецкае кіраўніцтва ўсур’ёз разлічвала на беспаваротнасць сваіх ваенных поспехаў, што, аднак, аказалася перабольшваннем сілаў. У выніку Якубу Коласу, які правёў два месяцы ў даволі актыўнай літаратурнай і грамадскай дзейнасці то ў Маскве, то ў Казані, давялося вяртацца ў Ташкент.

Часам абодва карэспандэнты карысталіся паслугамі пасярэднікаў не толькі для абмену прывітаннямі, але і ў сувязі са справамі. Так, паводле ліста Якуба Коласа Ц. Гарбунову (24 красавіка 1942 г.), П. Панамарэнка перадаваў беларускім песнярам пажаданне скласці партызанскую песню (“надо попросить наших поэтов, в том числе уважаемого Янку Купалу и Якуба Коласа, сочинить боевую песню белорусских партизан”[167] ), што і было зроблена адразу (22 красавіка) самім Якубам Коласам (верш “Песня партызан”)[168] .

Было і ліставанне. Але яно не заняло шмат месца ў Коласавай эпісталярнай спадчыне. Да таго ж, думаецца, пэўная частка яе згублена. Мусіць, не захавалася лістоў, пра якія паэт згадвае, пішучы М. Лынькову (29 жніўня 1942 г.): “Перадай паклон усім сябрам. Я пісаў Гарбунову, Крупені і Пан[целяймону] Кандр[атавічу]. Ад іх яшчэ вестак не меў – адказу на свае пісьмы”[169] . Маг-

163 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 343.

164 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-14146.

165 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-14148.

166 Трафімчык А. “На ростанях лёсу паэта і палітыка…” Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка // Дзеяслоў, 2011, № 5. С. 257.

167 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад.: В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 129.

168 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 281-282.

169 Там жа. С. 313.

чыма, іх так і не было. Аднак з гэтага, здавалася б, дастаткова шэраговага і беззмястоўнага ўрыўка відаць, што вядучыя палітыкі фігуруюць у кантэксце сяброў, а не толькі таварышаў і знаёмых.

"У цяжкі час вайны суровай" П. Панамарэнка стараўся не выпускаць з-пад увагі беларускіх навукоўцаў і пісьменнікаў. Пра Якуба Коласа ён клапаціўся персанальна. Сведчаннем гэтага – заўвагі сваім падначаленым, дзе знаходзім указанне аднесціся да народных паэтаў "особенно участливо"[170] .

Калі фронт пачаў беспаваротна адгортвацца на захад, Якуб Колас перабіраецца ў Маскву. Спачатку ён прыязджае адзін. Сустракаецца з П. Панамарэнкам (16 лютага 1943 г.), які распавёў партызанскія гісторыі, пра перавод пад Маскву Акадэміі навук, паабяцаў дапамогу сям'і пры пераездзе без удзелу галавы, хоць сам паэт імкнуўся быць побач з жонкай і сынамі[171] . І на часткова вызваленую Беларусь (пад Гомель) упершыню Якуб Колас, як піша ў лісце да Э. Агняцвет (12 красавіка 1944 г.), ехаў у адным, спецыяльным вагоне з кіраўніком рэспублікі[172] , які трохі пазней "некалькі разоў настойліва прапаноўваў Коласу пасаду намесніка Старшыні Саўнаркома Беларусі", ад чаго апошні "ледзь-ледзь адпрасіўся"[173] . У гэты час найбольш зніто ўваецца сяброўства паэта і палітыка: да паездкі на Беларусь Якуб Колас нават доўгі час жыў у П. Панамарэнкі[174] .

Якуб Колас шчыра радаваўся, што ад нямецкіх акупантаў кожны дзень вызваляюцца ўсё новыя і новыя землі. Найбольш, канешне, ён думаў пра родную Беларусь. Аднак яго радасць азмрочвалася хваробамі жонкі, Марыі Дзмітрыеўны, якой яшчэ ў ташкенцкай эвакуацыі станавілася ўсё горай ды горай. Клапоцячыся пра яе здароўе, Канстанцін Міхайлавіч прыкладаў усе намаганні, выкарыстоўваў асабістыя сувязі. І канешне, П. Панамарэнка тут мог яму рэальна пасадзейнічаць.

"Сягоння быў у т. П[анамарэнкі]. Наўперад зайшоў да яго памочніка. Ён абяцаў мне пазваніць у Маскву, у постпрэдства, каб там паклапаціліся – калі на тое будзе патрэба – устроіць цябе ў лепшай бальніцы", – піша Якуб Колас жонцы 6 снежня 1944 г.[175] , якой усё ж не стала 21 мая 1945 г.

Такім чынам, Якуб Колас пачынаў свой пасляваенны перыяд без сваёй вернай спадарожніцы па жыцці. Яшчэ да яе адыходу ў свет лепшы, паэт, які заўжды любіў фізічную працу, пачаў займацца рамонтам хаты, у якую ён і марыў прывесці Марыю Дзмітрыеўну. Пра дом, знойдзены старэйшым сынам Данілам за плячыма Акадэміі навук, Якуб Колас расказваў жонцы ў лістах. З аднаго пісьма (ад 6 снежня 1944 г.)

---

170 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад.: В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 123.

171 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 351.

172 Там жа. С. 410.

173 Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 229.

174 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 369.

175 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 418.

вынікае, што клопаты Якуба Коласа, бытавыя ў тым ліку, не выпускаў з-пад увагі П. Панамарэнка, які выдзяліў у дапамогу малалітражку і загадаў правесці святло[176] . Ці не грызла яго сумленне за свой пачатак кіраўніцтва на Беларусі, калі ён мог спляжыць Песняра? Праўда, і не сказаць, каб тая дапамога была велічэзнай, бо, паводле ліста жонцы ад 30 красавіка 1945 г., Колас ўсё яшчэ займаўся рамонтам[177] .

Пасля смерці Марыі Дзмітрыеўны паэта адольвала скруха і адзінота. Кіраўнік рэспублікі выяўляў суперажыванне паэту, падтрымліваў яго ў тую трагічную гадзіну. Як успамінае Коласаў малодшы сын, "праз дзень пасля пахавання маці нас з бацькам запрасіў да сябе ў Драздзы П. Панамарэнка"[178] . Увогуле апошні пасля вайны, як расказаў М. Міцкевіч, нярэдка клікаў да сябе народнага паэта, іх зносіны пачасціліся. Гэта сведчыць пра тое, што палітык стаў адным з самых блізкіх людзей для літаратурнага класіка. Непасрэдна з падачы кіраўніка рэспублікі быў выдзелены народнаму паэту і першы пасляваенны аўтамабіль – трафейны "Опель-Адам", а потым – "Опель-Адмірал", два радыёпрыёмнікі – для заўзятага слухача Коласа і яго малодшага сына[179] . Прычым трафейны радыёпрыёмнік дазваляў лавіць хвалі замежных радыё, што для савецкіх, тым больш сталінскіх часоў было з'явай ледзь не паранармальнай. Ад сябе асабіста палітык падарыў паэту кішэнны гадзіннік[180] .

Якуб Колас цаніў вельмі высока асабісты клопат кіраўніка рэспублікі пра сябе і, канешне, не мог у сваю чаргу не аддзячыць. Аднак не матэрыяльнымі прэзентамі. 11 лістапада 1945 г. пішацца верш "Лясам Беларусі", надрукаваны ўжо праз месяц з прысвячэннем П. Панамарэнку. У творы пераплятаюцца матывы любові да роднай зямлі з яе ляснымі багаццямі і паслаяваеннага аднаўлення жыцця [Т. 3, с.170-172]. А прысвячэннем дакладна абазначаецца той, хто ачольвае гэту мірную адбудову. Гэтым самым паэт акрэслівае значэнне асобы палітыка, яго ролю ў дзяржаўным будаўніцтве Беларусі. Што праўда, нельга выключыць і момант кан'юнктурнасці твора. У сталінскія часы пісьменнікам занадта часта даводзілася, кажучы штампам, аддаваць даніну палітычнаму рэжыму.

Яшчэ праз года паўтара Якуб Колас у якасці дэпутата Вярхоўнага Савета БССР выступіў з прамовай у падтрымку складзенага П. Панамарэнкам спісу членаў ураду. Прычым палітычны лідар рэспублікі вельмі хваліўся паэтам за заслугі перад беларускім народам[181] .

Калі ж кіраўнік БССР наведаў сядзібу Якуба Коласа (летам 1946 г.), які тым часам якраз быў ад'ездзе, то "маленькая хатка здалася яму (П. Панамарэнку. – А. Т.) няўтульнай і непрыгоднаю для жыцця і працы народнага паэта. Ён прапанаваў пабудаваць вялікі, прасторны катэдж. Колас падзякаваў яму за клопат, але адмовіўся ад прапановы. Каля двух

176 Там жа. С. 418.
177 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 385.
178 Міцкевіч М.К. Пад бацькоўскім дахам. Мінск: Беларуская навука, 2009. С. 102.
179 Там жа. С. 74.
180 Там жа. С. 74.
181 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 69.

мільёнаў жыхароў рэспублікі жылі тады ў зямлянках, і народны паэт лічыў немагчымым для сябе жыць у раскошы", – успамінаў старэйшы сын Даніла Канстанцінавіч[182] .

Затое за іншых паэт не пераставаў прасіць. Справай гонару для яго як віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР стала ўвекавечанне памяці пра Янку Купалу – не проста калегу па пяру, а сябра. Ведаючы пра клапатлівыя (ці не без прычыны зацікаўленыя) адносіны падчас вайны П. Панамарэнкі да беларускіх творцаў, Якуб Колас, накіраваўшы 1 жніўня 1947 г. адпаведную дакладную запіску, звяртаецца наўпрост да яго з просьбай пашырыць штат музея Янкі Купалы на тры адзінкі, бо наяўны склад не мог справіцца з узрастаючым аб'ёмам працы. Кіраўнік рэспублікі паставіўся да просьбы канструктыўна[183] .

Народны паэт, будучы ў кантакце з першымі людзьмі краіны, часам станавіўся пасярэднікам паміж уладай і паспалітым людам. Так, менавіта праз яго перадаваў інфармацыю нават па дзяржаўным аднаўленні Нічыпар Янкоўскі – даўні, яшчэ з часоў вядомага настаўніцкага з'езда, таварыш Якуба Коласа, прататып Нічыпара Янкаўца з трылогіі "На ростанях". Пра гэта сведчыць пісьмо Нічыпару Аляксеевічу ад 10 лістапада 1945 г., які да гэтага часу прайшоў праз амерыканскую эміграцыю і, стаўшы выдатным інжынерам, прыехаў у Савецкі Саюз будаваць камунізм, пасяліўшыся ў Маскве[184] : "Твае заўвагі і меркаванні па новаму будаўніцтву нашай краіны я перадаў т. П[анамарэнку]. Іх прачыталі з вялікай цікавасцю і перадалі асобе, якая ўзначальвае будаўніцтва для выкарыстання тваіх дарад і меркаванняў"[185] .

Бывала, паэт нават арганізоўваў сустрэчы кіраўніка рэспублікі з людзьмі, якія самі ніколі б не дайшлі са сваімі вартымі ўвагі меркаваннямі да вышэйшых эшалонаў улады. Пра адзін такі выпадак даведваемся са стэнаграмы выступлення П. Панамарэнкі на VIII пленуме ЦК КП(б)Б ад 12 снежня 1945 г., калі палітык меў размову па некаторых пытаннях асветна-прапагандысцкай работы са сталым настаўнікам-"заходнікам", які меў 40 гадоў педагагічнай практыкі[186] . Прычым са свайго боку заўважым, Якуб Колас не хаваў свайго знаёмства з чалавекам, які з гледзішча савецкай улады цалкам мог патрапіць у катэгорыю СОЭ (социально опасных элементов), для чаго было дастаткова быць "заходнікам", а тым больш інтэлігентам старой (польскай, а ў дадзеным выпадку яшчэ і царскай загартоўкі).

Нягледзячы на сваю занятасць, П. Панамарэнка ўдзяляў увагу і творчасці свайго сябра-пісьменніка. Асабліва любіў паэму "Сымон-музыка". Як расказаў М. Аўрамчыку Даніла Канстанцінавіч, нейк П. Панамарэнка ў высокім застоллі пачаў даказваць апошняму, «што гэтая паэма – найвялікшы рамантычны эпас, гэтакі ж, як "Песня пра Гаявата"

182 Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 127-128.

183 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 1 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. С. 221.

184 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, НД-1468.

185 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-16238.

186 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 64.

Лангфела»[187].

Новапрызначаны ў 1938 г. кіраўнік БССР асвоіў беларускую літаратуру даволі інтэнсіўна. У стэнаграме пасяджэнняў пленума Нацыянальнай камісіі Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР ад 10-11 студзеня 1939 г. ад імя розных людзей гаворыцца:

“Из разговоров с Пономаренко выяснилось, что это – русский работник, никогда не бывавший в Белоруссии. Но он очень много почитал из белорусской литературы, порасспросил белорусских писателей и сейчас уже знаком с белорусской литературой.

<...> При мне Пономаренко стал приглашать к себе основной актив белорусских писателей и проводить с ними товарищеские беседы обо всех делах.

<...>

Я застал Коласа больным, у него был грипп. После приглашения Пономаренко Колас стал себя чувствовать прекрасно. Полтора года лн не занимался литературой, а в это время проходили острые процессы”[188] .



**У першым радзе злева направа: П. Панамарэнка, Якуб Колас, М. Лынькоў (другая палова 1940–х гг.).**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

187 Аўрамчык М. Знаёмыя постаці: Нарысы: Для ст. шк. узросту / Маст. Т.Д. Царова. Мінск: Маст. літ., 2004. С. 42.

188 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 316.

Тое, што палітык высокага рангу не быў далёкі ад літаратуры, відаць з яго асабістай бібліятэкі, якая была перададзена яго ўдавой Верай Георгіещнай Цэнтральную навуковую бібліятэку імя Якуба Коласа ў 1985 г. Менавіта кнігазбор кіраўніка БССР займае адно з першых месцаў па колькасці дарчых надпісаў на кнігах – 426, што, канешне, сведчыць не толькі пра грунтоўную ўладу, якую і належыць мець першай асобе рэспублікі, але і пра яго цвёрды аўтарытэт у пісьменніцкім асяродку. Выданні ў асноўным пасляваенныя. Але вось сярод даваенных знаходзіцца і кніга Якуба Коласа – паэма "Новая зямля" (1934 г.). Пасляваенных, да таго ж з подпісамі, чатыры.

С. Прыхач, даследаваўшы бібліятэку П. Панамарэнкі, піша, што "аўтографы народнага паэта Беларусі Якуба Коласа надаюць асаблівую каштоўнасць яго выданням": "Глыбокапаважанаму і дарагому Панцеляймону Кандрацьевічу Панамарэнка на памяць ад Якуба Коласа. 5.XI.1946 г." ("Паэмы", 1946); "Дорогому Пантелеймону Кандратьевичу Пономаренко. Час праходзіць, сляды-ж творчай працы на карысць народу застаюцца, а людзі, пакінуўшыя гэтыя сляды, не забываюцца. Якуб Колас. 21.IX.1951 г." ("Собрание сочинений в четырех томах. Т. 1", 1951 г.); "Глубокоуважемому, дорогому П.К. Пономоренко на память о Белоруссии, о белорусских лесах. Якуб Колас. 27.XI.1952 г." ("Збор твораў у сямі тамах. Т. 7", 1952 г.); "Глыбокапаважанаму П.К. Панамарэнка, шчыраму другу беларускага народа на памяць ад Якуба Коласа. 22.I.1947 г." ("Избранное", 1946)[189] . Дадамо, што па колькасці Коласавых аўтографаў, выяўленых даследчыцай дэдыкацый К. Казырай, П. Панамарэнка далёка апераджаў усіх іншых палітыкаў, а таксама многіх пісьменнікаў, заслужыўшы 9 разоў пацверджанай подпісамі Песняра ўвагі (меней, чым П. Глебка (10) і С. Гарадзецкі (12), але больш, чым, напрыклад, М. Лужанін, М. Гарэцкі, П. Тычына і многія іншыя)[190] .

Шыкоўная бібліятэка са шматлікімі аўтографамі – гэта не проста фармальны паказчык удзелу П. Панамарэнкі ў справах літаратуры і мастацтва. Яго дзейнасць у гэтай сферы мела зусім не павярхоўны характар, і Якуб Колас вельмі часта быў дарадчыкам і памагатым. Так, у красавіку 1946 г. паэт наведвае П. Панамарэнку з рэляцыяй пра нездавальняючы стан выдання мастацкай літаратуры і прапановай у сувязі з гэтым разгрузіць друкарні г. Мінска, перадаўшы другарадныя заказы ў абласныя гарады, каб не затрымліваць выпуск мастацкай літаратуры (з ліста да С. Гарадзецкага ад 9 мая)[191] . Праз год, 21 мая, Старшыня Савета Міністраў БССР з нейкай прычыны раіцца з народным паэтам наконт работы беларускага мастацтвазнаўцы А. А. Уса. Як запіша Якуб Колас у дзённіку, "у ацэнцы яе сышліся"[192] Актыўны ўдзел прыняў П. Панамарэнка на рэспубліканскім сход-

189 Прыхач С. Панамарэнка ў атачэнні сучаснікаў // Літаратура і мастацтва, 2010, 11 чэрв. С. 14.
190 Казыра К. Новыя дарчыя надпісы Якуба Коласа // Каласавіны. Якуб Колас і яго акружэнне : матэрыялы навук. канф., прысвеч. 50-й гадавіне смерці нар. паэта Беларусі Якуба Коласа, 3 лістап. 2005 г., Мінск / склад. З.М. Камароўская, Г.І. Зайцава. Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2007. С.102.
191 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 399.
192 Там жа. С. 416.

зе пісьменнікаў, прысвечаным абмеркаванню твораў беларускай літаратуры за 1947 г. і задачам пісьменнікаў у падрыхтоўцы да 30-годдзя БССР, выступіўшы з прамовай[193] . Прыхільна ставіцца П. Панамарэнка і да Коласавай навуковай дзейнасці, у прыватнасці да селекцыі кадраў, што ажыццяўлялася таксама і віцэ-прэзідэнтам АН БССР К. Міцкевічам, якога да таго ж ставіў у прыклад кандыдатаў на званне акадэміка[194] . Акрамя вышэйзгаданага хадайніцтва перад кіраўніком рэспублікі адносна выбітнай фігуры Г. Гарэцкага, з лістоў Якуба Коласа можна прывесці прыклад пра прафесара-лінгвіста П. Растаргуева, кандыдатурай якога быў П. Панамарэнка задаволены (ліст П. А. Растаргуеву ад 10 студзеня 1946 г.)[195] . Дарэчы, як паведамляе Р. Гарэцкі, калі пасля Другой сусветнай вайны вырашалася пытанне пра мяжу паміж Польшчай і Беларуссю, а ў прыватнасці пра прыналежнасць Беласточчыны, Г. Гарэцкі менавіта праз Якуба Коласа перадаў сваю грунтоўную манаграфію «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» П. Панамарэнку, які ўзяў яе з сабой на размову з І. Сталіным, прыводзіў адтуль розныя доказы на карысць Беларусі[196] .

Нават у абмеркаванні арганізацыйных пытанняў па "ўдасканальванні беларускага правапісу" П. Панамарэнка прымаў актыўны ўдзел, які без нацяжкі трэба прызнаць канструктыўным. Як сведчаць інтанацыі дакуметаў, палітык прызнаваў безумоўны аўтарытэт філолагаў, перадусім Якуба Коласа, і выказваў прапановы толькі спрыяльнага характару[197] .

Заўжды ўважлівы і клапатлівы Якуб Колас, нягледзячы на тое, што яго самога пачалі адольваць цяжкія хваробы, не змяншаў увагі да праблем іншых людзей, дый статус дэпутата Вярхоўных Саветаў БССР і СССР абавязваў. Захаваўся аўтограф дакладной на імя Старшыні Савета Міністраў БССР П. Панамарэнкі з просьбай дапамагчы Мікашэвіцкаму дзіцячаму дому (ад 22 сакавіка 1948 г.), у якой пісьменнік пералічвае, што канкрэтна неабходна зрабіць[198] . Гэта ўказвае на тое, што Якуб Колас скрупулёзна разабраўся, вывучыў становішча дзяцей і ўзяў сітуацыю пад асабісты кантроль, вырашаючы яе на самым высокім узроўні.

Адзіны на той час народны пісьменнік не мог не выкарыстоўваць свой аўтарытэт і ў справах літаратурнага гаспадарства. І тут ён звяртаўся напрасткі да кіраўніка БССР. Так, летам 1948 г. Якуб Колас накіроўвае дзелавы ліст П. Панамарэнку з "большой просьбой" аднавіць Дом пісьменніка (беларускія літаратары былі адзіным калектывам у СССР,

193 Там жа. С. 434.
194 Пономаренко П.К. События моей жизни // Неман, 2010, № 4. С. 138.
195 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 452-453.
196 Гарэцкі Р. Гаўрыла Гарэцкі – прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі 20-х гадоў [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.homoliber.org/ru/xx/xx010105.html. Дата доступу: 13.01.2012.
197 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 79-80.
198 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 525-526.

які не меў свайго будынка)[199].

Не пакідаў паэт і сяброў. Прычым, як відаць з ліста свайму прыяцелю і перакладчыку Я. Мазалькову (1.IV.1949 г.), Якуб Колас звяртаўся да П. Панамарэнкі і тады, калі апошні пакінуў пост кіраўніка Беларусі, пайшоўшы ў Маскву на павышэнне. У дадзеным выпадку паэт дапамагаў вырашыць жыллёвае пытанне Я. Мазалькова[200] .

А ўвогуле тагачассе характарызавалася беднасцю, дэфіцытам тавараў самай першай неабходнасці, таму, як расказаў М. Міцкевіч, даводзілася звяртацца да вышэйшага кіраўніцтва нават па драбязе, каб "дастаць", напрыклад, жменю якіх цвікоў.

Як бачна, Якуб Колас прыязныя адносіны да П. Панамарэнкі захоўваў і падтрымліваў да канца свайго жыцця, якую б пасаду не займаў апошні. Відавочна, сустрэч між імі стала зусім вобмель (калі яны ўвогуле былі). Адна з прычын – адыход П. Панамарэнкі ад дзейнасці, звязанай з Беларуссю. Але галоўнай – зрабілася адлегласць, пераадольваць якую хваравітаму напрыканцы жыцця Коласу было вельмі цяжка (П. Панамарэнка пасля ад'езду з Беларусі працаваў да 1954 г. у Маскве, потым год у Казахстане, а ў год смерці Якуба Коласа паслом у Польшчы). Аднак пра тое, што Якуб Колас не забываў нядаўняга кіраўніка БССР, якога лічыў да таго ж сваім сябрам, пераканаўча сведчыць ліст (ад 22 снежня 1951 г.):

"Глубокоуважаемый и дорогой Пантелеймон Кондратьевич!

У меня было искреннее желание навестить Вас во время 3-й Всесоюзной конференции защитников мира. Исполнить свое желание, к сожалению, я не смог, так как чувствовал себя не важно. По окончании конференции уехал домой, а сейчас нахожусь в стационаре, откуда и пишу Вам, дорогой Пантелеймон Кондратьевич. Прибыл в стационар с высоким давлением крови – 240/130. Сейчас оно снижено, и я чувствую себя значительно лучше. По обязанности члена комитета па Сталинским премиям мне надо быть в Минске, но состояние здоровья не позволяет принять участие в работе комитета. В связи с этим я обращаюсь к Вам, Пантелеймон Кондратьевич, с просьбой поддержать, если это удобно и возможно, кандидатуру на соискание Сталинской примии романа Михася Лынькова «Векопомные дни». Наша писательская общественность, а также и партийные работники всемерно поддерживают эту кандидатуру. Поскольку роман издан на русском языке, он переносится на следующий год. Но белорусская поговорка гласит: отклад не идет в лад. Михась Лыньков всей писательской и общественной деятельностью, а также и созданием большого художественного произведения о белорусских партизанах в полной мере заслуживает премирования. В числе кандидатур на соискание Сталин[ской] пр[емии] от союза писателей БССР числится и кандидатура Михася Лынькова, его роман «Векопомные дни». Это произведение горячо поддерживается нашей писательской общественностью, как большое художественное полотно, в котором широко отражены дела и подвиги белорусских партизан. Но поскольку оно не издано

199 Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матэрыялы. У 2 кн. Кн. 2. 1939 – 2009. Ч. 2 / уклад. В.Дз. Селяменеў, В.У. Скалабан; рэд. калегія: М.І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. С. 6-7.

200 Там жа. С. 567.


22 XII 1951 г.

Глубокоуважаемый и дорогой
Пантелеймон Кондратьевич!

У меня было искреннее желание навестить Вас во время 3-й Всесоюзной конференции защитников мира. Исполнить свое желание, к сожалению, я не смог, так как чувствовал себя не важно. По окончании конференции уехал домой, а сейчас нахожусь в стационаре, откуда и пишу Вам, дорогой Пантелеймон Кондратьевич. Прибыл в стационар с высоким давлением крови – 240/130. Сейчас оно снижено, и я чувствую себя значительно лучше. По обязанности члена комитета по Сталинским премиям мне надо быть в Москве, но состояние здоровья не позволяет принять участие в работе комитета. В связи с этим я обращаюсь к Вам, Пантелеймон Кондратьевич, с просьбой поддержать, если это удобно и возможно, кандидатуру на соискание Сталинской премии романа Михася Лынькова „Векопомные дни.“ Наша писательская общественность, а также и партийные работники всемерно поддерживают эту кандидатуру. Это произведение, поскольку оно не издано на русском языке, переносится на следующий год. Но белорусская поговорка гласит: отклад не идет в лад. Михась Лыньков всей своей писательской и общественной деятельностью, а также и созданием большого художественного произведения о белорусских партизанах в полной мере заслуживает премирования.

**Адбіткі ліста Якуба Коласа да П. Панамарэнкі.**

в русском переводе, его откладывают на следующий год. А наша поговорка гласит: отклад не идет в лад…”[201]

Па ўсім відаць, ліст застаўся недапісаным і не быў адпраўлены. Магчыма, Якуб Колас сам вагаўся адносна ацэнкі названага рамана-эпапеі М. Лынькова, які, праўда, усё ж атрымаў за свой твор прэмію, але не Сталінскую, а Дзяржаўную прэмію БССР імя Якуба Коласа, і толькі ў 1968 г.

Апошнім з выяўленых кантактаў стала тэлеграма Якуба Коласа, з якой вядома, што паэту ізноў не ўдалося наведаць палітыка[202]. Нявыключана, што між імі практыкавалася тэлефонная сувязь. Але ў гэтым прымушаюць сумнявацца вышэйпрыведзеныя ўспаміны І. Шамякіна пра сустрэчу яго з П. Панамарэнкам у 1953 г., паводле якіх апошні ўжо тады нават не памятаў сапраўднага імя адзінага на той час беларускага народнага паэта. Паўторымся:

“Ну, як там жывуць Колас, Крапіва, Глебка?

– Канстанцін Міхайлавіч у бальніцы...

– Хто гэта?

– Колас.

– А, так. Я забыўся. Недаравальна. Я з ім меў самыя цесныя кантакты. Сяброўскія, можна сказаць, адносіны. Мудрэйшы чалавек!”[203]

---

201 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-25757.

202 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-13355.

203 Шамякін І. Панцеляймонава кіно [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.kamunikat.org/download.php?item=4245-46.pdf. Дата доступу: 13.01.2012.



В числе кандидатур от союза писателей БССР писатель выдвинул и кандидатура Михася Лынькова, его роман „Незабываемые дни." Это произведение горячо поддерживается нашей писательской общественностью, как большое художественное полотно, в котором широко отражены дела и подвиги белорусских партизан. Но поскольку оно не издано в русском переводе, его откладывают на следующий год.



**Адбіткі ліста Якуба Коласа да П. Панамарэнкі.**

У любым выпадку інтэнсіўнасць стасункаў Якуба Коласа і П. Панамарэнкі, якія пераехаў у Маскву, пайшла на спад. Абодва былі людзьмі вельмі занятымі, і адсутнасць практычнага значэння рабіла кантакты радзейшымі.

Такім чынам, знаёмства вялікага беларускага паэта і першага палітыка БССР доўжылася амаль 20 гадоў. Напачатку яно было далёка не бясхмарным: над жыццём генія беларускага слова навісла пагроза, якая да таго ж зыходзіла з боку П. Панамарэнкі, які ў 1938 г. стаў кіраўніком Савецкай Беларусі. Палітык усё ж імкнуўся заваяваць сімпатыі ў беларускіх пісьменнікаў і народа ўвогуле (што, зрэшты, яму і ўдалося) і падтрымліваў іх – шляхам распаўсюджвання легенды пра сябе выратавальніка. Кіраўнік рэспублікі расказваў легенду многім пісьменнікам. Што праўда, яе змест дарэшты ні пацвярджаецца, ні абвяргаецца іншымі крыніцамі. А палітык тым часам стаў нават сябрам для многіх мастакоў слова, перадусім народнага паэта Якуба Коласа, з якім цёплыя стасункі падтрымліваліся і пасля таго, як П. Панамарэнка пакінуў працу на Беларусі, хоць кантакты і прыкметна парадзелі. У іх апошні, як падаецца, выяўляе ноткі, падобныя да самапраўдальных. У шчырасці сяброўскіх узаемадачыненняў з Якубам Коласам з боку П. Панамарэнкі ёсць сумненні, чаго не скажаш, калі меркаваць асабліва па пасляваенных узаемінах паэта і палітыка, пра нашага літаратурнага класіка. Пясняр, несумненна, добра памятаў нядаўняга кіраўніка БССР да самага свайго зыходу ў 1956 г., захаваўшы датычна яго, нягледзячы на экзістэнцыйную складанасць часу, шчырыя сяброўскія пачуцці. У гэтым самым бачыцца праяўленне высокага, не раўнуючы біблейскага гуманізму пісьменніцкага і чалавечага генія зямлі беларускай.

# Як люсінцы прасілі Коласа школу пабудаваць і што з гэтага выйшла

Сёлета спаўняецца 110 гадоў з таго часу, калі Якуб Колас у якасці настаўніка народнага вучылішча ступіў на зямлю вёскі Люсіна. Сувязі з палешукамі паэт захаваў да канца жыцця. Па сённяшні дзень адкрываюцца новыя моманты іхніх стасункаў. Два дагэтуль невядомыя лісты люсінцаў народнаму паэту знойдзены надоечы ў архіве музея Якуба Коласа. Расследаванне падзейных кантэкстаў звароту палешукоў да народнага паэта прывяло да выяўлення цэлай гісторыі.

На доўгія чвэрць стагоддзя сацыяльныя катаклізмы разлучылі Якуба Коласа з Заходняй Беларуссю, дзе на Стаўбцоўшчыне засталіся яго маці і шматлікія родныя, дзе ў палескіх вёсках пачынаўся шлях у самастойнае жыццё будучага літаратурнага класіка, а на той час – звычайнага настаўніка ўбогай народнай школкі. З 1915 па 1939 год Якуб Колас не наведваў тых мясцін. А калі пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР народны паэт зноў атрымаў магчымасць бываць у родных краях, то першае, што зрабіў, – пачаў клапаціцца пра сваіх землякоў – жыхароў вёскі Мікалаеўшчына, не ўпускаючы з-пад увагі перадусім школу . Аналагічны клопат Якуб Колас праяўляў не толькі адносна сваіх аднавяскоўцаў, але і пра іншыя беларускія вёсачкі, у ліку якіх апынулася ў свой час і Люсіна, з якім міжволі звязаўся лёс паэта. Паводле даследчыцы, кандыдата гістарычных навук Ганны Дулебы, «ён прыехаў у Люсіна пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Якуба Коласа вельмі непакоіла масавая непісьменнасць тутэйшых людзей, а таму ён усяляк імкнуўся, каб сялянскія дзеці наведвалі школу[204]. Ён падрабязна азнаёміўся з жыццём і бытам мясцовага люду, сабраў шматлікія звесткі аб ім, на аснове гэтага пачаў пісаць аўтабіяграфічную аповесць "У палескай глушы"... У кнізе Якуб Колас яскрава і праўдзіва адлюстраваў жыццё і быт людзей гэтай вёскі»[205] .

Люсінцы заўжды памяталі свайго маладога настаўніка, які пражыў з імі побач у 1902 – 1904 гг. Падчас віхураў Першай сусветнай вайны і ў перыяд 1920 – 1930-я гг. у люсінцаў не было магчымасці звяртацца да славутасці: вёска, належачы да заходняй часткі Беларусі, засталася пад Польшчай. Але і ў тыя цяжкія часы паланізацыі творы Якуба Коласа шырока хадзілі ў беларускіх масах. Верыцца, што і люсінцы тады чыталі аповесць "У палескай глушы". Чыталі, радаваліся сустрэчам са сваім нядаўнім мінулым, ад пакалення да пакалення ўспаміналі апісаныя ў мастацкім творы падзеі і людзей. І пра свайго настаўніка, які праз аповесць, перакладзеную на 8 еўрапейскіх моў, адкрыў свету Люсіна, вяскоўцы заўсёды захоўвалі памяць і амаль праз паўвека – пасля Другой сусветнай вайны. Таму сувязь аднавілася, калі сціхла апошняе на нашай зямлі ваеннае ліхалецце, а Пінскае Палессе назаўсёды стала неад'емнай часткай Беларусі. Ведаючы дабрыню знакамітасці яшчэ па

204 Трафімчык А. "На ростанях лёсу паэта і палітыка…" Якуб Колас і Панцеляймон Панамарэнка // Дзеяслоў, 2011, № 5. С. 256.
205 Дулеба Г. Народныя вучылішчы Ганцаўшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.gants-region.info/publ/anna_duleba/narodnyja_vuchylishchy_gancawshchyny/11-1-0-96. Дата доступу: 13.01.2012.

колішніх часах – двух навучальных гадах настаўнічання “Лабановіча” ў “Цельшыне” – жыхары вёскі, калі настала патрэба, таксама, дарэчы, як і мікалаўцы (землякі Якуба Коласа), звярнуліся да чалавека, які да той пары стаў народным паэтам. А патрэба была не абы-якая: не было дзе вучыцца падрастаючаму пакаленню люсінцаў. Таму па дапамогу звярнуліся да свайго вялікага настаўніка. На жаль, гэтага прашэння не выяўлена. Аднак пра яго вядома з апублікаванага ліста народнага паэта (арыгінал захоўваецца ў Музеі беларускага Палесся, г. Пінск):

“Мае дарагія сябры-прыяцелі,
мае былыя вучні і суседзі-люсінцы!

Радасна мне атрымаць ад вас пісьмо. Ваша Люсінская школа была маім першым настаўніцкім месцам, з якога пачалася мая дарога ў жыццё. Радасна таксама і тое, што мы сягоння, аддзеленыя такім доўгім часам, можам проста і ясна паглядзець адзін аднаму ў вочы, бо нічога непрыемнага, прыкрага не было паміж намі. Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыццё, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі…” [206]

Так 24 чэрвеня 1948 г. пісаў звычайнаму вясковаму люду ў палескую глуш чалавек, вядомей за якога на Беларусі тады хіба не было. І тыя шчырыя словы хочацца цытаваць і цытаваць.

“Радасна было мне даведацца з вашага пісьма і аб тым, што слаўныя люсінцы ваявалі і супраць польскіх паноў і супраць нямецкіх захопнікаў, як партызаны, як салдаты Савецкай Арміі. Чэсць вам і хвала! – з гэтых Коласавых слоў мы даведваемся і пра тое-сёе, што распавялі люсінцы ў першым сваім лісце. – Я зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб у вас на месцы старой драўлянай школы, каля якой стаяў высачэзны крыж, была пабудавана *новая, прасторная, светлая школа з цэглы.* Я напісаў заяву міністру асветы. У сваёй заяве прашу яго адпусціць грошы на будаўніцтва *Люсінскай поўнай сярэдняй школы.* Спадзяюся, што такая школа ў вас будзе” (курсіў наш. – А. Т., у далейшым да выдзеленых слоў вернемся).

На развітанне класік выражае жаданне наведаць Люсіна, “калі пазволіць жыццё і здароўе”, кажа, што высылае кнігу пра Люсіна, названае Цельшынам (зразумела, маецца на ўвазе аповесць “У палескай глушы” ці ўся трылогія “На ростанях”), і перадае прывітанне “усім, падпісаўшым пісьмо”[207] .

Відавочна, што справа ў патрэбным кірунку не закруцілася. Таму што ў самым канцы 1948 г. даволі шырокім колам прадстаўнікоў люсінскай грамадскасці вырашана было напісаць чарговае калектыўнае пасланне Якубу Коласу з просьбай пасадзейнічаць займець у іх вёсцы прыстойную школу. Гэтае пісьмо доўгі час было невядомым.

Выклікае цікавасць структура і змест ліста. Пасля разгорнутага прывітання люсінцы апісваюць актуальную сітуацыю з асветай у вёсцы, дзе яшчэ стаяла школа, у якой працаваў малады Канстанцін Міцкевіч. Аднак будынак быў ужо непрыгодны для навучання звыш 200 вучняў, для якіх даводзілася арганізоўваць заняткі ў непрыстасаваных памяшканнях (звычайных сялянскіх хатах) у дзве змены.

---

206 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 13. Пісьмы. 1908 – 1949. Мінск: Маст. літ. 1977. С. 539.
207 Там жа. С. 539-540.

Люсінцы, відаць, пашкадавалі час Якуба Коласа. Інакш яны маглі б распісаць становішча са школьнай асветай у іхняй вёсцы больш падрабязна. А яно не радавала нават у параўнанні з іншымі школамі раёна. Так, ганцавіцкая раённая газета "Сялянская праўда" паведамляе, што па забеспячэнні школ падручнікамі і сшыткамі "горш усяго справа абстаіць у Люсінскім сельсовеце"[208] .

Перш чым падступіцца да просьбы, жыхары вёскі Люсіна падкрэсліваюць сваю лаяльнасць да савецкай улады і ўведзеных ёю эканамічных парадкаў: кажуць, што цалкам разлічыліся з падаткамі. Сапраўды, на сялян у той час былі ўскладзены з боку саветаў паборы вельмі значныя (большыя ў параўнанні з польскім часам), што для некаторых стала ношай непасільнай і пры невыкананні выклікала пакаранне ў выглядзе штрафаў, экспрапрыяцыі маёмасці і хатняй жыўнасці, а часам нават высылкі ці зняволення. Тым не менш люсінцы справіліся, як яны самі паведамляюць у лісце, з гэтай эканамічнай перашкодай.

Аднак тое паведамленне вяскоўцаў пярэчыць афіцыйным дадзеным, апублікаваным у ганцавіцкай раёнцы. Прычым менавіта люсінцы па сплачванні падаткаў называюцца аўтсайдарамі ў сваім раёне: "Патрэбна адзначыць, што ў раёне выкананне фінансавага плана 4 квартала праходзіць нездавальняюча. На 20 кастрычніка квартальны план мабілізацыі грашовых сродкаў па раёну выканан толькі на 15,5 процанта. Асабліва нездавальняюча праходзіць выкананне фінансавага плана ў Люсінскім сельсовеце"[209] . Гэтай праблеме ў в. Люсіна прысвячаліся і асобныя артыкулы на старонках "Сялянскай праўды"[210] . За ўвесь 1948 г. па стане на люты 1949 г. нядоімкі жыхароў Люсінскага сельскага савета склалі 47 тыс. рублёў[211] . Спагнанне доўгу з сялян (а ён у некаторых даходзіў да 2 тысяч рублёў) працягвалася[212] . З цягам часу ўсё ж сітуацыя па выплаце падаткаў люсінцамі сапраўды пачала выпраўляцца, таму на старонках мясцовай прэсы сталі з'яўляцца і станоўчыя нататкі на гэту тэму[213] . Але гэтак адбылося ўжо багата пазней напісання ліста да Якуба Коласа, якому падпісанты, такім чынам, сітуацыю і сябе ў ёй рэпрэзентавалі значна прыфарбавана, фактычна казалі няпраўду (пры ўмове, што яны пісалі ад шырокага кола люсінскай грамады, як гэта нібыта падаецца ў тэксце пісьма, а не ад падпісантаў асабіста, якія самі па сабе маглі сапраўды і не быць даўжнікамі ў дзяржавы). Напэўна, у гэтакі спосаб хацелі наблізіцца да мэты.

А вось стараннасць люсінскіх настаўнікаў вылучалася на агульным фоне іншых школ. Прынамсі раённая газета ім прысвяціла некалькі

208 Берлінская Е. Райспажыўсаюз не задавальняе запросаў школ раёна // Сялянская праўда, 1948, 9 снежня. С. 2

209 Датэрмінова выканаем план мабілізацыі грашовых сродкаў // Сялянская праўда, 1948, 24 кастр. С.1.

210 Яршоў А. У Люсінскім сельсовеце зрываюць выкананне фінансавага плана // Сялянская праўда, 1948, 24 кастр. С. 1; Бяздзельнік на пасту фінагента // Сялянская праўда, 1948, 19 снеж. С. 1.

211 Ліквідаваць прарыў па выкананню фінплана // Сялянская праўда, 1949, 10 лют. С. 1.

212 Лактыш І. Камсамольцы змагаюцца за паспяховае выкананне фінплана // Сялянская праўда, 1949, 13 лют. С. 2.

213 Лактыш І. Перадавікі выканання фінансавага плана // Сялянская праўда, 1949, 13 сак. С. 1.

пахвальных радкоў: “Нядрэнных вынікаў у гэтай благароднай і пачэснай рабоце (ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці – А. Т.) дабіліся настаўнікі і культармейцы Люсінскага сельсовета. Абучэннем тут ахоплены ўсе непісьменныя і малапісьменныя. З пачатку навучальнага года (1948/49. – А. Т.) у сельсовеце абучана грамаце 98 чалавек. Лепш другіх праводзяць работу па абучэнню непісьменнага і малапісьменнага насельніцтва Беленкова Т.Я., Хмялеўскі М.І., Галай Н.І., Пазднякова Е.А., культармейцы Амельяновіч С.А., Семановіч М.І., Барташэвіч Г.М., Занько Г.І.”[214] .

Пад канец ліста да Якуба Коласа вяскоўцы зноў падкрэсліваюць сваю прыхільнасць да палітычнага курсу таго часу, калі панавалі жорскія сталінскія парадкі, калі нават нейтральная пазіцыя адносна ўлады магла расцэньвацца як падазроная, бо чалавеку неабходна было ўвесь час выяўляць сваю добранадзейнасць да саветаў (асабліва гэта датычылася “заходнікаў” і тых, хто перажыў нямецкую акупацыю). “Мы не пашкадуем ні сіл, ні здароўя на заканчэнне сталінскай пяцігодкі ў 4 гады і хутчэйшаму пераходу да камунізма”, – напісалі люсінцы. Усё дзеля дасягнення мэты – паставіць урэшце нармальную школу для сваіх наступнікаў. Хто тых вяскоўцаў мог зразумець лепей, калі не самы вядомы хіба для таго гістарычнага моманту на Беларусі педагог – народны паэт Якуб Колас?!

Прашэнне палескіх вяскоўцаў выражана немудрагеліста: адным сказам яны просяць пабудаваць у наступным навучальным годзе васьмігодку. Тут, праўда, узнікае пытанне, чаму гаворка ішла пра васьмігодку, пераход на якую – з сямігодкі – у савецкай сістэме адукацыі пачалі ажыццяўляць толькі праз дзесяць гадоў – у 1958 г. Дагэтуль структура школьнай асветы ў СССР была наступнай: пачатковая школа – 4 класы, базавая – 7, сярэдняя – 10.

Аднак, сапраўды, на такую вялікую вёску пачатковай школы яўна не хапала. Можна меркаваць, што, акрамя дэкларованых у лісце 200 вучняў 1 – 4 класаў (гэта значыць ад 7 да 11 гадоў), было недзе столькі сама патэнцыйных вучняў 5 – 8 класаў. А з улікам таго, што пасля вайны наспяваў дэмаграфічны выбух, то нават васьмігодка падаецца вельмі сціплым рашэннем праблемы.

Ліст сведчыць, як моцна, прагна вясковы люд цягнуўся да святла навукі. У фармулёўцы просьбы звяртае на сябе ўвагу яе пачатак: “Мы яшчэ раз звяртаемся да Вас, а таксама да партыі і ўрада…”. Фраза “яшчэ раз” гаворыць пра тое, што люсінцы мелі на ўвазе ранейшы ліст-просьбу. У адказ на яго Якуб Колас паабяцаў самую дзейсную дапамогу. Аднак адсутнасць зрухаў падштурхнула жыхароў Люсіна нагадаць пра становішча з адукацыяй у іхняй вёсцы. Прычым яны нават не выражалі надзеі на сярэднюю школу, аб якой прасіў у заяве Якуб Колас. Пэўна, разумелі, што гэта проста нерэальныя пражэкты.

Апісаныя два лісты люсінцаў, такім чынам, сталі ці не першым за доўгія-доўгія гады кантактам вяскоўцаў са сваім былым настаўнікам. І штуршком для пісьмовага звароту сялянаў, настаўнікаў і вучняў да народнага паэта паслужыла вострая неабходнасць у грамадскай установе асветы.

---

214 Узмацніць работу па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці // Сялянская праўда, 1948, 24 ліст., С.1.

Тэкст ліста, які захоўваецца ў фондах музея пад нумарам КП-13534, публікуецца з захаваннем правапісу і пунктуацыі арыгінала. Канверт датаваны 26 снежня 1948 г.

*Вялікаму Беларускаму пісьменніку –*
*Якубу Коласу*

*ад сялян вёскі Люсіна,*
*Ганцэвічскага раёна*
*Пінскай вобласці.*

*Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!*

*Мы, сяляне вёскі Люсіна, калектыў настаўнікаў Люсінскай пач[атковай] школы і ўся інтэлігенцыя Люсінскага с/совета шлем Вам, паважаны Канстанцін Міхайлавіч, большэвіцкае прывітанне!*

*Прайшло многа год з таго часу, калі Вы, Канстанцін Міхайлавіч, жылі і працавалі ў нашай вёсцы настаўнікам. Многія Вашы вучні цяпер ужо сталі старыкамі. Школа, у якой Вы працавалі яшчэ стаіць, але ўжо непрыгодная для вучобы. Дзеці нашы вучацца ў наёмных непрыгодных пад школу памяшканнях і ў дзве змены (звыш 200 вучняў у школе).*

*Выконваючы рашэнні партыі і ўрада аб аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі нашай Беларусі, мы поўнасцю разлічыліся з дзяржавай па ўсіх відах налогаў, – і ўсе як адзін дастойна сустрэнем 30-ю гадавіну нашай Беларусі.*

*Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!*

*Мы яшчэ раз звяртаемся да Вас, а таксама да партыі і ўрада з просьбай: пабудаваць у 1949 – 50 г.г. васьмігадовую школу ў в. Люсіна, якую з вялікай пашанаю назавём Вашым іменем.*

*Мы не пашкадуем ні сіл, ні здароўя на заканчэнне сталінскай пяцігодкі ў 4 гады і хутчэйшаму пераходу да комунізма.*

*Жадаем Вам, Канстанцін Міхайлавіч, добрага здароўя і лепшых поспехаў у працы на карысць нашай Радзімы!*

*Старшыня выканкома*
*Люсінскага с/совета*
*дэпутатаў працоўных*
*/Жалезны/*
*Загадчык Люсінскай пач. школы*
*/Санько/*

*Настаўнікі: (подпісы ў колькасці пяці пазіцый неразборлівыя. – А. Т.)*
*Сяляне 1) ад сялян в. Люсіна*
*2 сакратар Комс[амольскай] арг[анізацыі] (Занько)*
*3 сакратар с/с выканкома (Телушко)*
*Вучні 3 і 4 класаў.*
*(усяго 65 чал[авек])*

Вялікаму беларускаму пісьменніку —
Якубу Коласу.

ад сялян вёскі Люсіна,
Ганцэвіцкага раёна
Пінскай вобласці.

Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!
Мы, сяляне вёскі Люсіна, калектыў настаўнікаў Люсінскай пач. школы і ўся інтэлігенцыя Люсінскага с/савета шлем Вам, паважаны Канстанцін Міхайлавіч, бальшэвіцкае прывітанне!
Прайшло многа год з таго часу, калі Вы, Канстанцін Міхайлавіч, жылі і працавалі ў нашай вёсцы настаўнікам. Многія Вашы вучні цяпер ужо сталі старыкамі. Школа, у якой Вы працавалі яшчэ стаіць, але ўжо непрыгодная для вучобы. Дзеці нашы вучацца ў наёмных непрыгод-

…х пад школу памяшканнях і ў дзве …ены (звыш 200 вучняў у школе).
Выконваючы рашэнні партыі і ўрада …аднаўленні і развіцці народнай гаспадар… нашай Беларусі, мы поўнасцю разлічы… з дзяржавай па ўсіх відах налогаў, … як адзін дастойна сустрэнем …е гадавіну нашай Беларусі.

Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!
…яшчэ раз звяртаемся да Вас, а таксама …артыі і ўрада з просьбай: пабудаваць …949-50 г.г. сямігадовую школу ў в. Люсіна, … з вялікай пашанаю назавём …шым іменем.
… не пашкадуем ні сіл, ні здароўя на …нянне сталінскай пяцігодкі ў 4 гады …ейшаму пераходу да камунізма.

Жадаем Вам, Канстанцін Міхайлавіч добрага здароўя і лепшых поспехаў у працы на карысць нашай Радзімы!

Старшыня Выканкома
Люсінскага с/савета
дэпутатаў працоўных
[signature] (Жалезны).

Загадчык Люсінскай пач. школы
[signature] (Санько).

Настаўнікі: 1. [signature]
2. [signature]
3. [signature]
4. [signature]
5. [signature]

Сяляне: 1. Ад сялян в. Люсіна
2. Сакратар Комс. арг. [signature] (Ванько)
Сакратар с/выканкома [signature] (Тещынко)
3.
4.

Вучні 3 і 4 класаў.
(усяго 65 чал.)

— 81
горад Мінск
вуліца Пушкіна, 55
Акадэмія Навук БССР
Вялікаму Беларускаму пісьменніку — Якубу Коласу

БССР Пінская вобл.
Ганцэвіцкі раён
в. Люсіна — пач. школа

**Адбіткі ліста 26 снежня 1948 г.**



**Настаўнікі і вучні Люсінскай школы. 1929 год. На фоне будынка, у якім некалі выкладаў Канстанцін Міцкевіч.**

Аўтар выказвае ўдзячнасць супрацоўніку Ганцавіцкага краязнаўчага музея Віталю Герасіменю за прадастаўленне здымка для гэтай публікацыі.

Якія вынікі таго калектыўнага ліста? Найперш адразу адзначым, што невядома, ці Якуб Колас адпісаў на яго. Бывала, што на атрыманых пісьмах паэт рабіў пазнаку "адказана", якой на пасланні люсінцаў няма. Аднак трэба сказаць, што праблемы вяскоўцаў са школай пачалі канструктыўна вырашацца. Прычым вельмі хутка – у наступным сезоне.

Ужо ў 1949 г. пачатковая школа была пераўтворана ў сямігадовую. Па ўсёй верагоднасці, першаснай прычынай гэтай прагрэсіўнай трансфармацыі стала ўвядзенне ў тым годзе па заходніх абласцях БССР абавязковага сямігадовага навучання (дагэтуль яно датычылася толькі гарадской мясцовасці, у сельскай абавязковай для заканчэння была пачатковая школа).

Аднак ужо ў тым жа 1949 г. ганцавіцкая раённая газета паведаміла пра планы пабудаваць у раёне некалькі новых школ, у тым ліку ў Люсіне (але без указання тэрмінаў). Тут жа і крытыкуецца Люсінская школа ў сувязі з кепскім выкананнем рамонту: "Безадказна, антыдзяржаўна адносіцца да гэтай важнейшай справы загадчык Люсінскай пачатковай школы т. Санько. Не гледзячы на адпушчаныя сродкі, на прапаноўваемую сельскім советам дапамогу, рамонт школы яшчэ не распачат. Загадчык школы т. Санько фактычна бяздзейнічае, не зважаючы ўвагі на непрыстасаванасць школы да заняткаў, на дрэнную пастаноўку вучэбна-выхаваўчай работы"[215] .

215 Узорна падрыхтуем школы да новага вучэбнага года // Сялянская праўда, 1949, 19 мая. С. 1

Неўзабаве з’яўляюцца паведамленні пра разгортванне будаўніцтва новай школы ў в. Люсіна:

“У вёсцы Люсіна *метадам народнай будоўлі* (курсіў наш. – А. Т.) распачалося будаўніцтва сямігадовай школы. З вялікай актыўнасцю ўдзельнічаюць сяляне ў гэтым будаўніцтве. Кожны селянін абавязаўся адпрацаваць не менш 5 дзён. Але многія сяляне, у якіх маюцца дзеці школьнага ўзросту, не задаволіліся гэтым. У падзяку за тое, што іх дзецям адкрыты шлях да навукі, яны бяруць на сябе значна вышэйшыя абавязацельствы.

У сельскага актывіста Цялушкі Філіпа трое дзяцей наведваюць школу. Тав. Цялушка ўнёс на будаўніцтва школы 100 рублёў грашыма і абавязаўся скласці сам 8-мятровую сцяну.

Столяр Жалезны Сямён даў абавязацельства зрабіць трэцюю частку ўсіх сталярных работ, а дэпутат сельскага совета тав. Дзічка Павел абавязаўся зрабіць два акна і ўнесці 50 рублёў грашыма.

Кожны з сялян лічыць справай чэсці паспяхова выканаць узятае абавязацельства. На нарыхтоўку лесаматэрыяла для будаўніцтва школы штодзённа выязджае да 15 падвод і выходзяць у лес дзесяткі лесарубаў.

Для сталярных работ ужо распілована 25 кубаметраў дошак.

Закончыць будаўніцтва сямігадовай школы сяляне абавязаліся да новага навучальнага года”[216] .

Прыкладна тое ж чытаем у артыкуле наступнага нумара раёнкі. Энтузіязм насельніцтва і першыя вынікі працы вясковай талакі распісваюцца яшчэ ў ярчэйшых фарбах. Называецца шырокае кола актывістаў ініцыятывы будаўніцтва школы. Артыкул мае на мэце стварыць рэзананс падзеі, каб іншыя вяскоўцы актыўна бралі прыклад з люсінцаў[217] .

Больш таго, задача пабудовы школы ў Люсіне нават стала адным з пунктаў дагавора аб міжабласным сацыялістычным спаборніцтве Брэсцкай і Пінскай абласцей[218] . Як бачым, не ўлада стала будаваць школу, а самі жыхары Люсіна. А ўлада для гэтага прыдумала і тэрмін – “метад народнай будоўлі”, нібыта менавіта саветы з’яўляліся тэарэтыкамі такой будоўлі. Да таго ж мясцовыя органы ўлады вырашылі яшчэ і выкарыстаць працу вяскоўцаў у рамках свайго спаборніцтва.

Здавалася б, такі імпэт павінен быў прывесці да скорага дасягнення мэты. І праўда, неўзабаве інспектар раённага аддзела народнай асветы Е. Берлінская паведамляла: “У вёсцы Люсіна сяляне заканчваюць зруб будынка сямігодкі”[219] . Аднак рэчаіснасць пакідала жадаць лепшага.

Дастаткова зірнуць на інфармацыю годам пазней: “Асабліва дрэнна абстаіць справа з будаўніцтвам. Ужо даўно прайшлі ўсе тэрміны, але будынак Люсінскай сямігадовай школы да гэтага часу знаходзіцца ў стадыі будаўніцтва. Сельскі совет (старшыня т. Мельнікаў) і праўленне калгаса імя Калініна (толькі-толькі створанага. – А. Т.) самаўхіліліся ад аказан-

216 Цялушка В. Метадам народнай будоўлі // Сялянская праўда, 1949, 14 ліп. С. 2.
217 Падхопім ініцыятыву люсінцаў // Сялянская праўда, 1949, 17 ліп. С. 1
218 Дагавор соцспаборніцтва па падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года // Сялянская праўда, 1949, 28 ліп. С. 1.
219 Берлінская Е. Напярэдадні новага навучальнага года // Сялянская праўда, 1949, 21 жн. С. 2

ня дапамогі школе"[220] .

Відавочна, ініцыятыва знізу патухла. Таму патрэбна была дапамога саветаў. Але і мясцовыя органы ўлады праігнаравалі праблему, якая мела востры характар і на наступны год: "У Люсінскім сельскім савеце яшчэ ў 1949 годзе пачалося будаўніцтва новай сямігадовай школы. Але да гэтага часу школа не пабудавана. Маруднымі тэмпамі вядуцца будаўнічыя работы і ў гэтым годзе. Старшыня Люсінскага сельсовета т. Занька і дырэктар школы тав. Місько своечасова не прынялі мер, каб у гэтым годзе будаўніцтва школы было закончана"[221] .

Доўгая гісторыя мучэнняў люсінцаў з будаўніцтвам школы ў нашым артыкуле пра іх ліст-просьбу да Якуба Коласа апісваецца нездарма. Гарызонт заканчэння той гісторыі яшчэ не быў відзён, а пісьменнік у пачатку 1950 г. думаў, што люсінцы ўжо маюць "новую, болей прасторную" школу[222] , якая б задаволіла іх патрэбы ў навучанні. Значыць, слова ён замовіў, значыць, хадайнічаў перад уладамі ў справе будаўніцтва школы, таму і меркаваў, што люсінскія школьнікі маюць ужо прыстасаваны будынак для вучобы. Яго меркаванні, аднак, былі далёкімі ад сапраўданага становішча рэчаў.

У юбілейны для народнага паэта – 1952 – год святы з нагоды Дня нараджэння люсінская грамадскасць праводзіла таксама не ў новым школьным будынку, якога па-ранейшаму не існавала. Не прамінулі люсінцы тады і яшчэ адну дату – 40-годдзе з часу настаўнічання Канстанціна Міцкевіча ў Люсінскай народнай школе, пра што меліся распавесці на святце колішнія вучні паэта – "калгаснікі Занька М.В. (пра яго будзе яшчэ трохі ніжэй. – А. Т.), Рылка В.С. і Занька М.І."[223] . Адпаведны літаратурны вечар давялося праводзіць у мясцовай хаце-чытальні[224] , хаця па іншых вёсках імпрэза адбывалася ў школах.

Тэма незавершанага ў Люсіне школьнага будынка ўсплывала на старонках мясцовай прэсы з году ў год. Вясной 1953 г. асноўныя матывы гэтай праблемы паўтарыліся: "Між тым у многіх сельскіх Саветах работа па падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года яшчэ не праводзіцца. Не ўдзяляе ўвагі пытанням работы школ Люсінскі сельсовет. Больш чатырох гадоў таму назад у вёсцы Люсіна было распачата будаўніцтва новага будынка для сямігадовай школы. Аднак і да гэтага часу будаўніцтва яго не закончана. У выніку гэтага школа размяшчаецца ў трох аддаленых адзін ад другога непрыстасаваных будынках. Патрэбна адзначыць, што і зараз ні раённы, ні Люсінскі сельсовет не спяшаюцца з заканчэннем будаўніцтва школы"[225] .

У рэшце рэшт на ўзвядзенне школьнага дома было патрачана чатыры

220 Своечасова падрыхтаваць школы да заняткаў // Сялянская праўда, 1950, 17 жн. С. 1.
221 Хутчэй завяршыць падрыхтоўку школ да пачатку заняткаў // Сялянская праўда, 1951, 12 жн. С. 1.
222 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 14. Пісьмы 1950 – 1956 гг. Дзённікі. Летапіс жыцця і творчасці. Алфавітны даведнік твораў да 1 – 12 тамоў. Паказчык імён да 11 – 14 тамоў. Даведнік па адрасатах да 13 – 14 тамоў. Мінск: "Маст. літ.", 1978. С. 9.
223 Галенка Н. Там, дзе працаваў Якуб Колас // Сялянская праўда, 1952, 26 кастр. С. 2.
224 Шэўчык М. Вечары, прысвечаны 70-годдзю Якуба Коласа // Сялянская праўда, 1952, 13 ліст. С. 1.
225 Падрыхтоўка школ да новага навучальнага года // Сялянская праўда, 1953, 23 крас. С. 1.

поўныя гады і пяць летніх сезонаў – і новы будынак Люсінскай школы быў здадзены ў эксплуатацыю. У ім распачаўся 1953/54 навучальны год. Відаць, цяганіна з будоўляй не дазволіла навіну пра гэта зрабіць пампезнай. Прынамсі раённая газета абмежавалася сціплай нататкай: “Добры падарунак атрымалі школьнікі вёскі Люсіна. У гэтым годзе тут закончана будаўніцтва новага памяшкання для сямігадовай школы. У новым памяшканні размешчана 5 класных пакояў, фізхімкабінет, піонерскі і настаўніцкі пакоі”[226] .

Як бачым, даўгабуд аказаўся зусім не маштабным па плошчы дома. Нават сямігодка ў новай школе не магла змясціцца пры працы ў адну змену. Вышэйзгаданая Коласава просьба не атрымала належнай рэалізацыі: ні новай, прасторнай, светлай школы з цэглы, ні тым больш поўнай сярэдняй школы вялікая вёска тады не атрымала. Тым не менш гэта сталася істотным паляпшэннем наяўных на той час у Люсіне ўмоў для школьнага навучання.

Якуб Колас да такіх пераўтварэнняў меў самае непасрэднае дачыненне (у Люсіне нават ходзіць паданне пра грошы, накіраваныя паэтам ці па яго ініцыятыве на ўзвядзенне школы, якія нібыта былі пераведзены раённым начальствам на іншы аб’ект). Аднак пакуль не ўстаноўлена, якія канкрэтна захады, акрамя ўзгаданай у яго лісце заявы, ён тым часам прадпрымаў (адказ на многія такія пытанні магла б даць даследчыцкая праца ў архівах). Галоўнае: вынік прашэння, прычым аператыўны, рэальны і канкрэтны быў намечаны – будаўніцтва распачалося. Аднак, па-першае, ад дзяржавы дапамогі не было (прынамсі доўгі час), выкарыстоўваўся рэсурс мясцовы (дзелавы лес, працоўная сіла, урэшце сродкі сялян), па-другое, будоўля ператварылася ў даўгабуд. Сваімі сіламі люсінцы, відавочна, не справіліся з узвядзеннем вялікага будынка. Улада таксама не спяшалася з дапамогай (тым часам у Заходняй Беларусі якраз праводзілася масавая калектывізацыя і саветам было не да такой драбноскі, як беларуская школка). Аўтарытэтнага кантролю, які мог бы быць у абліччы Якуба Коласа, ізноў-такі не існавала.

Ёсць і яшчэ адзін важны вынік калектыўных лістоў люсінцаў да народнага паэта. Тымі пісьмамі быў пакладзены пачатак невялікай перапіскі люсінцаў з Якубам Коласам.

Яшчэ вясною 1949 г., можна сказаць, па пратаптанай сцежцы (адрас быў ужо вядомы), “па даручэнню вучняў і сялян вёскі Люсіна” напісаў Якубу Коласу ліст загадчык мясцовай школы К. Санько. Пасланне вельмі кароткае. Акрамя “бальшавіцкага прывітання”, “камсамольцы, піонеры, а таксама і сяляне” віншуюць народнага паэта “з атрыманнем Сталінскай прэміі” і жадаюць яму “яшчэ лепшых поспехаў і здароўя ў працы на карысць нашай Радзімы”[227]. Ці меў ліст пэўнае прыхаванае значэнне або мэту – цяжка сказаць. Таму што логіка можа быць у тым, што гэтае пісьмо-віншаванне грала ролю напамінання пра папярэднія пасланні-просьбы люсінцаў. Але не выключана, што ліст з’яўляецца свайго роду жэстам удзячнасці люсінскіх вучняў і сялян вялікаму паэту, які да таго часу ўжо замовіў слова ў справе пабудовы новай школы ў сяле (інакш пра пасланні-просьбы закіды былі б больш празрыстымі). Неўзабаве пасля ліста К.

226 Славінкі К. Новая школа // Сялянская праўда, 1953, 6 вер. С. 1.
227 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-14418.



Вялікаму Беларускаму паэту –
Якубу Коласу.

ЛМК
кп-14418

Ад настаўнікаў і вучняў
Люсінскай школы,
Ганцэвіцкі раён,
Пінскай вобласці, БССР.

Мы, камсамольцы, піонеры, а таксама
і сяляне вёскі Люсіна шлем Вам –
нашаму другу і настаўніку – вялікаму
песняру беларускага народа, – свае боль-
шэвіцкае прывітанне!
Віншуем Вас з атрыманнем
Сталінскай прэміі!
Жадаем Вам яшчэ лепшых поспехаў
і здароўя ў працы на карысць нашай Радзімы!

Па даручэнню вучняў і сялян
вёскі Люсіна, Загадчык школы, –
20/IV-49 г. К. Санько.

Гор. Минск
Пушкина 5б
Якубу Коласу
(К.М. Мицкевичу)

Пинская обл. Ганцевичский р-н
Люсинская школа

**Адбітак ліста К. Санько 20 красавіка 1949 г.**



**М.В. Занька з жонкай. 1950–я гг.**

Аўтар выказвае ўдзячнасць супрацоўніку Ганцавіцкага краязнаўчага музея Віталю Герасіменю за прадастаўленне здымка для гэтай публікацыі.

Санька, датаванага 20 красавіка 1949 г., і распачалося ўзвядзенне будынка новай школы (як сказана вышэй, паведамленні пра гэта сустракаем у раёнцы).

Дарэчы, ці не меў месца тут пэўны канфлікт? К. Санько праз ліст Якубу Коласу мог патрывожыць раённае начальства, скіраваўшы на яго ўвагу вышэйшых інстанцый. У адказ загадчык школы сам быў раскрытыкаваны (гл. вышэй). Праўда, і ўлады афіцыйна абвясцілі пра планы паставіць люсінцам школу. А паколькі грошай не мелі (няўжо сапраўды перакінулі на іншы аб'ект?), то і арганізавалі "метад народнай будоўлі".

Гісторыя эпісталярных кантактаў люсінцаў з Якубам Коласам мела працяг. Шырока вядома, што ў 1950 г. ён абмяняўся некалькімі лістамі з адным са сваіх вучняў, які сам сябе падпісваў "Занько Міхаіл Васілёў" (імя па бацьку сярод беларусаў не прынятае, таму звычайна чалавек называў прозвішча і імя, часам для паўнаты ідэнтыфікацыі дадаючы, як у нашым выпадку, чыйго бацькі сын). Ліст Якуба Коласа ад 2 лютага 1950 г. апублікаваны, – то быў ужо адказ паэта Міхаілу Заньку: "Атрымаў я, браток, тваё пісьмо", – напачатку піша народны паэт. З гэтага пісьма вынікае, што яму папярэднічаў ліст Коласава вучня, у якім М. Занька

хацеў азнаёміць класіка з вершамі (магчыма, сваімі ці каго з родных або землякоў), але Якуб Колас адмовіўся з-за таго, што мае “мала часу і сілы, каб апрацоўваць іх”[228] .

А вось чарговы ліст М. Занькі да свайго колішняга настаўніка захаваўся: ён здаўна ўпрыгожвае экспазіцыю музея класіка ў Мінску. Гэты ліст люсінца датаваны 12 лютага 1950 г., такім чынам, адпісаны даволі аператыўна – праз дзесяць дзён пасля пісьма Коласа. У пісьме аўтар распавядае пра лёс аднавяскоўцаў, найперш герояў аповесці “У палескай глушы”[229]. У той жа час папярэдняга пісьма М. Занькі ці больш разгорнутых звестак пра той ліст пакуль намі не знойдзена. Як і не выяўлена, ці адпісаў у чарговы раз народны паэт свайму колішняму вучню.

Дзеля падагульнення перапіску люсінцаў з Якубам Коласам вырашана было сістэматызаваць у выглядзе табліцы.

Табліца. Перапіска люсінцаў з Якубам Коласам

| **Лісты** | | **Час (калі вядомы)** | **Наяўнасць** |
|---|---|---|---|
| **ад каго** | **каму** | | |
| Ад люсінцаў | Якубу Коласу | Раней 24 чэрвеня 1948 г. (гіпатэтычна – у першай палове 1948 г.) | **Не знойдзены** |
| Ад Якуба Коласа | Люсінцам | 24 чэрвеня 1948 г. | Апублікаваны ў Зборы твораў у 14 т. (Т. 13); захоўваецца ў Музеі беларускага Палесся (Пінск) |
| Ад люсінцаў | Якубу Коласу | 26 снежня 1948 г. | ДЛММЯК, КП-13534 |
| Ад Санька К. | Якубу Коласу | 20 красавіка 1949 г. | ДЛММЯК, КП-14418 |
| Ад Занькі М.І. | Якубу Коласу | Раней 2 лютага 1950 г. (гіпатэтычна – у другой палове 1949 г.) | **Не знойдзены** |
| Ад Якуба Коласа | Заньку М.І. | 2 лютага 1950 г. | Апублікаваны ў Зборы твораў у 14 т. (Т. 14); захоўваецца ў Музеі беларускага Палесся (Пінск) |
| Ад Занькі М.І. | Якубу Коласу | 12 лютага 1950 г. | ДЛММЯК, КП-12460 |

Таму ўжо цяпер відавочна, што далейшая пошукавая праца прынясе новыя адкрыцці ў стасунках люсінцаў і народнага паэта, шлях у сама-

228 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 14. Пісьмы 1950 – 1956 гг. Дзённікі. Летапіс жыцця і творчасці. Алфавітны даведнік твораў да 1 – 12 тамоў. Паказчык імён да 11 – 14 тамоў. Даведнік па адрасатах да 13 – 14 тамоў. Мінск: “Маст. літ.”, 1978. С. 9.
229 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-12460

стойнае жыццё якога пачаўся менавіта ў Люсіне – некалі глухой палескай вёсцы. Да таго ж напэўна жывуць і людзі, якія памятаюць тую перапіску, а то і мелі простае дачыненне да яе (напрыклад, вучні, што падпісвалі калектыўны ліст). (Калі такія знойдуцца, то ласкава просім звяртацца да аўтара гэтых радкоў праз электронны адрас tolik1976@tut.by.)

Такім чынам, гэты год адзначыцца яшчэ адной знамянальнай круглай датай у шэрагу святаў з нагоды юбілейнага, 130-га дня нараджэння Якуба Коласа, бо менавіта ўвосень 1902 г. малады настаўнік Канстанцін Міцкевіч атрымаў прызначэнне на працу ў народнае вучылішча вёскі Люсіна. Атрымліваецца, што з таго часу мінула 110 гадоў. А знойдзеныя лісты люсінцаў да народнага паэта не толькі праліваюць святло на старонкі мінулага і вёскі, і жыцця класіка, але і выступаюць нібыта падарунак з нагоды гэтых слаўных юбілеяў.

# Якубу Коласу пісалі з Ганцавіч

Летась у Ганцавічах правялі Дзень беларускага пісьменства. Народны паэт Якуб Колас быў сімвалам свята. Яму ўстанавілі бюст. Нагодай стаў той факт, што будучы класік айчыннай літаратуры пачынаў сваю працоўную біяграфію ў Люсіне, якое сёння знаходзіцца ў Ганцавіцкім раёне. Як правіла, на гэтым разгляд сувязей Канстанціна Міцкевіча (сапраўднае імя і прозвішча паэта) з ганцаўскай зямлёй і абмяжоўваецца. Грунтоўным вывучэннем тэмы "Якуб Колас і Ганцаўшчына" так ніхто і не заняўся. А матэрыялы ёсць. Невялікая старонка гэтай тэмы аднаўляецца наступным артыкулам.

У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа захоўваецца шмат лістоў да паэта і ад яго. Ужо будучы народным, уганараваным, тым не менш ён не цураўся кантактаў з самымі рознымі людзьмі. Асаблівыя пачуцці Якуб Колас захаваў да люсінцаў. Шырокую вядомасць атрымала перапіска колішняга люсінскага настаўніка са сваімі вучнямі, ужо на той час пасталелымі. Аднак, як аказваецца, гэтым ліставаннем кантакты паэта і жыхароў Ганцавіцкага раёна не абмяжоўваліся. Да сённяшніх дзён захаваўся ліст студэнта трэцяга курса Ганцавіцкага педагагічнага вучылішча Сцяпана Васільевіча Макарава, датаваны 19 сакавіка 1949 г. Прозвішча немясцовага паходжання схіляе да думкі, што яго носьбіт быў чалавекам прыезджым ці, як называлі такіх на Заходняй Беларусі, "васточнікам" (з часоў "першых саветаў" 1939 – 1941 гг. існавала бінарная дыферэнцыяцыя на "заходнікаў" і "ўсходнікаў")

Мяркуючы па змесце дакумента, С. Макараў хоць і быў студэнтам, да таго часу перажыў нялёгкія гады. На яго долю выпала ваеннае ліхалецце, якое пакінула чалавека інвалідам. На якім фронце ці ў партызанах ваяваў – з ліста невядома. Аднак, беручы гэта пад увагу, можна меркаваць, што на момант напісання ліста, у сакавіку 1949 г., С. Макараву было не менш за 22-25 гадоў: калі лічыць па мінімуму, у 18 ён мог быць мабілізаваны (у 1944 г. ці няхай у апошні год вайны – 1945-ы), а да ліста, такім чынам, мінула 4 гады – атрымліваем сама мала 22 гады. Значыць, гэта быў ужо сфарміраваны дзяцюк. Вайна, аднак, не выпетрыла з яго душы памкнення да высокага – да мастацтва паэзіі. У ім самім прачнуўся творца. Спробы пяра і былі дасланыя Якубу Коласу на разгляд. На жаль, разам з лістом яны не захаваліся. Таму ў публікацыі дакумента прывядзём адно пералік назваў раздзелаў паэмы, якую пісаў тады С. Макараў (гл. копіі ліста). Думаецца, чытачам будзе цікава пазнаёміцца з пасланнем цалкам. Многія любяць зазіраць у чужыя пісьмы, але гэта не этычна. А тут – ужо гістарычны дакумент, чытаць які, вывучаць этыка не толькі не забараняе, але і заахвочвае, каб ведаць наша мінулае. Дый каму ж нецікава ведаць, што і як пісаў нейкі ганцавец самому Якубу Коласу?!

Такім чынам, ліст (стыль і арфаграфія захаваныя):

*"Добры дзень, паважаны народны пісьменнік!*

*Я студэнт 3-га класа Ганцевіцкага педагагічнага вучылішча, інвалід Айчыннай вайны, пасылаю да вас на разбор свой маленькі верш. Хачу падзяліцца сваімі думкамі з Вамі, народны пісьменнік. Якім-жа чынам стаць на літаратурную дзейнасць, каб як найбольшую карысць прынесці Радзіме. У душэ маёй неабсяжныя сілы, якія штурхаюць да*

*літаратурнай дзейнасці. Вершы жыцця плывуць з маіх вуснаў, што з імі рабіць – не ведаю сам. Дайце савет, што і як пісаць, каб стаць на грунт літаратурнай дзейнасці. Работа пісьменніка я знаю адказная, але я з гэтым спраўлюся. Толькі ўмовы на гэта трэба.*

*З г(л)убокай павагай да Вас. (Подпіс)"*
*19.03.49.*

Ліст захоўваецца ў фондах музея пад нумарам КП-16051.

Пісьмо мае і другую частку на яшчэ адным аркушы. Там сказанае наступнае:

*"Паважаны народны пісьменнік!*

*К Вам я дасылаю ўрыўкі з сваёй паэмы "Няволя і жыццё". Тэматыка гэтай паэмы наступная: паказ прыгнёту сялян Зах. Беларусі польскімі панамі. Барацьба сялян за жыццё. Вольнае жыццё пры совецкай уладзе".*

*Далей ідзе змест паэмы, дзе пералічаныя назвы яе 28 частак. Твор ахоплівае час ад знаходжання Заходняй Беларусі пад Польшчай да пасляваенных рэалій на гэтай жа тэрыторыі з апісаннем прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 г., жыцці пры "першых саветах", нямецкай акупацыі і перамогі. Напэўна, аўтар пры напісанні твора абапіраўся на асабісты досвед, што ўяўляе цікавасць сёння. Аднак урыўкаў з паэмы не выяўлена. "Калі закончу паэму прышлю цалкам да Вас, каб падзяліцца думкамі і майстэрствам, якое выплывае з душы маёй",* – завяршае паведамленне С. Макараў.

На канверце пазначана "адказана". Г. зн. карэспандэнту быў адпраўлены ліст ад імя Якуба Коласа. Варта сказаць, што паэт не заўсёды сам адпісваў: на сотні лістоў, якімі яго завальвалі, адказаць было фізічна немагчыма. Часам гэта рабіў сакратар (тады ім быў слынны літаратар Максім Лужанін). У фондах музея Якуба Коласа пошук не выявіў ліста ў адказ да С. Макарава. Апошні паэту таксама, напэўна, больш не пісаў (прынамсі ў фондах музея больш лістоў ад яго няма). Застаецца кволая надзея, што пісьмо ад народнага паэта Якуба Коласа стала сямейнай рэліквіяй у родзе Макаравых і сёння недзе зберагаецца. (Было б добра, каб дайшла да сённяшняга часу і паэма, урыўкі з якой, паводле ліста, былі дасланы для азнаямлення самому класіку.) Аўтар гэтых радкоў быў бы вельмі ўдзячны, калі б шаноўныя чытачы памаглі адшукаць той ліст. Пры наяўнасці звестак просьба звяртацца па электронным адрасе tolik1976@tut.by.

Добры дзень, паважаны
народны пісьменнік!
Я студэнт 3-га класа Ганцэ-
віцкага педагагічнага ву-
чылішча, Пінскай
вобласці, пасылаю да вас на
разбор свой маленькі верш.
Хачу падзяліцца сваімі
думкамі з Вамі, народны
пісьменнік. Якім-жа чынам
стаць на літаратурную
дзейнасць, каб як найболь-
шую карысць прынесці
Радзіме. У душы маёй
неабсяжныя сілы, якія
штурхаюць да літара-
турнай дзейнасці. Вершы
жыцця плывуць з маіх
вуснаў, што з імі рабіць —

не ведаю сам. Дайце савет,
што і як пісаць, каб стаць
на грунт літаратурнай
дзейнасці. Работа пісьмен-
ніка я знаю адказная, але
я з гэтым спраўлюся.
Толькі умовы на гэта трэ-
ба. З глыбокай павагай
да Вас [signature]
19/III-49 г.




13) Янтось арганізуе падпольную
арганізацыю „За волю".
14) Работа ў арганізацыі.
15 Паліцыя раскрывае арганізацыю.
16) Арэшт Янтося.
17) Узноў тыя муры і зноў тыя здзекі.
18) 1939 год.
19) Звароты з турмы.
20) Праца ў калгасе
21) 1941 год.
22) Жыццё ў партызанскім атрадзе.
23) Гераізм Янтося і яго ўзнагарода.
24) Шлях з Брэста да Берліна.
25) Перамога.
26) Зварот на Радзіму.
27) Вольнае жыццё.
28) Падзяка т. Сталіну за шча-
слівае жыццё
Калі акончу паэму прышлю
цалкам да Вас, каб падзяліцца
думкамі і майстэрствам, якое
выліваецца з душы маёй.

Паважаны народны пісьменнік!
К Вам я дасылаю урыўкі з
сваёй паэмы „Няволя і жыц-
цё". Тэматыка гэтай паэмы
наступная: панаванне прыгнёту
сялян Зах. Беларусі польскімі
панамі. Барацьба сялян за
жыццё. Вольнае жыццё пры
савецкай уладзе.
Змест паэмы:
1) Пралог.
2) Думкі Янтося.
3) Пан моўчкі едзе.
4) Сустрэча моўчага.
5) Падарожжа Янтося ў вёску.
6) Ахота на ваўкоў.
7) Янтось убівае моўчага.
8) Янтось у Картуз-Бярозскай турме
9) Здзек над Янтосем з боку паліцыі.
10) Зварот з турмы.
11) Набліжэнне ўласнага кавалка зямлі.
12) Узноў няволя.

**Канверт і ліст С.В. Макарава да Якуба Коласа.**

(Адбіткі з фондаў музея Якуба Коласа.)

# Гісторыя аднаго пісьма, або Як Якуб Колас аказаўся кумам царкоўнага старасты і хрышчоным бацькам паліцая

Імя Якуба Коласа не трэба лішні раз прадстаўляць беларусам. Народны паэт, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы, вялікі навуковец, значны педагог, актыўны грамадскі дзеяч… Аднак за гэтымі маштабнымі сацыяльнымі іпастасямі існаваў непасрэдны чалавек – са сваім бытам, колам самых разнастайных знаёмых і пэўнымі агульналюдскімі стасункамі. Гэтыя аспекты толькі пачынаюць вывучацца. Але ўжо цяпер можна сказаць, што яны прыносяць адкрыцці. Велічная постаць Песняра набывае новыя грані, зусім па-іншаму адкрываецца. І часам зусім нечакана! Пры гэтым не страчваючы сваёй велічнасці. А наадварот – аздабляючы яе цеплынёй і чалавечнасцю. Забранзавеласць, сфармаваная за дзесяцігоддзі даследаванняў жыцця і творчасці класіка, напаўняецца жыццём канрэтнага індывіда, асобы – як у справах грамадскіх, так і асабістых.

Такі працяглы ўступ робіцца не проста так. У дадзенай публікацыі Якуб Колас рэпрэзентуецца яшчэ з аднаго боку – напэўна незвычайнага, непрывычнага, нечаканага і, думаецца, невядомага паспалітаму чытачу, дый хіба спецыялісту, – у якасці кума, хрышчонага бацькі. Але нават не ў гэтым заключаецца нечаканасць (ці ж не мог паэт цясней парадніцца праз хрысціны з сябрамі альбо сваякамі?). Рэч у тым, што Якуб Колас стаў кумам палешукоў. Было тое яшчэ ў далёкія часы пачатку настаўніцкіх шляхоў.

Пра гэта даведваемся з ліста адной сялянкі ад 14 ліпеня 1946 г. – Людмілы Кандратаўны Лой, жыхаркі вёскі Пінкавічы Пінскага раёна[230]. Трэба сказаць, што падзейны кантэкст факта багата шырэйшы. Нягледзячы на вельмі малы аб'ём паслання, яно не толькі дадае штрыхі да партрэта Якуба Коласа як чалавека, але і раскрывае долю, пражытае жыццё і надзённае становішча палескай жанчыны – шматдзетнай маці, якая не дачакалася з вайны сына (дарэчы, Коласавага хрэсніка), якая пахавала мужа, якую савецкая ўлада без увагі на страшныя жыццёвыя цяжкасці паставіла на край магілы, не аказаўшы дапамогі, больш таго – абклаўшы непасільнымі падаткамі. Простыя, нават прымітыўныя радкі, можна смела меркаваць, немаладой, не менш як 60-гадовай кабеты пранізаны роспачным болем, ад іх чытання горлу робіцца ўдушліва. Таму ліст Людмілы Кандратаўны выглядае не як банальнае пісьмо, якіх Якуб Колас атрымліваў сотнямі, а як крык аб дапамозе, як енк жывога чалавека, няшчаснага і забітага, чалавека, які апынуўся на мяжы існавання, але працягвае верыць у цуд: “Парадце як жыць…”

Ці стаў для пінкавіцкай паляшучкі свайго роду чараўніком яе кум, які да таго часу зрабіўся ці не першай славутасцю зямлі беларускай, засталося б невядомым. Аднак нешта падказвала, што ён адгукнуўся: міласэрнасць паэта, нераўнадушнасць да чужога гора, спагадлівасць не маглі проста так закрыць вочы на чалавечую бяду і ён аказаў магчымую дапамогу сям'і, з якою па-хрысціянску парадніўся больш чым чатыры дзесягоддзі да атрымання ліста-просьбы.

---

230 Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, КП-12092.

14 ліпеня.
Прывет з Пінкавіч!

Пісько ад Лой Людмілы Кандратьеўны кумы ў якой вы хрысцілі сына Нікалая Александравіча 1905 года якога забілі на вайне. У мяне 10 дзяцей. Парадце як жыць цяпер я жыву адна жыву. Абкладаюць падаткамі. Муж памёр у 1945 г. Сыны ў арміі. Прывет ад усіх сыноў і дочак. Парадце як жыць.

З Прыветам

Людміла.


Куда гор. Мінск
(наименование места, где находится почта, и области или края, а для станций — наименование железной дороги)
(район, село или деревня)
(улица, № дома и квартиры)
Кому Міцкевічу Канстанцыну Міхавічу (Якубу Коласу)
(подробное наименование адресата)
Адрес отправителя: г. Пінск Пінковічскі с д. Пінковіцы, Лой Людміла Кондратьева

**Канверт і ліст Л.К. Лой да Якуба Коласа.**
(Адбіткі з фондаў музея Якуба Коласа.)

Чатыры дзесягоддзі! Цэлае жыццё... Пасля двух навучальных гадоў у Люсінскай школе, Канстанцін Міцкевіч быў прызначаны настаўнікам у Пінкавіцкую школу, дзе працаваў ад восені 1904 да канца 1905 г. І там, як і ў Люсіне, яго запомнілі ў найлепшым святле: "Канстанціна Міхайлавіча ў нашай вёсцы вельмі паважалі. Быў ён прыветлівы, абыходлівы, цікавіўся сялянскім жыццём і справамі", – згадваў колішні вучань Ананій Курыль[231]. Захаваліся і іншыя ўспаміны. Але ў іх асноўны акцэнт падае менавіта на сацыяльныя бакі. Да таго ж у савецкі час успаміналася не ўсё.

Мясцовы краязнаўца, публіцыст Іван Іосіфавіч Калоша ў лютым 1998 г. запісаў гістарычнае апавяданне ад жыхаркі Пінкавіч Хіхлюк Марыі (1909 – 1999), у якім закранаецца і род Лояў: "Ужо ў 1945 годзе некалькі выхадцаў з казацкага рода Бязручак і Лояў былі рэпрэсаваныя. <...> Павел Лой, якога пахрысціў Якуб Колас у 1945 годзе быў расстраляны, бо служыў у самаабароне. Таму людзі і пачалі казаць, што на гэтых казацкіх радах – пракляцце..."[232]. Так, па драбностках, устанавілі імя Коласавага хрэсніка, а таксама той факт, які са зразумелых прычын абышла ўвагай яго маці ў пісьме да паэта: духоўнага сына Якуба Коласа Паўла прыкладна ў 40-гадовым узросце пакаралі смерцю за ваеннае супрацоўніцтва з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

231 Паводле: Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 56
232 Хіхлюк М. Плачуць крывёю крыжы! (Успаміны) Рэжым доступу: http://www.bielarus.net/forums/index.php?showtopic=412. Дата доступу: 13.01.2012.



**Павел Лой – сын хрэсніка Якуба Коласа.**

Крыніца: Бартосік З. Пінкавічы: Якуб Колас у глыбіні Палесься [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/transcript/1293749.html. Дата доступу: 13.01.2012.

Ужо ў наш час (у 2008 г.) журналіст Зміцер Бартосік знайшоў сына Коласавага хрэсніка, у якога, аднак, з нейкай прычыны імя па бацьку не супадае з вышэйпрыведзенай інфармацыяй. Павел Мікалаевіч Лой, 1938 г. н., з задавальненнем прыадкрыў колькі старонак мінулага і пацвердзіў, што пісьменнік сябраваў з яго бацькам – мясцовым царкоўным старастам, сталаваўся ў ягоным доме, а пэўны час нават жыў у яго і хрысціў ягонага сына, гэта значыць, бацьку рэспандэнта: "Якуб Колас хрысьціў <бацьку>. Ён у дзеда жыў, калі тут настаўнічаў. А пасьля хрысьціў. І празь некаторы час, пасьля вайны, даслаў вучняў, каб даведацца, хто жывы застаўся". Успомніў П. Лой і пра жыццёвыя цяжкасці, звязаныя з падаткамі: "Бачыце, тады такі час быў. Усе напалоханыя. Размовы ня вельмі ішлі. Ну, бабуля казала, што ён жыў у тым пакоі, сталаваўся. Багаты быў дзед. У яго было 15 дзяцей. І прыйшлі раскулачылі. Падаткі адзін раз далі. Пасьля другі раз. Ён выплаціў. Адчуваў кепска сябе. У 46-м памёр. А мама, калісьці былі падаткі вялікія, не заплаціла падаткі. Напісала Якубу Коласу[233]. Вось такое, маўляў, становішча. Год з нас ня бралі. А пасьля аглядзеліся і спагналі па поўнай. І мы ўжо больш не зьвярталіся"[234].

Публікуемы ліст, хоць і разыходзіцца ў некаторых момантах з аповедам П. Лоя (у колькасці дзяцей і годзе смерці дзеда), тым не менш пацвярджае сямейнае паданне, заглыбляе нас у паўсядзённасць маладога, 23-гадовага паэта, якому наканавана было стаць не раўнуючы апосталам нацыі, і яшчэ раз адлюстроўвае, наколькі неисповедимы пути…

Такім чынам, цяпер мы знаем наступнае. К. Міцкевіч падчас настаўнічання ў Пінкавічах меў цёплыя стасункі з сям'ёй мясцовага шматдзетнага царкоўнага старасты. У 1905 г. пахрысціў яго сына, які падчас Другой сусветнай вайны служыў пры немцах у паліцыі і савецкай уладай быў за гэта расстраляны. Неўзабаве памёр і Лой-бацька. Паколькі на сем'і царкоўных служкаў савецкая ўлада ўскладала вялікія,

233 Заўвага. Ліст напісаны ад імя не маці рэспандэнта, а бабулі.

234 Бартосік З. Пінкавічы: Якуб Колас у глыбіні Палесься [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.svaboda.org/content/transcript/1293749.html. Дата доступу: 13.01.2012.

часта зусім непамерныя падаткі, то такой долі, відавочна, не пазбеглі і Лоі (тут мог наўпрост спрычыніцца і фактар сына-паліцая). З улікам гора, якое навалілася на маці – Людмілу Кандратаўну, яна вырашыла звярнуцца да народнага паэта Якуба Коласа па дапамогу (праўда, дыпламатычна не раскрыла ўсёй жыццёвай рэчаіснасці). І не памылілася. Якуб Колас як чалавек незвычайнай дабрыні, не спужаўшыся магчымых наступстваў сяброўства са царкоўным старастам, да таго ж “заходнікам”, дапамогу аказаў. Паэт і на той час дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, па ўсім відаць, замовіў сваё важкае слова за Лояў перад уладай, у нейкай канкрэтнай уплывовай інстанцыі. Ад падаткаў сям’я была вызвалена, але толькі на адзін год.

Тое-сёе па-ранейшаму патрабуе дадатковых даследаванняў – і праз пошук успамінаў, якія маглі перадавацца з пакалення ў пакаленне палешукамі, і праз далейшае вывучэнне дакументацыі, звязанай з жыццём Якуба Коласа. Перадусім варта верыфікаваць і наяўныя дадзеныя, бо некаторыя звесткі ў крыніцах разыходзяцца. У прыватнасці: колькасць дзяцей у сям’і Лояў, імя Коласавага хрэсніка, дый лёс духоўнага сына паэта трэ было б удакладніць, бо павінны ж застацца дакументы суда і прысуду. Цікавасць уяўляе таксама, куды і як звяртаўся паэт, каб скласці пратэкцыю Лоям. Думаецца, у ходзе пошукаў гісторыя стасункаў Якуба Коласа ў Пінкавічах пашырылася б, узбагацілася б, дадала б чарговыя штрыхі ў партрэце не толькі як літаратурнага класіка, але і ўвогуле як вялікага чалавека-гуманіста.

# Якуб Колас і Казахстан: парасткі дружбы

Казахстан – краіна сусветна вядомая багатай духоўнай культурай і зычлівасцю народа, прыгажосцю непаўторных краявідаў, якія ўвабралі ў сябе ўсю палітру зямных фарбаў.

Нягледзячы на самавітую адлегласць паміж Беларуссю і Казахстанам, вялікі Пясняр беларускага народа Якуб Колас высока цаніў традыцыі таленавітага казахскага народа. Народны паэт заўсёды быў прыхільнікам інтэрнацыянальнай дружбы, аб чым сведчыць і яго таленавітая творчасць, і прыклад шырокага грамадскага жыцця. На казахскай зямлі Якубу Коласу даводзілася бываць у цяжкую для ўсіх савецкіх людзей часіну – у перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Праз Казахстан ляжаў шлях у эвакуацыю сям'і беларускага генія. Веліччу казахскага стэпу захапляўся Якуб Колас і падчас вяртання з эвакуацыі на радзіму. Тым больш што звязанае яно было з перамогай над агульным ворагам.

Цесныя літаратурныя сувязі мастакоў слова параднілі беларусаў і казахаў. З многімі пісьменнікамі братняга Казахстана быў знаёмы і Якуб Колас. З некаторымі падтрымліваліся сяброўскія стасункі. Прыкладам такой дружбы з'яўляюцца пераклады паэмы “Сымон-музыка” і многіх вершаў на казахскую мову. Адзін з асобнікаў кніг Коласа па-казахску, якія зберагаюцца цяпер у фондах музея класіка, падпісаны ад імя слыннага казахскага паэта Х. Бекхажына.




**Аўтограф казахскага паэта Х. Бекхажына на кнізе перакладаў з Якуба Коласа “Вершы”.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

Падчас апошняй вайны на казахскай зямлі шчыравалі і беларускія акцёры, якія працавалі пад зоркай слыннага Песняра: сюды быў эвакуяваны калектыў Віцебскага абласнога драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

Пачэсную справу беларуска-казахскага сяброўства, парасткі якога ўзыходзілі з чынным удзелам годнага сына Беларусі Якуба Коласа, сёння працягвае музей беларускага літаратурнага класіка. Адно з апошніх мерапрыемстваў прайшло ў мінулым (2011) годзе. Тут адбыўся першы з шэрагу вечароў акцыі “Мы родам з СССР”. Гэта акцыя мае на мэце прапаганду сярод моладзі Беларусі нацыянальнай культурнай спадчыны краін з былых рэспублік Савецкага Саюза праз паэтычнае слова і музыку, народныя традыцыі, жывы міжкультурны абмен. Адной з абавязковых умоў выбару краін з’яўляецца непасрэдная сувязь з творчасцю народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Першым удзельнікам культурнай акцыі нездарма стала Рэспубліка Казахстан. Беларуска-казахскі вечар адбыўся пад назвай “Далі казахі мне імя Джамбул” і быў прысвечаны 165-годдзю з дня нараджэння вядомага казахскага паэта-акына Джамбула Джабаева, творчасць якога была высока ацэнена Якубам Коласам. Беларускі класік у свой час (яшчэ ў далёкім 1938 г.) напісаў і паэтычнае віншаванне акыну з нагоды 75-годдзя яго літаратурнай дзейнасці (казахскі паэт быў не толькі літаратурным, але і сапраўдным доўгажыхаром, бо пражыў 99 гадоў).

Ад снежных вяршалін Каўказа, Паміра,
Як гордасць шчаслівых аулаў,
Грыміць мнагаструнная звонкая ліра,
Сімфонія песень Джамбула. (Збор твораў у 20 т., Т. 2, 2007. С 261.)




**Тытульны ліст кнігі перакладаў вершаў Якуба Коласа “Голас зямлі” на казахскую мову розных аўтараў.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

У музеі беларускага класіка захоўваецца шмат цікавых літаратурных экспанатаў. Тут і ліст Коласа да вядомага рускага паэта і перакладчыка Сяргея Гарадзецкага, у якім пясняр дае высокую ацэнку перaклада свайго верша “Джамбулу” на рускую мову, і зборнікі паэзіі Якуба Коласа ў перакладзе на казахскую мову, і віншавальны адрас ад Саюза пісьменнікаў Казахстана з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння знакамітага беларускага паэта.

Парасткі беларуска-казахскай дружбы і літаратурных сувязей, запачаткаваныя пад чуйным крылом Якуба Коласа, у далейшымператварыліся ў шматгадовыя плённыя стасункі паміж братэрскімі народамі Беларусі і Казахстана. Лепшыя здабыткі беларускай літаратуры адкрываліся і казахскаму народу, лепшыя імёны беларускіх творцаў станавіліся знаёмымі і казахам, якія мелі магчымасць дакрануцца да творчасці Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава і многіх іншых.

І хаця ў параўнанні з савецкімі часамі беларуска-казахскія літаратурныя сувязі сталі менш інтэнсіўнымі, усё ж дзякуючы, напрыклад, такім дзеячам на ніве мастацкага слова, як Мікола Мятліцкі, Леанід Левановіч, Алесь Карлюкевіч, Зінаіда Камароўская з беларускага боку, паслу Рэспублікі Казахстан у Беларусі Анатолю Смірнову з казахскага, зносіны не патухаюць, працягваюцца і маюць пэўныя вынікі ў творчых сустрэчах, святочных мерапрыемствах, выставах, урэшце перакладах паэтычных твораў…

## Якуб Колас і Польшча: “дарагія суседзі, браты-палякі!”

*Дарагія суседзі, браты-палякі! …*
*Беларускі народ і народ польскі – спрадвечныя суседзі,*
*народы аднаго славянскага племя…*
*Якуб Колас*

За апошні час у Польшчы актывізавалася папулярызацыя жыцця і творчасці слыннага беларускага песняра Якуба Коласа. У розных польскіх гарадах па ініцыятыве музея народнага паэта было арганізавана некалькі выстаў: да прыкладу, летась (у 2011 г.) у Хэлмне рэпрэзентаваліся асабістыя рэчы класіка і мастацкая Каласіяна з фондаў музея, у сакавіку 2012 г. у Варшаве – карціны Лазара Рана пра Коласавы мясціны. У 2012 г. з нагоды 130-гадовага юбілею Песняра таксама прайшла выстава, якая прадаставіла польскім аматарам беларускай культуры яшчэ адну магчымасць судакрануцца са светам народнага паэта Беларусі. Вернісаж адбыўся ў Гданьскім Універсітэце і называўся “Зямля — аснова ўсёй Айчыне”.

Якія ж падставы для такой адносна бурнай папулярызацыі жыцця і творчасці беларускага класіка ў суседзяў? Якім чынам ён узаемазвязаны з польскай гісторыяй і духоўным светам?

Так склалася, што Якуб Колас ніколі не быў у Польшчы. Тым не менш яго сувязь з польскай культурай, з польскім народам непарыўная. Таму такое плённае міжнароднае супрацоўніцтва мае лагічныя падставы. Галоўнае, ад чаго можна адштурхоўвацца пры абгрунтаванні, гэта цесная знітаванасць беларускай і польскай культур, асабліва прыгожага пісьменства. Прычым яна сапраўды настолькі цесная, што ўвасобілася ў сімвалічнае супадзенне прозвішчаў двух вялікіх паэтаў народаў-суседзяў – Міцкевіч. Супадзенне тое, відаць, усё ж невыпадковае і мае нейкі метафізічны, сакральны сэнс.

Польскі рамантык Адам Міцкевіч нарадзіўся на літвінскай Навагарадчыне, непадалёку ад якой меней чым праз век прыйшоў на свет яго цёзка па прозвішчы – Костусь. Абодва ўзгадаваліся на адной зямлі. Але краіны ў іх былі ўжо розныя – Літва і Беларусь адпаведна. Зрэшты не так важна, бо дзяржава была адна – Расійская імперыя, якая абодвум бачылася вязніцай народаў. Сёння ж кожны з паэтаў мае сваю не толькі краіну, але і дзяржаву (дакладней, у суверэнных цяпер дзяржаў-суседак ёсць такія паэтычныя геніі).

З нядаўняга часу Мінск, у якім таксама наўрад ці бываў Адам Міцкевіч, мае шыкоўны, эстэтны яго помнік. (І не толькі Мінск, але і іншыя гарады Беларусі.) Павага да беларускага Міцкевіча на польскай зямлі таксама скора ўвасобіцца ў помнік. Хоць у Польшчы беларусы з’яўляюцца прыкметнай меншасцю: паводле статыстыкі, іх каля 40 тысяч, але польскія вучоныя (напрыклад, у недалёкім мінулым саветнік польскай амбасады ў Беларусі Мар’ян Семаковіч) прызнаюць, што насамрэч у разоў пяць болей[235]. Дый беларушчына ў нашых заходніх суседзяў апошнім часам пашырыла свае межы, выйшаўшы за рамкі традыцыйна беларускай Бе-

235 Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа. X – XXI стст. Варшава: Demart Sp. z o.o, 2006. С. 297.

ласточчыны і дапяўшы да Варшавы, дзе сёння ва ўніверсітэце функцыянуе цэлае адпаведнае аддзяленне, а непадалёку – таксама беларуская кнігарня. Таму ўслаўленне найвыбітнейшага паэта Беларусі ў польскай сталіцы праз выставы і помнік з'яўляецца хутчэй лагічным працягам абазначанай тэндэнцыі, сімвалам таго, што беларушчына на польскай ніве не проста прывілася, але і прыгожа закаласілася. Тым больш што творчасць Якуба Коласа выдатна прадстаўлена ў перакладах на польскую мову, перадусім адзначым самы славуты твор – паэму "Новая зямля", цалкам перастворaную па-польску ў 2002 г. Чэславам Сэнюхам. Да таго ж паэма ў адным з першых сваіх выданняў – у 1920-х гг. – выходзіла і на тэрыторыі Рэчы Паспалітай Польшчы – у Вільні. Больш таго, менавіта там пабачыў свет яшчэ адзін знакаміты твор – аповесць "У палескай глушы" (1923), якая толькі чатырма гадамі пазней была апублікавана ў Савецкай Беларусі. І гэта нягледзячы на тое, што тым часам Польшча з'яўлялася ці не самай варожай дзяржавай для СССР. Парадокс, на які і сёння навукоўцы не могуць даць пэўнага адказу. Сапраўды, культуры, мастацтву ніякія межы – не перашкода.

Сам жа Якуб Колас зрабіў таксама важкі ўнёсак у развіццё польскай літаратуры і культуры. Беларускі паэт вельмі любіў творчасць земляка і аднафамільца, таму не толькі рабіў пераклады яго твораў, але і не абыходзіў увагай юбілейныя даты, звязаныя з жыццём Адама Міцкевіча, – "вялікага друга народа", "добрага спадарожніка ў новым часе", "непараўнанага чарадзея мастацкага слова", "аднаго з геніяльнейшых славянскіх паэтаў", які па шырыні, па ахопу ўсеабдымнага таленту "займае адно з першых месц сярод паэтаў-геніяў": "Радасна ўсведамляць, што любоў да творчасці народа і веданне яе прывілі Міцкевічу ў маленстве простыя людзі нашай добрай Навагрудчыны, што яго музу многія гады натхнялі беларускія азёры і лясы. Тут ён упершыню пачуў ад жанчыны, якая працавала ў доме бацькоў, песню і казку, палюбіў і запомніў іх, і праз вялікі час, гартаючы зборнікі фальклору, гаварыў, што яму гэта ўсё знаёма, што мог бы аднавіць усе мелодыі, і папраўляў тэксты песень так, як ведаў іх з маленства. Тут зазнаў ён першае і, можа, адзінае каханне з усімі яго смуткамі і радасцямі. Тут ён на ўсю шырыню маладой душы палюбіў народ", – напіша ў свой час Якуб Колас. Гэтыя словы не стануць адзіным высокім водгукам пра веліч свайго аднафамільца: "Адам Міцкевіч адзін з геніяльных славянскіх паэтаў. Па ахопу ўсеабдымнага таленту, па яго шырыні Адам Міцкевіч па справядлівасці займае адно з першых месц сярод паэтаў-геніяў". Родныя Якуба Коласа, як і сам паэт, высока цанілі і любілі творчасць Марыі Канапніцкай, Генрыка Сянкевіча, у прыватнасці яго навелу "Янка-Музыкант", моцнае ўражанне стваралі творы Уладзіслава Сыракомлі.

Відавочна, беларускаму класіку заўжды была блізкая польская культура. І не дзіўна: у свой час малая радзіма паэта – Стаўбцоўшчына – уваходзіла ў склад агульнай дзяржавы Рэчы Паспалітай, а ў 1920 – 1930-я гг. – у склад адроджанай Польшчы. Дый бацька пісьменніка – Міхал Казіміравіч – валодаў мовай заходніх суседзяў. Дзякуючы заахвочванню бацькоў, з ранняга ўзросту Якуб Колас быў знаёмы з творамі розных пісьменнікаў, але асаблівай пашанай карысталася, натуральна, імя Адама Міцкевіча. На сцяне бацькоўскай хаты будучага песняра вісеў невялікі графічны партрэт як сведчанне павагі да вялікага



**Якуб Колас і У. Бранеўскі. 1955 г.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)



**Сустрэча беларускіх і польскіх пісьменнікаў. Якуб Колас у цэнтры.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

польскага паэта.

Дый у цэлым да польскага народа Якуб Колас праяўляў паважнае стаўленне: Песняр адзначаў гістарычную, культурную і ў цэлым светапоглядную агульнасць нашых народаў і зямлі, на якой спрадвеку яны жывуць. Казаў Якуб Колас і пра жыватворнасць беларускай зямлі для культуры польскай, і пра яе супольную абарону “ад тэўтонскіх драпежнікаў”, і пра “гнёт царскага самаўладства”. “Няхай жыве дружба народаў” – менавіта такім заклікам заканчвае беларускі класік артыкул, адрасаваны “братам-палякам”.

Нягледзячы на некаторыя палітычныя калізіі, якія не зрабілі б гонару ніводнаму з прэтэндэнтаў на беларускія землі, Якуб Колас неаднаразова выказваў глыбокую павагу да польскай культуры, адзначаючы кроўныя духоўныя сувязі народаў-братоў, суседзяў, якім нішто не перашкаджае плённа развівацца і ўзбагачацца. Творчыя кантакты аб’ядноўвалі Якуба Коласа і Уладзіслава Бранеўскага – вядомага прадстаўніка польскай літаратуры.

Дзякуючы Станіславу Фурманіку і Зофіі Русінскай яшчэ ў 1950-х гг. польскі чытач мог пазнаёміцца з аповесцямі Якуба Коласа “У палескай глушы” і “Дрыгва”, з паэтычнымі творамі ў зборніку “А так спявае дудка мілая” *(A tak śpiewa dudka miła)* у перакладзе Тадэвуша і Дароты Хрусцялеўскіх, Бажэны Клёг-Гагалеўскай.

І гэта толькі вяршыня з таго, што можна назваць айсбергам у пачэснай справе папулярызацыі жыцця і творчасці Якуба Коласа ў Польшчы. Аднак і акрэсленага тут дастаткова, каб зразумець, наколькі цесна ўзаемазнітаванымі сталі польская культура і беларускі Пясняр.

# Якуб Колас і Пецярбург (нарыс дачыненняў)

З даўніх часоў паўночная сталіца Расіі – Санкт-Пецярбург – з'яўляецца адным з галоўных у краіне цэнтраў культуры. Прычым не толькі рускага народа. Свае культурніцкія асяродкі тут мелі і многія іншыя народы некалі бяскрайняй Расійскай Імперыі. Ад самага зараджэння беларускага нацыянальнага руху ў XIX стагоддзі яго атожылак быў пушчаны і ў Пецярбургу. Гэты горад фактычна стаў другім па інтэнсіўнасці функцыянавання беларускай культуры пасля славутай Вільні. Паводле расійскага перапісу 1897 г. у Пецярбургу пражывала 66,5 тыс. беларусаў. Не дзіўна, што жыццёвыя шляхі многіх беларускіх дзеячаў ляжалі менавіта праз Пецярбург. І калі пра піцерскі перыяд жыцця і дзейнасці, напрыклад, Янкі Купалы шырока вядома, то на дачыненні раўнавялікага яму Якуба Коласа да расійскай культурнай сталіцы ўвага нейк звычайна не звяртаецца.

Якуб Колас прыйшоў у літаратуру і ў культуру тады, калі пецярбургская выспа беларушчыны ўбіралася ў квецень. Чаго варта толькі слынная суполка "Загляне сонца і ў наша аконца", заснаваная ў 1906 г.! Далучэнне да яе дзейнасці яшчэ аднаго выбітнага мастака, якім ужо тады паўстае Якуб Колас са старонак "Нашай нівы", яшчэ больш расквеціла беларускую культуру ў расійскай паўночнай сталіцы, куды ўпершыню будучы класік прыехаў у канцы снежня 1907 г.

Той шлях быў няпросты. Настаўнік і паэт (у такіх іпастасях тады яго ведала грамадскасць) Канстанцін Міцкевіч знаходзіўся пад следствам пасля ўдзелу ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе. У перамяшчэннях сваіх ён быў моцна абмежаваны. Тым не менш і сядзець склаўшы рукі талент не мог. Яго цягнулі шырокія дарогі ў культуры і літаратуры. Адзін з гасцінцаў цэліў у Пецярбург.

Урэшце, нягледзячы на афіцыйную забарону, разам з настаўніцай А.Г. Рамановіч Якуб Колас рашаецца на далёкае падарожжа і едзе ў Піцер[236]. Адлучка са зразумелых прычын была кароткатэрміновай – чатырохдзённай. Таму час паэт стараецца праводзіць насычана. Акрамя сустрэч з беларускімі нацыянальнымі дзеячамі, падчас якіх разглядалася перспектыва сумесных дзеянняў, К. Міцкевіч актыўна знаёміцца з горадам, наведвае славутыя мясціны, слухае оперу "Русалка" ў Народным доме…

«Праваднікам па сталіцы быў Колас. Ён падходзіў да кожнага гарадавога на варце, распытваў, як куды выйсьці і вёў пасля мяне, хвалячы гарадавых і прыношаную ім карысьць. Нас асабліва смяшылі гэтыя гутаркі з паліцыяй нелегальнага Коласа. Раз, між іншым, узялася весьці я. Ішлі мы ў народны дом, на оперу. Вадзіла я свайго спадарожніка аж да стомы, заплутаўшыся ў даўгіх і пустых "мяшчанскіх" вуліцах. Доўга не хацела здавацца: нарэшце з сорамам прызналася, што не выблытаюся. Узялі мы возьніка. Той правёў нас за вугал і стаў перад народным домам…» – успамінала потым А. Рамановіч[237].

Якуб Колас быў моцна натхнёны паездкай. Як жа інакш! Беларускае

236 Мушынскі М. І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 77.
237 Паводле: Чыгрын С. Па слядах Купалы і Коласа: літаратурна-краязнаўчыя артыкулы і вершы. Мінск: Кнігазбор, 2012. С. 49.

жыццё ў далечыні ад радзімы віравала так, што з беларускай зямлі можна было пазайздросціць. І малады К. Міцкевіч судакранаецца з гэтым жыццём, якое пакінула ў яго душы асаблівае ўражанне. Акрамя вышэйзгаданай суполкі, увагу прыцягнуў і ўзніклы паралельна ёй «Беларускі літаратурна-навуковы гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта». Гэты гурток быў створаны па прыкладу гурткоў студэнтаў іншых нацыянальнасцей (гурток украіназнаўства, «Маладыя латышы», гурток літоўскіх студэнтаў). Афіцыйна статут гуртка быў зацверджаны рэктарам універсітэта 30 снежня 1912 г. Хаця студэнты звярталіся з просьбай у рэктарат з праектам статута яшчэ ў 1906 г. Шэсць гадоў афіцыёзнае кіраўніцтва ўніверсітэта адцягвала канкрэтнае вырашэнне гэтага пытання. Але ад самага 1906 г. студэнты-беларусы вялі не толькі грамадскую работу, але і прымалі ўсе меры да арганізацыйнага аб'яднання, наладжвалі кантакты з другімі студэнцкімі арганізацыямі[238].

Аднак бесперарыўнага працягу непасрэдных стасункаў са слаўным градам Пятра ў Якуба Коласа не атрымалася. Неўзабаве, у 1908 г., К. Міцкевіча асуджаюць на тры гады турэмнага зняволення. Тым не менш яшчэ падчас той кароткатэрміновай паездкі былі закладзены асновы будучых творчых вынікаў, падрыхтавана глеба для літаратурных усходаў. Таму 1910 г. стаў ураджайным не толькі для вязня Пішчалаўскага замка ў Менску, але і для ўсёй беларускай культуры. Важкім унёскам з боку Якуба Коласа стала "Другое чытанне для дзяцей беларусаў", якое ўбачыла свет менавіта ў Пецярбургу дзякуючы старанням таварышаў па агульнай пачэснай справе, якіх пісьменнік набыў, пагасціўшы інкогніта ў Пецярбургу. Як піша ў кнізе "Беларускі Пецярбург" (2009) вядомы даследчык беларушчыны ў Расіі Мікола Нікалаеў, «суполка ("Загляне сонцэ і наша ваконцэ". – А. Т.) выдавала гэтую чытанку разам з віленскім выдавецтвам "Наша хата" тыражом 6000 экзэмпляраў. Аб'яднанне дзеля друкавання адной кнігі дапамагло сканцэнтраваць сродкі і выйсці на максімальны для беларускай кнігі тыраж»[239].

«Другое чытанне...» ўяўляе сабой хрэстаматыю для вучняў пачатковай школы. Чытанка адкрываецца невялікай прадмовай Л. Сеўрука. У прадмове проста і даходліва гаворыцца дзецям аб харастве іх роднай зямлі, аб карысці кніжкі. Чытанку склалі апавяданні, вершы, замалёўкі Я. Коласа, а таксама народныя казкі, перапрацаваныя ім. Сем раздзелаў чытанкі прысвечаны прыродзе і порам года – лету, восені, зіме, вясне, два раздзелы складаюць вершы і казкі, а найбольшы – «Родныя абразы» – паказвае малюнкі жыцця беларускай вёскі. Большасць вершаў, уключаных у чытанку, пісаліся як самастойныя творы і публікаваліся ў 1906 – 1909 гг. у «Нашай ніве», сярод іх і верш «Нёман», змешчаны ў першым нумары газеты. Гэта акалічнасць не прывяла да разнароднасці матэрыялу, бо падыходзячы да яго з педагагічнага пункту гледжання, Колас згрупаваў і размеркаваў творы так, каб дзеці ўспрымалі іх як нешта адзінае і сістэматычнае. Галоўнае, што стаіць у цэнтры чытанкі, – гэта жыццё беларускага селяніна, яго асоба – разумная і працавітая, сціплая, але прыгнечаная. Апісанні ў замалёўках

238 Семашкевіч М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – пачатак XX ст.). Мінск: Выд. БДУ, 1971. С. 59-61.
239 Нікалаеў М. Беларускі Пецярбург. Санкт-Пецярбург: Выдавецтва «Агентство "ВиТ-принт"», 2009. С. 242.

«Вясковая дарога», «Могілкі», «Палессе» вельмі каларытныя, насычаныя тымі дэталямі, якія складаюць неад’емнасць жыцця вёскі. Чытанка мае немалы і пазнавальны характар. У невялічкіх нарысах «Якую карысць прыносяць нам птушкі», «Мурашкі і іх будова», напісаных жыва і проста, з ужываннем дыялогаў, прырода паўстае не такой простай з’явай, як можа здацца на першы погляд. Чытанка пабудавана на такой кантраснасці: з аднаго боку – прыгажосць роднай прыроды, з другога – цяжкае жыццё простага чалавека. Праца Якуба Коласа ў свой час у палескай школе дапамагла яму з глыбокім веданнем псіхалогіі дзяцей напісаць адну з першых беларускіх хрэстаматый[240].

Гэта чытанка ў кантэксце айчыннай культуры стала этапнай для развіцця цэлага шэрагу дысцыплін: і літаратуры, і педагогікі, і прыродазнаўства… А горад Пецярбург вылучыўся яшчэ адной знакавай старонкай у развіцці беларушчыны.

Тым не менш і з турмы Якуб Колас наколькі магчыма сачыў за жыццём у цэлым і літаратурным працэсам у прыватнасці, не забываючы і пра пецярбургскі беларускі асяродак, дзейнасць якога ён цаніў вельмі высока, прадбачачы з улікам яго магутнага інтэлектуальнага патэнцыялу, якую вялікую карысць прынясуць тыя дзеячы ў беларускай справе. У прыватнасці паэт пісаў вышэйзгаданаму гуртку студэнтаў-беларусаў у 1911 г.: «Я не ведаю, як вітаць вас, дарагія сябры беларускага народа! Скажу толькі, што ніякая “рэформа” ўрада, хай бы самая свабоднейшая і самая шырокая, не можа зрабіць для беларускага народа таго, што можа зрабіць вашая праца на тым грунце, на які вы яе паставілі. Гэта будзе праўдзівая, жывая праца. Ваш гурток — гэта сонца Беларусі, адкуль будзе разлівацца святло ва ўсе куткі яе. Хай жа неба ваша будзе светлае і прыветнае». «Многае з гэтых спадзяванняў Коласа спраўдзілася, – піша ў сваім даследаванні “Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе” М. Семашкевіч, прыводзячы далей яскравыя прыклады. – Так, Цішка Гартны быў першым старшынёй Часовага рабоча-сялянскага ўрада БССР, Браніслаў Тарашкевіч узначаліў дзейнасць Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (1925 – 1927) у Заходняй Беларусі. Можна прыгадаць і яшчэ шмат прыкладаў, не кажучы ўжо пра вялікую дзейнасць членаў беларускіх студэнцкіх арганізацый да рэвалюцыі 1917 г. і пасля яе ў навуцы, літаратуры і культуры»[241].

Пецярбургская культурная эліта таксама не магла не звяртаць увагі на беларускі нацыянальны рух. І хаця Якуб Колас не меў у Пецярбургу такой папулярнасці, як Янка Купала (які між іншым тады працяглы час жыў у горадзе на Няве), творчасць іх абодвух знаходзілася ў полі зроку расійскіх літаратараў і ў прыватнасці была прааналізаваная прафесарам А. Пагодзіным у часопісе «Вестник Европы», які ў першым нумары 1911 г. змясціў вялікі артыкул «Белорусские поэты» з прызнаннем высокай місіі зорак першай велічыні на даляглядзе беларускага прыгожага пісьменства Якуба Коласа, Янкі Купалы і Максіма Багдановіча[242].

Пасля выхаду на волю, нягледзячы на шлейф нядобранадзейнасці,

240 Семашкевіч М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – пачатак XX ст.). Мінск: Выд. БДУ, 1971. С. 105-107.
241 Семашкевіч М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX – пачатак XX ст.). Мінск: Выд. БДУ, 1971. С. 70.
242 Нікалаеў М. Беларускі Пецярбург. Санкт-Пецярбург: Выдавецтва «Агентство “ВиТ-принт”», 2009. С. 237.

які цягнуўся за Якубам Коласам як за дысідэнтам, ён ізноў папаўняе культурную гісторыю Пецярбурга старонкамі развіцця беларускай літаратуры. 24 лютага 1913 г. паэт адправіў сваю аўтабіяграфію з Мінска ў Пецярбург (той дакумент, а таксама некаторыя лісты Якуба Коласа, якія яшчэ, напэўна, не апублікаваны, захоўваліся ў мясцовым Пушкінскім доме сярод матэрыялаў архіва С. Венгерава)[243]. Там у 1913 г. (у наступным, 2013, годзе векавы юбілей!) адна за адной выходзяць маленькімі кніжкамі, не раўнуючы брашурамі, апавяданні – "Тоўстае палена" і "Нёманаў дар" (абодва пад псеўданімам Тарас Гушча), а таксама дзве кніжкі апавяданняў вершам «Прапаў чалавек. Паслушная жонка. Грушы сапяжанкі» і «Батрак. Як Юрка збагацеў» (абедзве лацінскім правапісам і пад псеўданімам Якуб Колас). Адбылося гэта дзякуючы намаганням Антона Грыневіча – расійскага чыноўніка беларускага паходжання калежскага сакратара, які заснаваў цэлае выдавецтва («Выдавецтва Антона Грыневіча» (1910), актыўнага ўдзельніка суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца».

Не згубіла свайго значэння для беларусаў паўночная сталіца і пасля яе перайменавання ў Ленінград (пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.). Зрэшты творы Якуба Коласа паспелі ўбачыць свет у той кароткі перыяд, калі горад называўся Петраградам: іх друкавала газета "Дзянніца" – орган Беларускага нацыянальнага камісарыята, які пэўны час выдаваўся ў горадзе на Няве[244].

Не мінаў горад трох рэвалюцый і Якуб Колас. Вядома, што ў Ленінградзе восенню 1926 г. адкрыўся Беларускі дом асветы па адрасе Фантанка, 27. Верагодна, гэта падзея стала штуршком для арганізацыі паездкі ў паўночную сталіцу Расіі беларускіх пісьменнікаў – Якуба Коласа, Янкі Купалы і Цішкі Гартнага. Наведаўшы ўстанову, госці з сінявокай краіны пабывалі на Пуцілаўскім заводзе, дзе ім паказалі зборку трактараў "Фардзон-пуцілавец"[245]. Прычым тое наведванне Беларускага дома асветы Якубам Коласам не было адзіным. Дакладна вядома, што там ён бываў і напрыканцы зімы 1929 г. Гэта паездка стала больш насычанай: тэатр оперы і балета, Малы оперны тэатр, тэатр сатыры, Эрмітаж, Рускі музей, музей Рэвалюцыі, Балтыйскі караблебудаўнічы завод і інш., – такое шырокае кола ўстаноў, і культурных, і вытворчых, ахапіла ўвага дэлегацыі[246].

Адна з апошніх паездак у горад Пятра народнага паэта, на той час ужо сапраўды класіка, зафіксавана ў 1947 г. У жніўні туды была накіравана дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў (П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, П. Пестрак, М. Лужанін і інш.). Узначаліў яе сапраўдны гуру мастацкага слова – Якуб Колас. Сустрэчы, выступленні, водгукі… З пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі, працоўнымі… І гэта кожны з шасці дзён знаходжання ў Ленінградзе і нават у яго ваколіцах (беларуская дэлегацыя

243 Скалабан В. «…Самые верные ценители и критики». Неизвестные письма Якуба Коласа // Неман, 1988, № 1. С. 165; Скалабан В. Купала и Хлебцевич // Неман, 1985, № 3. С. 141.
244 Нікалаеў М. Беларускі Пецярбург. Санкт-Пецярбург: Выдавецтва «Агентство "ВиТ-принт"», 2009. С. 260.
245 Там жа.
246 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 192; Полымя, 1929, № 3. С. 173.



**Група беларускіх пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў – членаў Інстытута беларускай культуры ў Доме культуры на Фантанцы: у 1–м радзе – М. Азбукін, В. Чаржынскі; у 2–м радзе – Ч. Родзевіч, Міхальскі, С. Некрашэвіч, Янка Купала, Якуб Колас; у 3–м радзе – А. Круталевіч, М. Гуткоўскі, М. Грамыка. г. Ленінград. 1926 г.**

Крыніца: Супрацоўніцтва Янкі Купалы з дзеячамі літаратуры і мастацтва // http://archives.gov.by/index.php?id=916257

пабывала на дачы А. Пракоф’ева на Карэльскім перашыйку). Як потым адзначыць ва ўспамінах П. Кавалёў, “вечары беларускай літаратуры праходзілі вельмі цёпла, сардэчна”[247].

Так, выступаючы ў Доме пісьменніка імя Маякоўскага на вечары сустрэчы з ленінградцамі, Якуб Колас робіць агляд беларускай літаратуры на сучасным этапе, ацэньвае лепшыя творы апошняга часу. Асобна адзначае дружбу беларускай і рускай літаратур:

“Наша беларуская літаратура нарадзілася, расла і мацнела ў самым шчыльным яднанні і пры падтрымцы вялікай рускай літаратуры. Мне хочацца адзначыць і гістарычную сувязь беларускай літаратуры не толькі з сучасным, але і мінулым Ленінграда. Многія беларускія пісьменнікі тут навучаліся, чэрпалі свае сілы, імкнуліся сэрцам да яго.

У справе азнаямлення рускага чытача з творамі беларускай літаратуры я хачу асабліва адзначыць вялікую працу, якую прарабілі ленінградскія пісьменнікі. Іх пераклады твораў беларускай паэзіі і прозы – вялікі ўклад

247 Кавалёў П. Вялікі паэт і чалавек вялікі // Жыццё для народа. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Якуба Коласа. Мінск: Выдавецтва Акадэміі навук БССР, 1962. С. 116.



**Група беларускіх пісьменнікаў (Якуб Колас – у цэнтры, Янка Купала, Ц. Гартны, М. Зарэцкі і інш.) у Беларускім доме асветы. 1929.**

Крыніца: Беларуская думка // 2010, №1. С. 90. (http://www.google.by/url?sa=t&rct=j&q=&esrc=s&source=web&cd=1&ved=0CE8QFjAA&url=http%3A%2F%2Fbeldumka.belta.by%2Fisfiles%2F000167_109761.pdf&ei=QjjnT8CEEI_esgbs2Jj0AQ&usg=AFQjCNFPuMiW57nv64qR6bQ9_K1gpld-GA)



**Наведванне Петрапаўлаўскай крэпасці–турмы. Якуб Колас у цэнтры. 1947.**
(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

у скарбніцу савецкай літаратуры”[248].

Пасля вяртання дамоў беларускі пясняр запісаў у дзённіку: “Самыя лепшыя ўражанні засталіся ад гэтай паездкі… Дзённік не адлюструе, а памяць поўна ўспамінамі аб цудоўным горадзе Пятра”[249].

Сёння сведчаннем прысутнасці Якуба Коласа ў паўночнай сталіцы з’яўляюцца некаторыя экспанаты ў мінскім музеі класіка. У прыватнасці – унікальны пісьмовы прыбор, зроблены па заказу калег-пісьменнікаў у Ленінградзе ў 1947 г.: чарнільніцы і падстаўка для алоўкаў выкананы ў выглядзе дубовых пянёчкаў, як памяць пра самае любімае дрэва пісьменніка.

Па інтэнсіўнасці творчых і жыццёвых узаемасувязей Якуба Коласа з Пецярбургам гэты горад наўрад ці займае першае месца. Аднак і пераацаніць ролю гэтага культурнага цэнтра для творчага станаўлення будучага беларускага народнага паэта, значэнне горада ў кантэксце дзейнасці нашага песняра таксама немагчыма, як і немагчыма вырваць з пецярбургскага культурна-гістарычнага дыскурсу велічную асобу беларускага класіка.

248 Мушынскі М.І. Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці. Мінск: Маст. літ., 1982. С. 425-426.

249 Колас Я. Збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 14. Пісьмы 1950 – 1956 гг. Дзённікі. Летапіс жыцця і творчасці. Алфавітны даведнік твораў да 1 – 12 тамоў. Паказчык імён да 11 – 14 тамоў. Даведнік па адрасатах да 13 – 14 тамоў. Мінск: “Маст. літ.”, 1978. С. 316.

# Як помняць Коласа ў Ганцавічах (дыпціх)

## І. Вас падманулі: Якуб Колас на Ганцаўшчыне не настаўнічаў!

У другой палове XX стагоддзя склалася традыцыя пісаць пра тое, што будучы народны паэт настаўнічаў на Ганцаўшчыне. З гэтай прычыны ў райцэнтры нядаўна Песняра ўганаравалі бюстам. Насамрэч Якуб Колас на Ганцаўшчыне не настаўнічаў. І самае галоўнае, што ён успрымаў Ганцавічы адчужана, не лічыў іх мястэчкам, з якім звязана яго доля! Хто ж найбольш заслужыў на ўстанаўленне помніка ў Ганцавічах?!

4 верасня 2011 г. краіна адзначыла Дзень беларускага пісьменства. Гэтым разам настала чарга невялічкага мястэчка Ганцавічы. Выдатна, што дзяржаўнае кіраўніцтва трымае ў полі зроку не толькі сталіцу і найбольшыя гарады, але і глухую правінцыю, якой з'яўляецца Ганцавіцкі раён. Многія мясціны ў раёне ў XX ст. сталі літаратурнымі – адзначаны нараджэннем адораных Боскім талентам майстроў слова. Перадусім варта выдзеліць Івана Кірэйчыка, Міхася Рудкоўскага, Уладзіміра Марука, Алеся Каско, Віктара Гардзея, Алеся Кажадуба. Стала на паэтычнае крыло і яшчэ добрая плеяда ўлюбёных у мастацкую словатворчасць. Менавіта яны праславілі і надалей праслаўляюць Ганцавіцкі раён. Менавіта ім абавязаны горад гонарам стаць сталіцай маштабнага рэспубліканскага свята.

Адным з канцэптуальных момантаў святочнага дзейства стала адкрыццё помніка вялікаму беларускаму паэту Якубу Коласу. Бюст з выявай маладога Канстанціна Міцкевіча ўстаноўлены ў канцы Алеі пісьменства невялікага ўтульнага гарадка. Логіка ў выбары стварэння памятнай мясціны нібыта абсалютная: Якуб Колас у дваццацігадовым узросце пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі прыехаў настаўнічаць у вёску Люсіна, якая сёння ўваходзіць у склад Ганцавіцкага раёна. У другой палове XX ст. склалася традыцыя пісаць пра тое, што будучы народны паэт настаўнічаў на Ганцаўшчыне. Аўтары артыкулаў – ад раённых газет да навуковых зборнікаў – не задумваючыся ставілі побач псеўданім паэта і назву рэгіёна, таму публікацыі часта так і называліся – "Якуб Колас і Ганцаўшчына". Іх паток не заканчваецца і сёння.

Аднак напаверку логіка аказваецца падманнай, створанай шляхам падмены паняццяў. У выніку выяўляецца непісьменнасць падыходу да справы ўвекавечання памяці выбітных дзеячаў айчыннай культуры і літаратуры. Фармалізм, адсутнасць мінімуму ўдумлівасці, хоць бы нейкай аналітычнай глыбіні, а самае галоўнае – ведання творчасці Якуба Коласа, – вось якія рысы характарызуюць падыход да справы ўстанаўлення помніка вялікаму Песняру ў Ганцавічах. Асноўныя аргументы наступныя.

1. Ганцаўшчына як рэгіён склалася штучна і зусім нядаўна – у сярэдзіне XX ст. Але самае галоўнае – працяглае існаванне ў часе гэтага геаграфічнага паняцця малаверагоднае і гістарычнымі меркамі вымяраць яго няма падстаў.

2. Сам Якуб Колас падчас працы ў Люсіне лічыў, што ён жыве і працуе на Піншчыне.

3. Горад Ганцавічы і Ганцаўшчына маюць сапраўды свайго вялікага

пісьменніка і дзеяча культуры.

Але пра ўсё па парадку.

Да Другой сусветнай вайны такога геаграфічнага паняцця, як Ганцаўшчына, не было. Чыгуначная станцыя Ганцавічы, якая дала імпульс развіццю аднайменнага мястэчка, у часы настаўнічання Якуба Колас (1902 – 1904 гг.) размяшчалася на тэрыторыі Круговіцкай воласці Слуцкага павета. Статус раённага цэнтра Ганцавічы атрымліваюць толькі ў 1940 г. пасля ўключэння Заходняй Беларусі ў склад БССР. У перыяд нямецкай акупацыі мястэчка зрабілі ўвогуле абласной сталіцай. Тыя часы сталі паваротнымі для фарміравання паняцця Ганцаўшчына. Аднак рэгіён пад такой назвай і з такой лакалізацыяй не мае трывалых гістарычных і культурных традыцый. У межах Ганцавіцкага раёна сабраны розныя кавалкі тэрыторыі з пункту гледжання іх культуры. Асабліва выразнае адрозненне бачыцца паміж паўднёвай часткай раёна, якая належыць да палескай субкультуры, і паўночнай, якая гістарычна ўваходзіць у сярэднебеларускую субкультурную паласу. Каб гэта праверыць самому, варта звярнуць увагу, наколькі адрозніваюцца гаворкі жыхароў вёсак: дыялекты ад Любашава да Чудзіна маюць падабенства з літаратурнай беларускай мовай – у адрозненне ад выразна палескіх Раздзялавічаў, Макава, Ліпска… Нават не знаёмаму з дыялекталогіяй чалавеку лёгка вызначыць, да якой часткі раёна належыць той ці іншы жыхар. Прычым гэта размежаванне датычыцца не толькі культурнага, але і гаспадарча-эканамічнага аспекту, а таксама (не на пустым жа месцы тое размежаванне ўзнікла!) прыроднага. Як інфармуе артыкул Вікіпедыі, паўночная частка Ганцавіцкага раёна адносіцца да Баранавіцка-Ганцавіцкага аграклiматычнага раёна, паўднёвая — да Пінскага. Тое ж і адносна глебаў, частка якіх – паўночная ўскраіна – адносіцца да Гродзенска-Ваўкавыска-Слонімскага аграглебавага падраёна (у адрозненне ад большай па велічыні паўднёвай часткі раёна, глебы якой тоесныя з пінскімі і лунінецкімі). Застаецца адкрытым пытанне, наколькі працяглым па часе акажацца існаванне такога рэгіёна, як Ганцаўшчына.

Вяртаючыся да тэмы Якуба Коласа, трэба сказаць, што паэт пра гэты падзел ведаў, канкрэтна яго ўсведамляў. Выразна гэта прасочваецца якраз па аповесці “У палескай глушы”, дзейства у якой многія лакалізуюць на так званай Ганцаўшчыне. Паводле слоў самога аўтара, ён і з’яўляецца прататыпам галоўнага героя Андрэя Лабановіча: “Лабановіч – мой двайнік. Выдуманага ў яго паводзінах і характары нічога няма” (Збор твораў у 14 т., Мінск, 1978, Т. 14. С. 73). Значыць, думкі Якуба Коласа і яго літаратурнага персанажа цалкам тоесныя, супадаюць.

Малады цельшынскі настаўнік вырашыў праведаць свайго старэйшага таварыша і калегу Максіма Турсевіча, які працаваў перад прыходам Лабановіча ў цельшынскай школцы, а затым перавёўся ў Любашава (вёска побач з Ганцавічамі). Варта заўважыць, што гэты выпадак меў месца ў рэчаіснасці. Галоўнае – тое, што абодва выдатна ведалі мясцовасць – як цельшынскае наваколле, так і любашаўскае. Як жа яны суадносілі тыя мікрарэгіёны? Цытуем нарэшце (курсіў наш. – А. Т.):

“Лабановіч слухаў сябра, згаджаўся з ім, як бы Турсевіч выказваў яго ўласныя думкі. Разам з гэтым і нейкае засмучэнне закрадалася яму ў душу.



**Якуб Колас у Люсінскай школе. Мастак Валяр’яна Жолтак.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)

– Ведаеш, брат, – сказаў ён. – Вельмі добра хоць зрэдку сустракацца з жывым чалавекам, пагаманіць, адвесці душу. А то *жывеш у глушы, дзе жывога слова не пачуеш,* жывеш адзін. <...> І вось цяпер, калі *я крыху адышоўся ад свайго Цельшына і зірнуў на яго збоку,* то гэта глуш, што цікавіла мяне спярша, пачынае здавацца варожаю і наводзіць на мяне нейкае засмучэнне, як бы я ў ёй або яна ва мне чуем непрыяцеля. Чым болей жыву там, тым больш пачуваю, што затрымацца там на доўгі час у мяне не хопіць сіл.

<...>

Турсевіч, залажыўшы за спіну рукі, хадзіў ад сцяны да сцяны і таксама аб чымсьці думаў.

– Так, брат, там цяжка. *Па сабе ведаю, якая там глуш,* – прамовіў Турсевіч. – *Вось ты вазьмі: якія-небудзь дваццаць вёрст раздзяляе нашы месцы, а якая розніца! Тут зусім іншае: не той выгляд прыроды.* Мы заўтра пройдземся, паглядзім... *Ніяк, брат, няможна раўняць Случчыны з Піншчынаю. І дзеці ў школе не тыя. У іх больш сардэчнасці, больш, ведаеш, гэтай чалавечнасці, а твае палешукі – проста звяркі.*

<...>

Сябры моўчкі ішлі з могілак. Відаць было, што кожнага паасобку займалі свае думкі. Лабановіч чуў нейкае засмучэнне і неспакой. Яго штосьці не здавальняла і кудысь цягнула. Магла быць тут прычынаю і тая акалічнасць, што, як яму здавалася, Турсевіч лепей вёў сваю школьную

працу, і наогул яго школа рабіла ўражанне больш паспяховай школы. А можа, таксама мела значэнне іх скорая разлука, бо цяпер яны ішлі *на станцыю, адкуль ён мусіць паехаць у сваю глуш".* (Збор твораў у 14 т., Мінск, 2011, Т. 13, с. 78-79, 84-85.)

Такім чынам, Якуб Колас выразна аддзяляе Ганцавічы – якой-ніякой цывілізацыі ад Люсіна – відавочнай палескай глушы. Дарэчы, падчас настаўнічання К. Міцкевіча ў Люсіне яшчэ Якуба Коласа (бадай, усім вядома, што гэта творчы псеўданім пісьменніка) не было, бо не было такога псеўданіма, як зрэшты і іншых, таму што малады талент толькі спрабаваў сваё пяро. Ну не мог у саменькім пачатку XX ст. той, каго яшчэ няма (Якуб Колас), быць у тым месцы, якога таксама яшчэ няма – на Ганцаўшчыне! Ненавуковая фантастыка!

Рэзюмуючы, сцвердзім: Якуб Колас на Ганцаўшчыне не настаўнічаў. І самае галоўнае, што ён успрымаў Ганцавічы адчужана, не лічыў іх мястэчкам, з якім звязана яго доля! І ўвогуле меркаваў, што люсінская і ганцаўская землі належаць да прынцыпова розных, адметных рэгіёнаў. Якуб Колас звязваў свой лёс з Піншчынай, любіў яе, прысвяціў ёй шмат вершаваных і празаічных радкоў. Канешне, вялікі Пясняр ушанаваны там – у Пінску і Пінкавічах. Але, як ні дзіўна, помніка ці хоць бы бюста ў тых мясцінах… няма!

Крытыкуючы – прапануй, кажуць разумныя людзі. Задумаемся над тым, ці ёсць творчая асоба, якая б уклала ўвесь свой патэнцыял у Ганцаўшчыну? Менавіта і толькі ў гэты рэгіён – такім, якім яго стварылі ў чыноўніцкіх кабінетах? Аказваецца, ёсць! Гэта – Васіль Праскураў. Нават банальная біяграфічная даведка засведчыць, што ўраджэнец Віцебскай вобласці не стаў чужынцам для Ганцавіч, палюбіў раён і людзей, якія сталі ні больш ні менш землякамі. Коратка пройдземся па старонках яго жыццядзейнасці:

Праскураў Васіль, нарадзіўся 25.08.1926 г. у вёсцы Негаціна Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны скончыў Сваташыцкую няпоўную сярэднюю школу. У 1945 г. прызваны ў Савецкую Армію. Да 1950 г. служыў карэспандэнтам армейскай газеты «За честь Родины» ў Аўстрыі, Венгрыі і Германіі. У 1950 – 1958 гг. – старшыня Ганцавіцкага райспажыўсаюза, экстэрнам скончыў Брэсцкую гандлёва-кааператыўную школу. У 1963 г. завочна скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1958 – 1962 гг. – супрацоўнік ганцавіцкай раённай газеты «Савецкае Палессе», у 1962 – 1966 гг. працаваў у ляхавіцкай раённай газеце «Будаўнік камунізму», з 1966 г. – рэдактар газеты «Савецкае Палессе».

Першы літаратурна-крытычны артыкул апублікаваў у 1950 г. Аўтар кніг публіцыстыкі "Святая сівізна" (1966), "Трое з-за Лані" (1967), "Людзі-суседзі" (1974), "Пакажы чалавеку дарогу" (1979), "Пакланіся зямлі-карміцельцы" (1982), "Чорны хлеб" (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя П.М. Лепяшынскага (1986) за кнігу "Пакланіся зямлі-карміцельцы". Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1968). Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1987 г. Узнагароджаны медалямі.

Памёр 22.05.1987 г.

Аднак даведка не адлюстроўвае, якое багацце душы В. Праскураў уклаў у Ганцаўшчыну і яе жыхароў! Пра зямлю, пра яе працаўнікоў



**Васіль Праскураў – ганцаўскі літаратар, журналіст, настаўнік.**

Крыніца: http://www.gants-region.info/publ/viktor_gordej/pjasnjar_paleskaga_kraju/8-1-0-176

журналіст шэраговай “раёнкі” пісаў з любоўю, гранічнай да шчымлівасці, пісаў паэтычна, узнёсла. Каб пераканацца ў гэтым, варта прачытаць яго кнігі, якія сталі ўзорнымі для славеснікаў любой прафесіі па ўсёй беларускай краіне. Тэматыка яго нарысаў на сёння, магчыма, страчвае актуальнасць, але закладзеная ў іх чалавечнасць – велічыня пастаянная, свайго роду маральная, духоўная канстанта.

Больш таго, яркая плеяда паэтаў – ураджэнцаў Ганцавіцкага раёна, са згадкі якой мы пачалі разважанні, узгадавана менавіта пад чуйным пісьменніцкім крылом В. Праскурава. Свайго рэдактара яны лічылі гуру. Дый у народным асяродку маладых, няўрымслівых супрацоўнікаў рэдакцыі клікалі не інакш, як “праскураўцамі”. Толькі, як порсткія птушкі, пасталеўшы, яны пакінулі роднае гняздо. А Настаўнік застаўся, чым фактычна дабраславіў Ганцаўшчыну. У тым, што Дзень беларускага пісьменства праводзіўся ў Ганцавічах (2011 г.), вялікая, першасная заслуга В. Праскурава, творчыя інтэнцыі якога, такім чынам, жывуць і квітнеюць!

Але… няма прарока ў сваёй Айчыне. Сёння, бадай, толькі вуліца ў Ганцавічах і раённая бібліятэка носяць імя чалавека, які больш чым хто іншы аддаў Ганцаўшчыне, паклаў жыццё на яе алтар. І калі спытаць у мясцовых жыхароў, хто ж такі Васіль Праскураў, у лепшым выпадку (нават ад некаторых філолагаў) пачуеце агульны адказ: пісьменнік. Хоць гэты дзеяч заслужыў самага высокага ўганаравання. Перш за ўсё – у Ганцавічах.

Не прыніжаючы аніяк Якуба Коласа, усё ж трэба мець на ўвазе,

што народнага паэта ведае ці не кожны грамадзянін Беларусі. А імя Васіля Праскурава, на жаль, пакрысе адыходзіць у цень насычанага літаратурнага працэсу і імклівага сацыяльнага развіцця. Адчуваючы гэта, імкнучыся аддаць даніну павагі свайму старэйшаму сябру, калегу па газеце і настаўніку Віктар Гардзей у нарысе “Пясняр Палескага краю” з цеплынёй прыгадвае: «сапраўды, нягледзячы на тое, што ў Ганцавічах Васіль Фёдаравіч жыў і працаваў амаль усе пасляваенныя гады, мала знойдзецца людзей, якія б ведалі што-небудзь істотнае з біяграфіі пісьменніка. Пра сябе ён гаварыў рэдка, а калі згадваў далёкае юнацтва, то часта расказваў пра даўнія сустрэчы з Якубам Коласам, Янкам Купалам, Аляксеем Сурковым. <…> Напэўна, усё з-за той жа прыроднай сціпласці ён пры жыцці так і не надрукаваў ніякіх аўтабіяграфічных звестак» (крыніца: http://www.gants-region.info/publ/viktor_gordej/pjasnjar_paleskaga_kraju/8-1-0-176).

Бюст Якубу Коласу ўстаноўлены. І цяпер пераносіць яго не варта. Тым больш што і сёння жыхары розных вёсак Ганцавіцкага раёна і самога горада любяць і шануюць Песняра. Але справай гонару застаецца ўстанаўленне на Алеі пісьменства яшчэ аднаго помнічка – Васілю Праскураву, які жыў на Ганцаўшчыне, еў *чорны хлеб* яе долі, любіў і шанаваў там *людзей-суседзей, пакланяўся зямлі-карміцельцы,* сваім прыкладам *паказваючы кожнаму чалавеку дарогу*. Дарогу да чалавечнасці.

Апытанне (праведзена аўтарам гэтых радкоў летам – восенню 2011 г.).

**1. Як Вы ставіцеся да ўстанаўлення помніка Якубу Коласу ў Ганцавічах?**

**2. Каго з пісьменнікаў, па Вашым меркаванні, варта ўшанаваць у Ганцавічах помнікам ці бюстам?**

**Віктар Гардзей, пісьменнік.** Нарадзіўся 19 жніўня 1946 г. у в. Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Пасля заканчэння Круговіцкай сярэдняй школы працаваў у калгасе. Быў карэспандэнтам Ляхавіцкай, затым з 1966 г. Ганцавіцкай раённай газеты. З 1980 г. жыве ў Мінску.

1. Якуб Колас быў у Ганцавічах, калі прыязджаў да сябра-калегі Фурсевіча (прататып Турсевіча. – А. Т.). Пра гэта расказваецца ў аповесці “У палескай глушы”. Там апісаны высокія, цяністыя прысады, якія я меў шчасце застаць. З гэтай прычыны фармальная зачэпка для ўстанаўлення помнічка Якубу Коласу ў Ганцавічах ёсць. Але хутчэй за ўсё гэта задума мясцовага начальства. Трэба сказаць, што сын Коласа, Міхась Канстанцінавіч (а я з ім гутарыў) усцешаны, што помнік гэты будзе.

2. Лічу, што заслужвае помніка Міхась Рудкоўскі. Ён першы паэт з Ганцавіцкага раёна такой велічыні. Яго вершы не старэюць. І радкі пра Ганцавічы па-мастацку моцныя! Прыйдзе час, усё роўна давядзецца Рудкоўскаму ставіць помнік у Ганцавічах.

**Алесь Каско, пісьменнік, журналіст.** Нарадзіўся ў 1951 г. у в. Чудзін. У 1968 г. паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна. Служыў у Савецкай Арміі, затым працаваў у роднай вёсцы і працягваў вучобу завочна. У 1974 г. перавёўся на стацыянарнае аддзяленне

(скончыў у 1976-м). Працаваў карэспандэнтам Жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда». З 1984 г. — рэдактар на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання, адказны сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Цяпер жыве і працуе ў г. Жабінка.

1. Яшчэ не бачыў алеі, дзе ўстанаўліваецца помнік (пытанне задавалася напярэдадні свята. – А. Т.). Не ведаю, наколькі яна вялікая. Мо там і 8-9 помнічкаў змясцілася б. Добра было б бачыць там і Купалу, і Багдановіча. Я паставіў бы кампазіцыю Лабановічу і Ядвісі. Увогуле ўстаноўку помніка лічу справай вартай.

2. Многія з тых, хто заслужыў ужо увекавечаныя. Імя Віктара Гардзея носіць вуліца. Праскурава – вуліца і бібліятэка. Рудкоўскага – школа, да таго ж ёсць і яго музей. Сержпутоўскага пры яго значэнні, можа, малавата яшчэ ўшанавалі, але ёсць вуліца, куток у школьным музеі (Чудзінскай школы), памятны знак на месцы хутара Сержпутоўшчына.

**Анатоль Кудласевіч, пісьменнік, бард.** Нарадзіўся ў 1961 г. у в. Таўмачава Столінскага раёна. Дзяцінства і школьныя гады прайшлі ў в. Люсіна Ганцавіцкага раёна. Жыве ў Мінску.

1. Логіка ва ўстанаўленні помніка Якубу Коласу ў Ганцавічах ёсць: па адміністрацыйным дзяленні Люсіна, дзе ў пачатку XX стагоддзя настаўнічаў малады паэт, увайшло ў раён з цэнтрам у Ганцавічах. Падцягнута хіба пад сённяшні час, бо тады такога дзялення не было. А логіку можна знайсці ўсякую. І дзякуй Богу, хай будзе помнік!

2. Адзначыў бы В. Праскурава. Гэта адзін з самых салідных літаратараў, якія жылі ў Ганцавічах. Хачу сказаць, што варта ўшаноўваць і жывых. Добры прыклад – вуліца Віктара Гардзея. Чым больш помнікаў, тым больш памяці.

Спадарыні пенсійнага веку (з выпадкова падслуханай размовы ля помніка):

- Ніпахожы. Я сама ліцературу пішу. То разьбіраюся. Знаю. Колас тут на сябе зусім ніпахожы.
- Так художнікі яго атразілі. Зрабілі пісацяля зусім маладым. Такім, якім ён быў, як прыехаў на Палесся. Ну, тады, як вучыцялям рабіў у Люсіні.
- Добра, хай так. Аля я як ліцяратар (!!! – А. Т.) ні магу ў таком случаі сагласіцца з подпісью да памятніка. Нашто было пісаць “Якуб Колас”? Ён яшчэ ні быў знамяніты. Трэба было напісаць проста “Іван Дамінікавіч Луцэвіч”. Да! Іван Дамінікавіч Луцэвіч!

## II. Помнік Якубу Коласу ў Ганцавічах: да гісторыі аднаго канфузу




**Помнік Якубу Коласу, адкрыты 4 верасня 2011 г. у Ганцавічах.**

(Фота Віталя Герасімені.)

У райцэнтры Ганцавічы на Дзень беларускага пісьменства (2011 г.) Якуба Коласа ўганаравалі бюстам. Помнікі – справа добрая. Але ў гэтым выпадку вынікі ўшанавання больш падобны да насмешкі з асобы Песняра, з беларускай літаратуры і ўсёй айчыннай культуры. Прычым у гэтым прызнаюцца самі аўтары скульптуры.

Па шчырасці, калі б не настойлівыя прызнанні Паўла Герасіменкі і Алесі Грушчанковай, – тых, хто рабіў бюст, – іх адносіны да работы дзяржаўнага значэння засталіся б па-за ўвагай. Хоць аўтарам удалося “развесці” не толькі масы, але і прафесійных журналістаў – філолагаў, знаўцаў, якія павінны жыццёвы шлях хаця б класікаў ведаць. Вось што піша «Знамя юности» (9-15 верасня, 2011, С. 11): «Мы привыкли видеть Якуба Коласа пожилым и суровым – задумчиво подпершим голову рукою, как на монументе в центре столицы, или сосредоточенно глядящим в даль, как на бюсте, установленном на исторической родине песняра под Столбцами. Поэтому, когда на прошлых выходных в Ганцевичах открыли новый памятник автору “Новай зямлі” и “Сымона-музыкі”, многие вначале даже засомневались: а действительно ли этот худой, вихрастый парень, прячущий в усах застенчивую улыбку, – это и есть тот самый классик? А ведь именно так Якуб Колас выглядел в свои неполные двадцать, когда после окончания Несвижской семинарии приехал учительствовать в одну из сельских школ Ганцевичского района». Каб не рыцца ў газетных стосах, прывядзём толькі яшчэ вытрымку з цэнтральнага выдання: «Семейная пара скульпторов, Павел Герасименко и Алеся Гру-

щенкова, воплотили в бронзе непривычный образ песняра — молодого Михася Мицкевича, каким он был после окончания Несвижской учительской семинарии», – піша таксама Людміла Рублеўская – добры літаратар і, як думалася, журналіст. Ды дзе піша?! У галоўнай газеце краіны: Советская Белоруссия // http://pda.sb.by/post/124841/. Мала таго, што Людміла Іванаўна лічыць устаноўлены бюст выявай маладога паэта на час пасля заканчэння семінарыі, дык і сама памыляецца ў імені класіка, называючы яго Міхасём (як малодшага Коласавага сына), а не Канстанцінам (відавочна, гэта не ад няведання, а таму, што так механічна напісалася, тым не менш напісалася ўдала, бо сапраўды маем “непривычный образ песняра”).

На якія ж словы аўтараў “павяліся” “акулы пяра”? Адказ на гэта пытанне можна вывесці з аналагічнага артыкула “Брестской газеты”: «Как рассказали “БГ” создатели памятника Павел Герасименко и Олеся Грущенкова, инициатива запечатлеть в бронзе и граните именно молодого Якуба Коласа пришла от администрации Ганцевичского райисполкома. Брестские творцы оценили оригинальность концепции и взялись за работу. “Идея нам понравилась. Колас – фигура узнаваемая. Он как Ленин – повсюду. А вот молодого еще нигде нет. Плюс к тому Колас был молодым, когда работал на Ганцевщине”, – пояснил “БГ” Павел Герасименко». Брэсцкія творцы ацанілі арыгінальнасць канцэпцыі помніка, якую прыдумала адміністрацыя Ганцавіцкага райвыканкама. А брэсцкія кіраўнікі неўзабаве таксама ацанілі дзейнасць старшыні гэтага выканкама: звольнілі за кепскія паказчыкі развіцця раёна. Дый супастаўленне Якуба Коласа і Леніна няўдалае: на жаль, помнікаў народнаму паэту непараўнальна менш, чым «правадыру пралетарыяту», якога можна сустрэць на пастаменце ці не ў кожным райцэнтры (чаго не скажаш пра літаратуранага класіка).

Далей пачынаецца самае цікавае: «Олеся Грущенкова добавила, что во время работы ориентировались на создание образа романтика-революционера: “Мы в Интернете нашли снимки Коласа разных годов и попытались создать собирательный портрет”» (крыніца: Брестская газета // http://b-g.by/ru/36_2011/culture/10011/).

Пошук матэрыялаў для нібыта творчай работы, абмежаваны сусветным сецівам, нагадвае стварэнне вучнёўскіх рэфератаў. Коласазнаўцы засталіся па-за ўвагай скульптараў (так і хочацца тут назву прафесіі ўзяць у двухкоссе). Музей класіка з багатымі фондамі для сямейнай парачкі хіба таксама не існаваў. А самае галоўнае: не быў далучаны да справы сын вялікага беларускага паэта – Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч, які нягледзячы на сярэдзіну свайго дзявятага дзясятка, з’яўляецца актыўным папулярызатарам творчасці славутага бацькі, – вось хто стаў бы самым лепшым кансультантам для аўтараў скульптуры. Зрэшты, пра яго нават на свяце пісьменства запамяталі, а можа, проста, з прычыны слабай пісьменнасці чыноўнікі не ведалі, што ёсць такі (у тое, што свядома не далучылі афіцыйна да святкавання, не верыцца – занадта цынічна было б).

Аўтары вырашылі ісці па шляху найменшага супраціву – вучнёскім шляхам, быццам бы пісалі рэферат на заўтрашні ўрок, скарыстаўшыся сістэмай Google. І што ў выніку атрымалася? На бюсце паўстаў зусім не той чалавек, які настаўнічаў у Люсіне. «У глуш Палесся» будучы класік беларускай літаратуры прыехаў безбародым юнаком, з пушком над верх-




**Якуб Колас напрыканцы навучання ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, незадоўга да ад'езду на першае месца працы ў Люсіна.**

Крыніца: http://mahilou.org/2011/08/18/jakub_kolas__gancashchyna.html



**Якуб Колас. 1908 г.**

Крыніца: http://kimpress.by/index.phtml?page=2&id=2323

няй губой. Захаваўся адпаведны здымак. Самае цікавае, гэта выява лёгка даступная ў Інтэрнэце. Вось як выглядаў Якуб Колас «у няпоўныя дваццаць»!

Дамо слова і самому класіку, які, як мы ведаем, з'яўляецца прататыпам свайго галоўнага героя Андрэя Лабановіча. І каб чытач не сумняваўся ў тоеснасці літаратурнага героя і жывога чалавека, прывядзём наперад словы прызнання Якуба Коласа: "Лабановіч – мой двайнік. Выдуманага ў яго паводзінах і характары нічога няма" (Збор твораў у 14 т., Мінск, 1978, Т. 14. С. 73). Значыць, прыкладна так, як вышэй на здымку, выглядаў і галоўныя герой аповесці "У Палескай глушы" – малады цельшынскі настаўнік Андрэй.

Які ж здымак быў узяты за аснову аўтарамі бюста? Шляхам параўнання можна здагадвацца, што гэта фота 1908 г. Тут Канстанціну Міцкевічу 26 гадоў. Прыкметна пасталелы. Шэсць гадоў, як скончыў семінарыю, і чатыры гады, як пакінуў Люсіна. А наперадзе – тры гады зняволення.

Вольна абышліся з класікам скульптары. Занадта. Але, аказваецца, нават пры такім павярхоўным абыходжанні, вучнёўскім вывучэнні матэрыялаў (праз Інтэрнэт), аўтары, па іх словах, мелі цяжкасці: «...Особенно тяжело нам дались руки: мы пересмотрели десятки фотографий песняра, но не нашли ни одной, где бы он скрещивал их на груди, – а ведь мы хотели запечатлеть его именно в этой позе. Пришлось обращаться за помощью к натурщику» (крыніца: "Знамя юности», 9-15 верасня, 2011. С. 11).

Кепска шукалі. Звярнуліся б да коласазнаўцаў, ці ў музей, ці да Міхася Канстанцінавіча – і праблема была б у момант вырашана: сын выкапаны бацька. Здымак Якуба Коласа са складзенымі на грудзях рукамі ёсць. І гэта не нейкае таемнае фота, а досыць распаўсюджаная і вядомая выява, на якой адлюстраваны паэт адразу пасля выхаду з турмы. Штопраўда, у Інтэрнэце, здымак не трапляўся (вось дзе сабака зарыта!). Затое адбітак прысутнічае ў шырока растыражаваным школьным

альбоме “Якуб Колас. Жыццё і творчасць” (Мінск: Народная асвета, 1974. С. 48). Аднак, як прызнаюцца скульптары, “ведаў са школьнай і інстытуцкай праграмы пра жыццё і творчасць Якуба Коласа аказалася мала” (крыніца: ЛіМ, 2011, 2 верасня. С. 5). Як бачым, аўтары не здраджваюць шчырасці. Так і хочацца сказаць: бягом назад у школку!

І вось што яшчэ дрэнчыць: пальцы. Пальцы на скульптурным увасабленні Якуба Коласа атрымаліся рыхтык, як у піяніста. Ну, ці хаця б… у натуршчыка – прыгожага хлопца, у якога калі трэба нешта мець даўжэй для прыгажосці, то так яно і ёсць. Іншых мо не бяруць у натуршчыкі? Наўрад ці сярод іх бываюць сялянскія тыпажы. З грубай, шырокай далонню, кароткімі, моцнымі пальцамі. Менавіта такія былі і ў Коласа – спадчыннага селяніна. Дужага настолькі, што не меў сабе роўных па перацягванні на пальцах (нават тады, калі стаў займацца ў асноўным інтэлектуальнай працай). Фатаграфічных сведчанняў пра тое, якімі былі пальцы ў паэта, процьма. Яны ёсць у любімым аўтарамі бюста Інтэрнэце (для пацверджання прыводзім далей пару прыкладаў, на якіх выразна відаць генетычны характар кісцей Якуба Коласа). Нямала такіх здымкаў і ў згаданым вышэй школьным альбоме (с. 123, 138, 143, 145, 152, 157 і інш.). Зрэшты, у музеі захоўваецца пасмяротная маска паэта, якая ахоплівае і выразна адлюстроўвае ягоную кісць.

Нашто ж, нашто ж аўтары прызналіся?! Ніколі не паглядзеў бы на тыя рукі, а паглядзеўшы не падумаў бы, што скульптары так нягегла абышліся з увекавечаннем памяці пра народнага паэта. Нашто ж яны адкрыліся ў сваёй залежнасці ці абмежаванасці Інтэрнэтам? І тым самым падштурхнулі падумаць пра вынік іх работы – ні больш, ні менш дзяржаўнага заказа. Нашто яны строяць кепікі з Коласа? А, магчыма, проста адбылася – і на гэта будзем спадзявацца – такая гісторыя аднаго канфузу.



**Якуб Колас. 1911 г.**

(Адбітак з фондаў музея Якуба Коласа.)



**Якуб Колас. 1952 г.**

Крыніца: http://www.yakubkolas.by/ru/news/116/

Каб не завяршаць публіцыстычны опус на рытарычнай ноце, лаканічна рэзюмуем нескладаную мараль *сей басни*. Хацелася б адносна



**Якуб Колас з дзецьмі. Каралішчавічы. 1952 г.**

Крыніца: http://www.lib.vsu.by/web_index/news/yakub_kolas/pedagog.html

айчыннай культурнай спадчыны, якая *спакон вякоў засталася нам ад прадзедаў,* бачыць перш за ўсё шанаванне і павагу, а таксама сур'ёзнасць і прафесіяналізм пры выяўленні шанавання і павагі. Гэта не значыць, што нельга прымяняць той ці іншай ступені іроніі адносна нашай культуры, нават класікаў: здаровы смех карысны, ды яму – сваё месца і час. У дадзеным выпадку ні Якуб Колас, ні беларускі народ, ні дзяржава не заслужылі той іроніі *(вольнай ці міжвольнай)*, з якой, як сведчаць працытаваныя матэрыялы, аднесліся аўтары (пэўна, і не толькі яны) да ўстанаўлення бюста народнаму паэту, што ў сваю чаргу справакавала ў аўтара гэтых радкоў таксама іранічную крытыку. Прашу яе ўспрымаць канструктыўна і загадзя прыношу прабачэнні, калі хто з цытаваных тут сучаснікаў пакрыўдзіўся. Магчыма, рэпрэзентуемы погляд занадта суб'ектыўны. Аднак падставы для яго – рацыянальнага, а не эмацыйнага парадку – ёсць, і гэта патрабуе адпаведнай рэакцыі – дзеля нашай культуры.

# Рымейк

## Воўк-дурань

*Экалагічная казка, прымеркаваная да Дня здароўя (па матывах народнай казкі, апрацаванай Якубам Коласам)*

Прапанаваная п’еса – рымейк фальклорнага твора. За аснову была ўзята казка, некалі запісаная, па-мастацку апрацаваная народным паэтам Якубам Коласам, для якога фальклор быў крыніцай творчага натхнення.

Дзень здароўя праводзіцца кожны год, таму інсцэніроўка не перастане быць актуальнай. Сцэнарый напісаны для лялечнага тэатра, але можа быць прыдатны як для шырокага кола пастановачных калектываў, так і самых розных гледачоў. Праўда, пры пастаноўцы для падрастаючага пакалення давядзецца выкінуць некаторыя “дарослыя” фразачкі.

У наш век люд паспаліты імкнецца асталявацца ў горадзе. Але якраз гэта казка падкрэслівае вартасць жыцця вясковага, жыцця натуральнага, якога вельмі часта мы не шануем. А тэма здароўя надзённай была і будзе.

**Аўтар** (можа гаварыць з-за шырмы)
**Воўк**
**Баран**
**Гусак**
**Лягушка**
**Свіння**
**Мядзведзь**
**Бабулька**

З’яўляецца баран. Пасвіцца на полі.

**Баран:** Бе-бе-бе-бе.

*З’яўляецца бабуля.*

**Бабуля:** Ой, якая гарачыня! Сонца з самай раніцы пячэ і пячэ. А лесу застаецца ўсё менш ды менш. Хутка і ў цянёк не будзе куды схавацца.

*Да бабулі падыходзіць баран.*

**Бабуля:** Ну, што, баранчык мой харошы, ці смачная траўка?

**Баран:** Сма-а-ачна-а-а-я! Сакавітая, без хімікатаў. Не тое што ў горадзе.

**Бабулька:** Ну, то і пабегай па полі, фізкультураю займіся, каб здаровенькім быць. Я паглядзела – ваўкоў, здаецца, не відаць, зусім звяліся звяры ў нашых лясах. Не дзіва – есці ж нават непераборлівым ваўкам няма чаго. А ты, баранчык, у мяне адзін на ўсю акругу застаўся.

**Баран:** Ідзі, бабулечка, адпачні, а я сам тут пагуляю. Баяцца мне няма каго: адным прыёмам самба каго хоч у бараноў рог скручу!

*Бабуля знікае.*

**Аўтар:** Стары галодны воўк выйшаў з лесу на поле.

*З’яўляецца воўк.*

**Воўк:** Р-р-р-р. З голаду аж духі ўсе падвяло. Гэта ж ад самай раніцы – ні расінкі макавай у роце не было. Асушылі ўсе крыніцы, гарадскія трубы ўжо на наш лес наступаюць. Скора яму будзе – ТРУБА!!! Адна вялікая труба! Людцы мае даражэнькія! Не паверыце! Хутка зайца без дабаўкі Е 628 не злавіць будзе! Я ўжо страшныя сны пачаў сніць: лаўлю шэрага, а на ім цэтлік – “заяц са смакам зайчаціны і, не паверыце, кетчупу”!

**Аўтар:** Бачыць воўк – на полі баран ходзіць. Падкраўся воўк ціхенька да барана і схапіў яго.

**Воўк:** Баран, баран, я цябе з’ем! Ты такі натуральны, падцягнуты! Не тое,

што я: страўнік шалее, кашляю пастаянна, косці ломіць.

**Баран:** Канешне, здаровы, фізкультураю займаюся, не п’ю, не куру (у адрозненне ад некаторых, якія яшчэ да пенсіі выглядаюць стогадовымі дзядкамі). Ну, еш, калі доля ў мяне такая.

**Воўк:** Такая-такая. Эх! Якая ўкусная і здаровая пішча!

**Баран:** Толькі ведаеш што, воўк. Каб мне не мучыцца доўга, дый і табе не ламаць карыесныя зубы аб мае спартыўныя косці, стань унь там у лагчынцы, разяў рот шырока-шырока, а я разганюся і цалкам табе ў пашчу ўскочу.

**Воўк:** Сам?

**Баран:** Сам-сам.

**Воўк:** Але ж ты і разумны, хоць і баран! Напэўна, ай-кю на компе натрэніраваў.

**Баран:** Разумны-разумны.

**Воўк:** Гэта ж мне нічога рабіць не трэба! Каб яшчэ сто грамаў да такога сняданку!... Бо нашча чарачку кульнуць – усё адно што ў рай зірнуць.

*Воўк становіцца на краі шырмы.*

**Баран:** Не балбачы. Шырэй рот разяўляй.

**Аўтар:** Баран меў накачаныя мышцы і як разагнаўся ды як даў ваўку ў галаву. У таго аж іскры з вачэй пасыпаліся.

**Воўк:** Ой, а я яго з’еў ці не з’еў? Мусіць, не, бо есці мне ўсё роўна хочацца. Ды яшчэ і апошнія зубы пакрышыліся.

**Аўтар:** Сяк-так ачухаўся воўк і пацягнуўся да возера вадзіцы папіць і дух перавесці.

*З’яўляецца лягушка.*

**Лягушка:** Ква-ква-ква! Ква-а-а! Гляньце-ка! Ото ж воўк дурань! Задумаў са сваім хілым здароўем спартыўных бараноў цалкам глытаць!

**Воўк:** Што?! А ну прэч адсюль!

**Лягушка:** А я кажу дурань! Спортам займацца трэба, лепей плаваннем, бы я.

**Воўк:** Пайшла адсюль, я табе сказаў! Эх! Каб зараз ад нерваў цыгарку!.. А з лістоты скруціць самакрутку сёння нават з маім шматгадовым стажам курыльшчыка страшна: хто ведае, чым яна апырскана. Усё меньшэ акружаюшчай прыроды, усё большэ акружаюшчай срады!

**Аўтар:** Агледзеўся воўк і бачыць – на другім беразе гусі ходзяць. Ён выбраў самага тлустага гусака і да яго.

**Воўк:** Гусак, гусак, я цябе з’ем! Ты хоць не на хімікатах рос?

**Гусак:** Ой, рос я, гадаваўся на вадзічцы чысценькай, далёка ад горада. Таму і выглядаю бліскуча. Што ж, еш, калі доля мая такая... Толькі ведаеш, воўк, у нас, у гусакоў, ёсць традыцыя.

**Воўк:** Якая яшчэ традыцыя?

**Гусак:** А такая, што перад смерцю мы, гусакі, мусім паскакаць, мышцы размяць, каб смачнейшымі былі. Вось ты сыграй мне на якім-небудзь музычным інструменце, а я перад смерцейкай сваёй патанчу.

**Воўк:** На чым жа я табе зайграю? У мяне ніякіх інструментаў няма. Сыграў бы на зубах – пакрышыліся. На хвасце – дык ён ужо даўно ад курыва ды выпіўкі не наструньваецца, і ваўчыцы перасталі на мяне зазіраць.

**Гусак:** Што, праўда няма на чым зайграць?

**Воўк:** Ну, паглядзі *(круціцца, паказвае, што музычных інструментаў не мае).*

**Гусак:** А што ж тады рабіць? О, слухай, воўча, а можа, ты спяваць умееш?

**Воўк:** О-о-о! Спяваць я мастак! *(Чухае галаву і дадае.)* Быў. У маладосці. Якія серэнады завываў, вершы чытаў:

Ўтыкайце штопар в упругасць пробкі,
І ўзгляды жэншчын ня будуць робкі,
І к пацалуям заўюцца тропкі!

Або во з Якуба Коласа:

Жыві, брат, сённяшнім жыццём!
Бяры, што можна ўзяць сягоння,
А заўтра ў Богавых руках,
І заўтра можа быць нам крах.
Зірнем жа радасці ў бяздонне
І на дзявочае ўлонне
Прыхілім тленны мы свой прах.

Што, не чакалі такога ад нашага класіка? Я і болей паэзіі ведаў. Ды пачаў я злоўжываць, па два пачкі "Прымы" выпальваць. А сёння ніякая прыма ў мой бок і не гляне. Усё: прапаў голас маладзецкі! Пахрыпець адно магу, як Шуфуцінскі.

**Гусак:** Дык ты тады хоць як заспявай, а я пад твае спевы перад смерцю патанчу.

**Аўтар:** Сеў воўк на купіну, задраў галаву ды як пачаў выць.

**Воўк:** У-у-у-у-у-у Ў плаўнях шорах і лягавая застыла чутка,
Снова выстрал, толька снова павязло ня мне.
Вечарэе і над возерам лятаюць вуткі,
Разжырэлі – вутка восенню ў бальшой цане.

**Аўтар:** А гусі тым часам крыламі лапу-лапу, узняліся ў неба і паляцелі.

**Воўк:** У-у-у-у, даспяваўся... Паляцела мая ўкусная і здаровая пішча...

**Аўтар:** І пацягнуўся воўк да вёскі. Бачыць: каля вёскі ў хвойніку свіння рыецца.

*З'яўляецца свіння.*

**Воўк:** Вось цябе, свіння, я дакладна з'ем! Бачу, ты ў адрозненне ад іншых сваіх сародзічаў у лужынах не валяешся, халестэрыну не ясі, здаровы лад жыцця вядзеш.

**Свіння:** Што ж, еш, калі доля мая такая. Толькі ведаеш што? Я хоць і вяду здаровы лад жыцця, але вельмі грэшная. Ці не паспавядаў бы ты мяне перад смерцю?

**Воўк:** А як гэта? Я не ўмею.

**Свіння:** О, дык гэта лёгка, я цябе навучу. Задавай мне пытанні, што я ў сваім свінячым жыцці рабіла, ці грашыла, ці не грашыла, а я буду табе адказваць.

**Воўк:** Дык гэта лёгка. Та-а-ак, што б такое спытаць? Ага, а скажы мне, свіння, можа, ты ў чужыя агароды лазіла?

**Свіння:** Ой, каюся: лазіла ў чужыя агароды, асабліва ў тыя, што ўдабраліся гноем з-пад кароў і не крапіліся хімікатамі. Грэшная я, грэшная!

**Воўк:** Та-а-ак, а можа, ты, свіння, там яшчэ і чужое дабро крала?

Свіння: Воўча, ты быццам толькі ўчора на свет нарадзіўся. Чаго б я лазіла ў тыя агароды, каб там нічога не крала? Крала! І ела! Гэта ж вітаміны! Ой, грэшная я, грэшная!

**Воўк:** Та-а-ак, а можа, ты, свіння, і парасятак малых крыўдзіла?

**Свіння:** Ой, воўча, было і такое. Крыўдзіла: прымушала маленькіх парасят фізкультураю займацца, бегам там, турнікамі. Грэшная я, грэшная!

**Воўк:** Дык ты, свіння, сапраўдная свіння. Ды цябе за гэта не тое што з’есці, – з усімі костачкамі варта праглынуць!

**Свіння:** Пачакай-пачакай! Нельга мяне яшчэ есці. Гэта ты мяне паспавядаў, а цяпер грахі мае трэба адпусціць.

**Воўк:** А як гэта?

**Свіння:** О, гэта яшчэ нават прасцей, чым спавядаць. Кладзеш лапу мне на галаву і кажаш: адпускаю табе, свіння, усе твае свінячыя грахі!

**Воўк:** І тады можна есці?

**Свіння:** Так, тады ўжо можна есці.

**Аўтар:** Толькі воўк паклаў лапу свінні на галаву, яна як штурхане яго лычам. Свіння была натрэніраванай і дужай. Воўк, перакуліўшыся некалькі разоў, трапіў у яму. Сядзіць у яме, вылезці не можа і голасна плача.

**Воўк:** Ці я той хапун, што бараноў цалкам глытаў?! Аў-у-у! Ці я той музыка, што гусям спяваў?! Аў-у-у! Ці я той поп, што свінню спавядаў?! Аў-у-у!

**Аўтар:** На той плач выйшаў аж сам гаспадар беларускага лесу – мядзведзь, алімпійскі чэмпён па цяжкай атлетыцы.

*З’яўляецца мядзведзь.*

**Мядзведзь:** Так, а што гэта тут робіцца? Воўк?

**Воўк:** Воўк...

**Мядзведзь:** У яме сядзіш?

**Воўк:** Сяджу...

**Мядзведзь:** Выеш?

**Воўк:** Выю...

**Мядзведзь:** Мусіць, ты зноў крыўдзіў жывёл?

**Воўк:** Ну, я толькі крышачку-у-у. Хіба пакрыўдзіш іх: усе спартыўныя, здаровы лад жыцця вядуць, не п’юць, не кураць...

**Мядзведзь:** А хто табе замінае з іх прыклад браць?! І не ведаю нават, што з табою рабіць.

**Воўк:** А можа, выцягні мяне? У апошні раз. Калі ласка-а-а.

**Мядзведзь:** Ну, добра, у апошні раз.

*Мядзведзь выцягвае ваўка з ямы.*

**Воўк:** От, дзякуй, я пайшоў.

**Мядзведзь:** Куды пайшоў?! А цяпер абяцай, што ніколі не будзеш крыўдзіць жывёл і будзеш з іх браць прыклад: кінеш свае шкодныя звычкі.

**Воўк:** А што ж я тады буду есці? Я ж воўк!

**Мядзведзь** (*Прапануе аўдыторыі прыдумаць варыянты.).* Як вы думаеце, што яму патрэбна есці? Будзеш есці грыбы, траву і воўчыя ягады! Або вучыся ад мяне мядок дзікіх пчолак збіраць – такая смаката! У нашым лесе, дзякуй Богу, яшчэ хапае экалагічна чыстых прадуктаў. А зайцоў ды іншых жывёлінак каб і не думаў чапаць! І сваім родзічам перакажы. Нас не так шмат засталося, каб мы адзін аднаго крыўдзілі.

**Воўк:** Але ж хіба грыбы і травы смачныя?!

**Мядзведзь:** А для цябе будуць смачныя! Станеш вегетарыянцам. А лекавымі траўкамі яшчэ і здароўе паправіш. Абяцай, бо інакш будзеш мець справу са мной!

**Воўк:** Эх, абяцаю.

**Мядзведзь:** На гэтым і спынімся.

*Мядзведзь знікае.*

**Аўтар:** Ад той пары, не ведаю, як іншыя ваўкі, а гэты “завязаў” з мінулым і цяпер бегае па лесе – лёгкай атлетыкай займаецца. Людзі кажуць, і ваўчыца ў яго з’явілася.

